# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №12 (88)
(снежань)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



ЛЁСЫ

## ГУРЫК ПІША ЛАРУЦЕ...

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

**Кніга так і называецца: «Лісты жыцця і кахання». Апрыёры адзначаецца такім чынам яе жанравая адметнасць і робіцца ўдакладненне, што шматгадовае ліставанне закаханых адрасантаў звязана непасрэдна, літарай і духам сваімі, з рэальным жыццём.**

Менавіта пра гэта сведчаць і першыя радкі прадмовы: «Жыццё аўтараў гэтай кнігі прыйшлося на пакутлівае XX стагоддзе, калі здарылася столькі цяжкіх і жудасных падзей для ўсяго чалавецтва і многіх людзей паасобку: дзве сусветныя вайны, рэвалюцыі, бальшавіцкі тэрор, галадамор». Тут жа аўтар прадмовы зазначае далей перадумову, маральна-псіхалагічную матывацыю ліставання — пачуццё вялікага, узаемнага, глыбокачалавечнага кахання. Ён піша пра суджэнцаў, як пра «дзве палавінкі аднаго цэлага», пра тое, што «супольная праца, блізкія імкненні і думкі выклікалі спачатку шчырую сімпатыю, якая неўзабаве перарасла ў сардэчнае прыцягненне і, нарэшце, у сапраўднае Вялікае Каханне, якое яны пранеслі праз усё жыццё і якое дапамагло перажыць усе ліхалецці».

Так, пад знакам Вялікага Кахання, пад светлаю Зоркай Венерай Гурык піша Ларуце, Ларута (Лара) піша Гурыку. Так яны адзін аднаму завуць, так яны адзін да аднога звяртаюцца. З адпаведнымі, вядома ж, эпітэтамі, са словамі незвычайнай пачуццёвай моцы і духоўнай красы...

Колькі гадоў таму выходзіла вялікім накладам, расхопліваласяў кнігарнях і з захапленнем, памятаю, чыталася кніга «Что движет солнце и ветрила?» з падзагалоўкам: «Каханне ў лістах вялікіх людзей». Мушу сказаць, што многія з тых лістоў блякнуць у параўнанні з «лістамі жыцця і кахання». Асабліва не ў меру высокамоўныя, з завучанымі, шаблоннымі зваротамі — пачатковымі і развітальнымі. Блекнуць, цьмянеюць перад героямі кнігі, нашымі рэальнымі сучаснікамі з іх каханнем, іх учынкамі, іх лёсам усе гэтыя літаратурна-казачныя Трыстаны ды Ізольды, Русланы і Людмілы, Дафнісы і Хлоі...




> Вось такія яны — «лісты жыцця і кахання». Вось такія яны — аўтары гэтых незвычайных лістоў. Яны пісалі, прамаўлялі гэтак, як жылі, словы ў іх не разыходзіліся з іхнімі справамі і ўчынкамі

Уражвае ўжо сама геаграфія ліставання, тыя абставіны, пры якіх пісаўся той альбо іншы ліст. Чытаем: «8.VII.38. Мая любая, любая! Мая самая дарагая, самая харошая, мая чыстая, светлая Ларута! Вітаю цябе з нашым радасным днём, з пятнаццацігоддзем нашага сумеснага шчасця, шчасця, якое не праходзіць, а ўсё паглыбляецца і павялічваецца... Ня будзем сумаваць, гараваць. Загартуемся, панясем, захаваем нашае шчасьце ў нашых сэрцах глыбока-глыбока... Позьні час ужо. Не стэнаграфаванае пісаньне зацягваецца, думкі бягуць шпарчэй. Дабранач на сёньня, мая галубка, дабранач, мая сонечная, ласкавая. Твой Гурык». Гэта радкі з ліста, які быў напісаны драбнюткімі літарамі на тонкіх, для самакрутак, паперках у салавецкай турме. Потым адпраўляецца ліст «з-пад берагу Анежскага возера». Наступны — з Салікамска. На іншых, з цягам часу, пісьмах пазначаны мясціны, населеныя пункты, станцыі: Баравічы, вёска Вялікая Ніва, Чарэпавец, Уфа, Камышлоў, Вавож, вёска Рускі Задлуд, станцыя Кузіна, станцыя Пенза, Масква, Чунжыно, Порыш-Торыно, станцыя Кіраў, Горкі-вакзал, станіца Раманаўская, Мелітопаль, Керч, Гудаута, Масква, Тамань, Ялабуга, Дзедаўск, Чарнобыль (той самы!), Чабаксары — пасажырскае судна, Чаркеск, Растоў на Доне, Смаленск, Чырвоная Горка, Масты — поплаў Нёмана... «Широка страна моя родная (і г.д.)... От Москвы до самых до окраин, от южных гор до северных морей». Было дзе размахнуцца са сваім змушаным ліставаннем спачатку зэку, потым умоўна рэабілітаванаму «ворагу народа», савецкаму, беларускага паходжання, інжынеру-геолагу.

Гурык піша Ларуце, Ларута (Лара) піша Гурыку. Як, якой мовай? У дадзеным выпадку гэта — асобная тэма, — для літаратуразнаўцы-тэкстолага. Ды не магу не сказаць усё ж некалькі слоў. Хаця б пра тыя самыя эпітэты, азначэнні, параўнанні. Рэч у тым, што Ларута для Гурыка не толькі адназначна «любая», «дарагая», «харошая», «родная» і «мілая». Яна для яго — і «само сонца», «само шчасце», і «Das Evigweibliche» («вечная жаноцкасць»), і «пралесачка дрыжучая, зелянёк кволы», і «Вераніка скромная, ціхая», і «званочак сінюткі», і «вялікае сэрца, верная мне Сольвэйг»), і «чабор пахучы», і «белы мятлік». І яшчэ — выдзелю асобна — «мой дарагі, мой любы Здрыжнічак». Гэтае нечаканая адметнае азначэнне пераходзіць з ліста ў ліст. Давялося шукаць тлумачэння ў слоўніках, у адным, у другім. Знайшоў у «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» І.К.Бялькевіча: «ЗДРЫЖНІК, -а, м. бат. Здрыжнік, канапелькі, божыя слёзкі». Вось такі вобраз, такое дзівоснае параўнанне.

У адным з лістоў гучыць прызнанне: «Калі б я ня быў геолагам, дык стаў бы этнографам». Застаючыся геолагам, Гурык з'яўляецца адначасна і натхнёным песняром сваёй любай Ларуты. Мае рацыю Міхась Мушынскі, які, грунтоўна даследуючы тэму, зазначае: «Не будзе перабольшваннем сказаць, што паэты-рамантыкі ў сваім абагаўленні «чароўнай дамы» нават саступаюць прызнанням беларускага вучонага».

Каханне ўзаемнае, узаемнасцю прасякнутае наскрозь і ліставанне. Ларута піша Гурыку ў тым жа духу, з тымі ж пачуццямі, з тым жа суперажываннем. Ён для яе і «родны, дарагі Гурык», і «родны Гурынька», і «любы Гурэечка, зоранька далёкая», і «любы Гурэйка, зямлісты Гур», і «любачка дарагі, Гур-Гурэечка», і «адзіны праз усё жыццё»... Гэта зачыны, пачатковыя радкі пісьмаў. А вось звароты развітальныя: «Бывай, бывай, маё сонца, сэрца, жыццё... Хай будзе табе добра, хай задача вядзе твой крок, моцна б'ецца сэрца. Цалую цябе ўсяго, лашчу. Твая Лара», «Вельмі хачу мець твае лісты ўжо за гэты месяц. Радыё слухаем штодня. Многа трэба сілы і цьвёрдасці, каб захаваць супакоенасьць. Цалую цябе, мой голубе, лашчу. Твая Лара», «Бывай здароў, мой родны, дарагі. Кожную хвіліну думкаю з табою. Твая Лара. Цалую, тулюся, шапчу табе аб любасьці сэрца майго»...

А калі ён, яе любы Гурык, паведамляе ў сваім лісце, напісаным ноччу ў нейкім Поныш-Торыно, пра сваё адчайнае, прынятае, пэўна, у мінуты душэўнага ўзрушэння рашэнне «аддаць усё за магчымасць займацца самому дасьледваньнем Беларусі: самога сябе, каханьне, сям'ю», адрачыся дзеля справы «ад сябе, ад блізкіх, родных, любых, ад сэрца» (ліст датаваны 21.VII.44.) — то яна, Ларута, годна сустракае такую навіну і напраўду самаахвярна адказвае ў сваім лісце: «...вельмі разумею твае жаданьне астатак жыцьця аддаць Бацькаўшчыне». Ды яшчэ дадасць ласкава, без ценю крыўды і дакору (Гурык яе просіць не крыўдаваць): «Цалую цябе, лашчу, абдымаю. Твая Лара» (ліст ад 11.VII.44 г.).

Вось такія яны — «лісты жыцця і кахання». Вось такія яны — аўтары гэтых незвычайных лістоў. Яны пісалі, прамаўлялі гэтак, як жылі, словы ў іх не разыходзіліся з іхнімі справамі і ўчынкамі.

Ну ды, мяркую, самы час «расшыфраваць» усё ж гэтыя памяншальна-ласкальныя, сямейныя «Гурык» і «Ларута» ды ўдакладніць — хоць чытач, пэўна, і без таго здагадаўся, — што кнігу «Лісты жыцця і кахання», якая сёлета пабачыла свет у выдавецтве «Тэхналогія», склалі пісьмы слыннага навукоўца і грамадскага дзеяча Гаўрылы Гарэцкага і яго жонкі Ларысы Парфяновіч-Гарэцкай. Падрыхтаваў жа кнігу да выдання акадэмік, доктар геалага-мінералагічных навук, прафесар і аўтарытэтны грамадскі дзеяч Радзім Гарэцкі, г.зн. Гарэцкі-малодшы. Яго пяру належыць і цікавая прадмова і грунтоўныя каментары да кожнага з раздзелаў кнігі. Р. Гарэцкі надзвычай шмат зрабіў для захавання і ўвекавечання спадчыны свайго бацькі. Выданне кнігі «Лісты жыцця і кахання» — яшчэ адна ягоная высакародная, важная для ўсіх нас справа.

*7 снежня Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі адзначыў сваё 85-годдзе. «Літаратурная Беларусь» разам з аўтарам гэтага эсэ шчыра віншуюць юбіляра ды жадаюць яму радасці і здароўя!*

## ПАЛІЦА

### ДРУГІ «НОВЫ ЗАМАК»




Пабачыў свет другі нумар літаратурнага альманаха «Новы Замак», які выдаецца Гродзенскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Укладальнік выдання — Сяргей Астравец, рэдактар — Юрка Голуб.

У «Новым Замку» змешчаныя творы больш за двух дзясяткаў аўтараў: паэзія, проза, драматургія, пераклады, дзённікі, успаміны. У рубрыцы «Са спадчыны» публікуецца драматычная паэма «Каранацыя Міндоўга» Міколы Арочкі (1930–2013) і вершы Юрыя Кісялеўскага (1961–2008). Успаміны Алы Петрушкевіч пра Едруся Мазько і Сяргея Астраўца пра Юрыя Гуменюка можна знайсці ў раздзеле «In memoriam».

**Прэс-служба СБП**

САЮЗ

## ТВОРЦАМ СУЧАСНАЙ УКРАІНЫ

**Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў**

Дарагія сябры, браты і сёстры! У гэтыя лёсавызначальныя дні і ночы ад імя пісьменнікаў Беларусі выказваем вам сваю шчырую павагу і падтрымку.

Увесь свет сочыць сёння за падзеямі ўкраінскага Майдану. Многія беларусы плячо да пляча стаяць разам з вамі ў шыхтах супраціву, сотні тысяч падтрымліваюць вас.

Салідарызуючыся са сваімі ўкраінскімі калегамі, беларускія пісьменнікі далучаюць свой голас да вольных украінскіх гімнаў і жадаюць братэрскаму народу-суседу вытрымкі, мудрасці і мужнасці на еўрапейскім шляху!

Будзьце годнымі памяці сваіх нацыянальных герояў!

Слава Украіне!

**10 снежня 2013 г.**

## СНЕЖАНЬСКАЕ ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ

**Чарговае пасяджэнне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылося 10 снежня. На ім акрамя сябраў Рады прысутнічалі кіраўнікі ўсіх абласных аддзяленняў СБП.**



Фота Алены Казловай, lit-bel.org

Прайшоў прыём у сябры грамадскага аб'яднання, а таксама былі абмеркаваны план святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю Саюза беларускіх пісьменнікаў.

13 літаратараў былі прынятыя ў шэрагі СБП: Святлана Абдулаева, Наталка Бабіна, Віктар Бяляцкі, Наталля Гардзіенка, Вольга Гронская, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Міхась Зізюк, Севярын Квяткоўскі, Алесь Мара (Аляксей Марачкін), Лідзія Мініч (Андрэева), Ганна Новік, Дзмітрый Строцаў і Сяргей Харэўскі.

Рада СБП таксама станоўча разгледзела заявы аб вяртанні ў старэйшую творчую арганізацыю Беларусі пісьменнікаў Алеся Наварыча і Андрэя Паўлухіна.

## СТУДЗЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



05.01.1949 — Уладзімір Уладзіміравіч Барысенка (Пасялкоў)
12.01.1929 — Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў
17.01.1964 — Андрэй Міхайлавіч Федарэнка
12.01.1979 — Андрэй Віктаравіч Барадушкін

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

СЯБРЫНА

# ДВА КРЫЛЫ ЛІТПАМЕЖЖА

**Ва ўкраінскім горадзе Луцк прайшла прэзентацыя кнігі перакладаў брэсцкіх пісьменнікаў на ўкраінскую мову і кнігі перакладаў валынскіх паэтаў і празаікаў на беларускую.**

Рэгулярныя стасункі паміж Валынню і Берасцейшчынай на ўзроўні літаратурных аб'яднанняў бяруць пачатак з верасня 1975 года, калі пісьменнікі Брэста, Луцка і Львова сустрэліся ў сялянскай сядзібе маці першага беларускага касманаўта Пятра Клімука Марфы Паўлаўны. Ад таго ўжо і няблізкага часу ладзяцца амаль штогадовыя літаратурныя сустрэчы берасцейцаў і валынян. У апошнія гады яны сталі яшчэ больш частымі, бо пісьменнікі Берасцейшчыны — заўсёды жаданыя госці на паэтычным свяце «Лісова пісня», якое апошнія дзесяць гадоў праходзіць на Ковельшчыне ў першую нядзелю жніўня (акурат гэтай парою ў 1911 годзе Лэся Украінка завяршыла напісанне сваёй знакамітай драмы-феерыі). Пасля такіх сустрэч у мінулыя гады звычайна з'яўляліся падборкі вершаў у літаратурна-мастацкіх часопісах краін-суседзяў. І вось нарэшце плёнам літаратурнага супрацоўніцтва сталі кнігі. У Луцку ў выдавецтве «Терен» іх выйшла адразу дзве: «Берестейське багаття» (творы паэтаў і празаікаў Берасцейшчыны ў перакладзе на ўкраінскую мову) і «Думы і пісні Валині» (творы паэтаў і празаікаў Валыні ў перакладзе на беларускую мову). Абодва выданні пабачылі свет пры фінансавай падтрымцы экспертнай рады па пытаннях выдавецкай справы Валынскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі. Паспяховая рэалізацыя арыгінальнага праекта — знакавая падзея ў культурным жыцці беларуска-ўкраінскага памежжа.

…Трымаю ў руках з густам выдадзеныя томікі. На вокладцы кожнага з іх палескія краявіды: возера, чараты і сонечная дарожка на вадзе аздабляюць кнігу перакладаў на беларускую мову; сонечныя промні на лясной сцяжыне — на вокладцы ўкраінскамоўнай кнігі. Абодва выданні маюць прыкладна аднолькавы аб'ём — каля 230 старонак, у іх змешчаны фотадымкі аўтараў і біяграфічныя звесткі, адлюстраваны найбольш яркія моманты літаратурных сустрэч. Анталагічны характар надае зборнікам і тое, што абодва забяспечаны прадмовамі ўкладальнікаў. Да ўсяго, у кнізе «Думи і пісні Валині» змешчаны артыкул Уладзіміра Калесніка пра творчасць найбольш вядомых майстроў слова Валынскага краю васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, большасць з якіх і да нашага часу актыўна працуе.

Берасцейцы пераклалі на беларускую мову вершы і апавяданні 34 валынскіх літаратараў, валыняне на ўкраінскую — 43 берасцейскіх. Нашы калегі палічылі неабходным уключыць у «Берестейське багаття» творы тых пісьменнікаў Прыбужскага краю, якія ўжо пакінулі гэты свет, але ў свой час многа зрабілі для ўмацавання братэрскіх сувязяў: Мікола Купрэеў, Ніна Мацяш, Міхась Рудкоўскі, Васіль Сахарчук, Яўгенія Янішчыц… І ўсё ж асноўнае месца ў зборніку займаюць творы сучасных берасцейскіх паэтаў і празаікаў.

Няма сумнення адносна таго, што новыя кнігі з цікавасцю будуць сустрэты філолагамі, усімі прыхільнікамі мастацкага слова. Яны дапамогуць чытачам па абодва бакі мяжы ўсвядоміць адметнасць сённяшняга літаратурнага жыцця Валыні і Берасцейшчыны. Творчасць яднае людзей не горш, чым дыпламатычныя пратаколы.

А наперадзе новыя праекты і дамоўленасці. У ідэале, усё лепшае, што напісана і выдадзена ў кожным з нашых рэгіёнаў, павінна быць перакладзена на мову суседзяў. То няхай яно так і будзе. Мы, літаратары-суседзі, блізкія тэмамі, нас хвалююць адны і тыя ж духоўныя праблемы, і ў той жа час у кожнага адметная манера пісьма, творчы почырк.

У цяперашняй Еўропе 50% кніжнага рынку — перакладная літаратура. Для нас, беларусаў, літаратура суседніх краін — гэта агромністы духоўны пласт, асваенне якога толькі пачынаецца. Рабіць гэта варта ў тым ліку і для таго, каб яшчэ больш палюбіць сваё, роднае. А дзве новыя кнігі — як два крылы, што прыўзнялі палескае (беларускае і ўкраінскае) слова на новую вышыню.

**Мікола САЯНКЕВІЧ**

## ЛІТАРАТУРНАЕ «БЯЗМЕЖЖА»

**У Старым Ляўкове, што на Беласточчыне (Польшча), адбыўся літаратурны семінар «Бязмежжа». У ім удзельнічалі пісьменнікі, перакладнікі, выдаўцы і журналісты з Беларусі і Польшчы.**



Выступае Яўген Вапа

«Большасць не можа існаваць без меншасці, меншасць не існуе без большасці, — сказаў арганізатар літаратурнага семінару «Бязмежжа» Яўген Вапа. — Семінар — гэта штогадовыя сустрэчы літаратараў і людзей, звязаных з літаратурнай дзейнасцю Польшчы і Беларусі. У час сустрэчы адбываюцца чытанні, даклады, разглядаюцца хвалюючыя актуальныя пытанні, датычныя літаратуры, прэзентуюцца радыёрэпартажы і стужкі… Бязмежжа — гэта, безумоўна, падзея ў літаратурным жыцці беларусаў. Мы, як беларусы, мусім гаварыць пра беларускую літаратуру ў непрымушанай атмасферы, у далечыні ад вялікіх цэнтраў, і, самае галоўнае, мы мусім не саромецца гэтага. Наша ідэя — каб беларусы маглі сустракацца ў нармальнай атмасферы на літаратурных сустрэчах і маглі дыскутаваць пра літаратуру. І гаварыць, што гэта — добрае, а гэта — слабое».

Удзельнікі «Бязмежжа» пазнаёміліся з дзейнасцю Саюза беларускіх пісьменнікаў (у прыватнасці — з выдавецкай серыяй «Кнігарня пісьменніка», часопісам «Дзеяслоў», штотыднёвікам «Новы час» і яго дадаткам «Літаратурная Беларусь»), а таксама з выданнямі кніжнай серыі «Гарадзенская бібліятэка» (каардынатар Павал Мажэйка). Яраслаў Іванюк выступіў з дакладам аб найвялікшай на сёння Беларускай Інтэрнэт-Бібліятэцы Kamunikat.org. Асобнае месца занялі дэманстрацыі дакументальных стужак Фонда «Villa Sokrates», прысвечаных апошнім месяцам жыцця Сакрата Яновіча ды дзейнасці фонда, фільмы Радаслава Дамброўскага пра Віктара Шведа і Міколы Ваўранюка «Людвіка» — пра дзейнасць Сяргея Вітушкі і Людвікі Кардзіс у беларускай Вільні.

Па завяршэнні семінара ў Беластоку было падсумаванне вынікаў шаснаццатага літаратурнага конкурса «Дэбют», арганізаванага тыднёвікам «Ніва» і Беларускім саюзам у Польшчы.

**Радыё Рацыя**

## АРХІЎ ЛЮБОВІ ТАРАСЮК

**Ненадрукаваныя рукапісы і асабістая бібліятэка беларускай даследніцы, кандыдата філалагічных навук Любові Тарасюк — пад пагрозай знікнення.**

Уся матэрыяльная спадчына захоўваецца ў роднай хаце ў Пінкавічах, што пад Пінскам, дзе навукоўца правяла апошнія месяцы свайго жыцця. Яе 88-гадовы бацька Канстанцін Міхайлавіч расказаў, што кнігамі і рукапісамі застаўлены гараж, пакоі, а частку ён раздаў па бібліятэках і ў мясцовую школу. Бацька не супраць таго, каб усё пакінутае сабраць у адным месцы: «Я лічу, што трэба вызначыцца з яе бібліятэкай. Я ў музей Якуба Коласа шмат кніг і фотаздымкаў аддаў і ў дзіцячую бібліятэку таксама…»

За свае 50 гадоў Любоў Тарасюк напісала звыш 200 навукова-метадычных прац на тэму нацыянальнай адукацыі і культуры. Выдала два паэтычныя зборнікі. Уваходзіла ў склад Рады Таварыства беларускай мовы, рэдкалегіі часопіса «Маладосць», з'яўлялася сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Пятро Савіч, Радыё Рацыя**

АСОБА

# Алесь Паплаўскі: «МАІМ НАТХНЯЛЬНІКАМ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ЖЫЦЦЁ»

Сёлетняя кніга Алеся Паплаўскага «Скрыжалі душы» здзівіла незвычайнай вобразнасцю і паэтыкай прыгажосці. Большасць вершаў прасякнута сумам, шчырасцю. Такую паэзію трэба піць маленькімі глыткамі, смакуючы кожны радок, слупок, верш.

Алесь (Аляксандр Фядосавіч) ПАПЛАЎСКІ нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Мазуры Кобрынскага раёна. Скончыў Полацкі лесатэхнікум і Беларускі тэхналагічны інстытут. Працаваў у лясгасах Гродзеншчыны і Брэстчыны. Жыве і працуе ў Берасці. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар трох паэтычных зборнікаў і кніг прозы. Лаўрэат дзвюх літаратурных прэмій (апошнюю — «Залаты апостраф» — атрымаў за надрукаваную летась у часопісе «Дзеяслоў» аповесць «Lapido»).

Пасля знаёмства з творчасцю Алеся Паплаўскага ўзнікла жаданне даведацца пра яго больш. З'явіліся пытанні, за адказы на якія — шчырая ўдзячнасць аўтару.

**Наталля КАНДРАШУК**

***— Спадар Алесь, кожны пісьменнік некалі нарадзіўся. Я маю на ўвазе не фізічны сэнс, а першыя спробы пяра. Творчы старт — які́м ён быў у Вас? З якім настроем рабіліся першыя крокі ў літаратуру?***

— Творчы старт, калі быць шчырым, быў для мяне не зусім удалым. Ва ўсякім разе, мой першы вершаваны зборнік «Спынены лістапад», які пабачыў свет, калі мне было далёка за трыццаць, амаль быў незаўважаны чытацкай грамадскасцю і цалкам праігнараваны крытыкамі. Дарэчы, другі — таксама. І не з-за таго, што вершы, надрукаваныя ў іх, былі слабыя, а з-за таго, што адсутнічала належная рэклама, а гэтыя фактар, безумоўна, у наш час вельмі актуальны і дзейсны. Ды што там казаць, я схільны лічыць, што як паэта мяне і сёння мала хто ведае ў краіне. І ўвогуле, мой шлях у літаратуру быў няпросты. Даводзілася, як я часта жартую, «уваходзіць» не праз дзверы, як гэта робіць пераважная большасць сучасных літаратараў, а праз фортку. Патлумачу, што я маю на ўвазе. Працяглы час мяне амаль не друкавалі на радзіме. Напрыклад, аповесць «Піраміды» гадоў пяць вандравала з часопіса ў часопіс, але так і не з'явілася на старонках аніводнага з іх. Я ўжо ні на што не спадзяваўся і працягваў пісаць у стол. І вось аднойчы, па прапанове Ніны Мацяш, я даслаў яе ў Польшчу Яну Чыквіну. Аповесць яму спадабалася, і ён надрукаваў яе ў сваім часопісе «Тэрмапілы». Гэта і быў мой першы крок у Літаратуру.

***— Што ці хто натхняе Вас на творчасць?***

— Творчасць — гэта, найперш, цяжкая, карпатлівая праца, якая патрабуе і ўседлівасці, і дысцыпліны, і шмат чаго іншага. Важна не толькі расказаць людзям нейкую гісторыю. Важна расказаць яе па-свойму, адметна, так, як ніхто яе да цябе не расказваў. Менавіта гэтай навязной ды адметнасцю ты становішся цікавым чытачу. Маім натхняльнікам заўсёды з'яўлялася жыццё. Я люблю назіраць і запісваць тое, што адбываецца навокал. Але гэтага недастаткова, каб быць пісьменнікам. Твор — гэта, найперш, фантазія, блізкая да сапраўднасці. Гэта правільна падабраны набор слоў, калі хочаце, які вымушае чалавека суперажываць і робіць яго іншым.

***— Бывае, што аўтар доўга выношвае нейкую задумку і наперад прадумвае, што будзе ў канцы твора. А здараецца і так, што пісьменнік нават і не ўяўляе, дзе апынуцца і што будуць рабіць героі пад росчыркам яго пяра. Алесь, як гэта адбываецца ў Вас? Ці ведаеце загадзя, чым скончыцца твор?***

— Для мяне твор пачынаецца з першай фразы. А далей — слова за словам, сказ за сказам. Гісторыя, якую ты расказваеш, нешта накшталт ніткі. І ты старанна, сантыметр за сантыметрам, змотваеш яе ў цэльны клубок. У Марыны Цвятаевай ёсць такія радкі: «Поэт — издалека заводит речь. Поэта — далеко заводит речь». На маю думку, гэтая творчая аксіёма актуальная не толькі для паэта, але і для празаіка таксама. Ва ўсякім разе, для мяне яна актуальная.

***— Ці бывае ў Вас такое, што кніга пабачыла ўжо свет, а хочацца яшчэ нешта дапісаць, паправіць?***

— Бывае... Мінае пэўны час — і ты глядзіш на свой тэкст зусім іншымі вачыма. Паўсюль мроіцца хібы, непісьменнасць, прымітыў. І тады ўзнікае натуральнае жаданне правіць тэкст. Але правіць яго можна бясконца, і пра гэта таксама трэба памятаць. Сёння мы адны, заўтра — іншыя. Я над тэкстам, як мне здаецца, працую вельмі многа. Але ўсё роўна спадзяюся на кампетэнтнасць і талент свайго рэдактара. Як толькі твор напісаны, імкнуся хутчэй ад яго пазбавіцца. Свае надрукаваныя тэксты па магчымасці стараюся не перачытваць.

***— Што Вы робіце для самарэалізацыі як пісьменнік?***

— Заўсёды кажу: быць пісьменнікам для такой катэгорыі людзей, як я, — вялікая раскоша. Бо для таго, каб быць заўжды «ў форме», трэба шмат чытаць, шмат падарожнічаць і мець шмат сустрэч ды зносін з людзьмі. На ўсё гэта патрэбен час. Шмат часу. А я свой час вымушаны палавініць, і гэта ў лепшым выпадку. Кожны дзень мне даводзіцца думаць найперш пра хлеб надзённы, і толькі потым пра творчасць. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, я шмат чытаю і хоць адзін раз у год стараюся, як кажуць, мяняць «и широту, и долготу». Змена месца жыхарства, няхай сабе і на тыдзень, вельмі станоўча ўздзейнічае на творчы працэс.



**Бліц-апытанка**

***Прадоўжыце фразу:***

***Я ніколі не дазволю сабе...*** насміхацца і здзекавацца з іншых.
***Я ўсё зраблю для таго, каб...*** паспець дапісаць свой апошні твор.
***Самае галоўнае ў жыцці — гэта...*** здароўе.
***Больш за ўсё я баюся...*** сэнсу паняцця «я баюся».
***Я мару напісаць...*** пра беларускага Гамлета.
***Калі-небудзь я нарэшце...*** удосталь пасмяюся над сваімі недахопамі.
***Я веру, што...*** жыццё — цуд, дадзены нам Некім звыш.
***Самае галоўнае ў чалавеку — гэта...*** яго ўнутраны свет.
***Я аддам любыя грошы за...*** магчымасць радавацца заўтрашняму дню.
***Калі б у мяне быў час, абавязкова навучыўся б...*** разбірацца ў людзях.
***Дарогу здужае той, хто ідзе, а літаратуру...*** таленавіты.

***— Аднойчы мне давялося пачуць такую фразу: «Пісьменнікам можа стаць кожны, трэба толькі захацець». Ваша меркаванне з гэтае нагоды.***

— Пісьменнікам можа стаць чалавек, надзелены адпаведным талентам. Людзей, якія пішуць, — шмат; пісьменнікаў — адзінкі.

***— Алесь, назавіце якасць характара, без якой чалавек, які прыйшоў у літаратуру, не можа стаць сапраўдным пісьменнікам.***

— На маю думку, толькі настырнасць, уніклівасць і мэтанакіраванасць могуць дапамагчы стаць таленавітаму чалавеку пісьменнікам.

***— У чым Вы бачыце сваё прызначэнне як аўтара?***

— Я імкнуся, наколькі гэта ў мяне атрымліваецца, пісаць не так, як пішуць іншыя. Мне хочацца ўнесці ў беларускую літаратуру нешта новае, адметнае, сваё.

***— На маю думку, няма сапраўднага пісьменніка, які не любіў бы чытаць іншых аўтараў. Калі ласка, назавіце сваіх улюбёных пісьменнікаў. А можа, сярод іх ёсць тыя, на творах якіх Вы вучыліся пісаць?***

— Маімі настаўнікамі, тымі, што вучылі мяне пісаць, былі пераважна замежныя літаратары. Я захапляўся з юнацтва і захапляюся цяпер амерыканскай літаратурай. Гэта найперш Уільям Фолкнер, Эдгар По, Сол Белоу, Эрнест Хэмінгуэй. З сучасных — Піліп Рот, Кормак Макарці, Дон Дэліло. Люблю таксама і еўрапейскую літаратуру. Імёны і прозвішчы пісьменнікаў можна пералічваць доўга. Назаву толькі некаторых аўтараў: Музіль Роберт, Іэн Бэнкс, Мішэль Уэльбек, Гюнтер Грас. Не праміну таксама ўзгадаць і маіх «любімчыкаў» Салмана Рушдзі і Джона Максвэла Кутзэе. Спіс можна доўжыць. Прапусціў вось Кафку, Сартра, Камю. Але калі б перада мною стаяў выбар, якую кнігу ўзяць з сабой на незаселеную выспу, безумоўна, узяў бы Біблію. На беларускай мове...

***— На Ваш погляд, ці ёсць будучыня ў беларускай кнігі і чаму?***

— Безумоўна, мне не зусім падабаецца наша беларуская ментальнасць. Дакладней, наша аптымістычная ўпэўненасць, што ўсё ў нас як у людзей. І ў літаратуры таксама. Таму іншы раз у Сеціве на беларускіх літаратурных форумах я наўмысна іранізую, што беларуская літаратура мне нагадвае нечым біблейскага Лазара, якога імкнуцца ўвесь час ажыўляць, а яму даспадобы маска смерці. Мне б вельмі хацелася верыць, што гэта не так. Я пільна сачу за сучасным творчым працэсам у краіне. Мне гэта цікава. І я бачу на алімпе шмат таленавітых, творчых і, галоўнае, неабыякавых людзей. Асабліва радуе, што сярод іх шмат моладзі. Гэта значыць, што ў беларускай літаратуры ёсць будучыня.

***— Прагрэс не стаіць на месцы, і Інтэрнэт усё напорысцей урываецца ў жыццё чалавека. Ці важна ў наш час пісьменніку прысутнічаць там? Я маю на ўвазе ў першую чаргу творы.***

— Важна. Сеціва — гэта тая незалежная пляцоўка, дзе кожны можа разлічваць, што яго абавязкова пачуюць. Безумоўна, калі мы і нашы думкі адметныя і цікавыя іншым.

***— Мяркую, што амаль для кожнага пісьменніка яго літаратурная творчасць — гэта не проста захапленне, гэта частка ягонага жыцця, калі не само жыццё. Але калі гэта так, то павінна быць месца і для нейкага хобі. Чым захапляецеся Вы?***

— Акрамя літаратуры, я захапляюся яшчэ музыкай. Яна займае ў маім жыцці адмысловае месца. Калі шчыра, ёй я надаю куды больш увагі, чым літаратуры. Музыкай прасякнута і ўся мая творчасць. У некаторых творах яна нават выступае ў якасці галоўнай гераіні. Адкуль такая любоў? Лічу, гэта геннае. Бацька мой быў вясковым музыкантам, у маці таксама быў някепскі голас, і сёстры мае спяваюць. Думаю, калі б у дзяцінстве мне выпала магчымасць навучацца ў музычнай школе, жыццё б маё склалася інакш. Безумоўна, я стаў бы прафесійным музыкантам. Болей таго, я, напэўна, пісаў бы музыку. Якой бы яна была па жанру? Не ведаю. Толькі не бардаўскай. Мажліва, я б захапіўся класікай, а мажліва, пачаў бы пісаць нешта ў стылі нью-эйдж.

***— Алесь, у дзяцінстве мы ўсе марым, але, на жаль, вельмі рэдка нашы мары становяцца рэчаіснасцю ў дарослым жыцці. Ці спраўдзілася Ваша дзіцячая мара?***

— Мая дзіцячая мара не збылася. Мне хацелася стаць капітанам. У мяне нават матроска і бесказырка была з лентамі і надпісам «Балтыйскі флот». На жаль, пасля заканчэння школы я скончыў тэхналагічны інстытут, атрымаў дыплом інжынера лясной гаспадаркі і дзесяць гадоў баразніў бязмежныя абшары «зялёнага мора».

***— У гэтым годзе Вы адзначылі юбілей. 55 год — дата паважная. За гэты час, напэўна, усталяваліся нейкія жыццёвыя прынцыпы. Ваша творчае крэда і дэвіз жыцця — ці супадаць яны?***

— Я перакананы, што ў кожнага з нас павінен быць свой любімы занятак. Чалавек без занятку — небяспечны чалавек. Мой любімы занятак — творчасць, якая для мяне ёсць найперш барацьба са злом, не з тым вонкавым, якога праз край у грамадстве, а з тым унутранным, глыбока схаваным у кожным з нас. Мой дэвіз: чалавек — сам сабе творца. Са сказанага вынікае, што маё творчае крэда і жыццёвы дэвіз супадаюць.

**Гутарыла Наталля Кандрашук**

ВЕРШЫ

# З ЛЁГКІМ СНЕГАМ!..

Васіль ЗУЁНАК

* * *

У пыл пераціраюцца шляхі.
А кожны з іх — адным жыццём не змерыць.
Глядзіць жыццё: «Грахі мае, грахі…»
Чакае смерць: хутчэй бы іх праверыць…

А паміж імі — вечны чалавек:
Як я, як ты, — жывы, але смяротны.
І кожны грэх — як неўміручы здзек,
І кожны грэх — спакусна-незваротны…

## З лёгкім снегам!..

На палку дубовы венік
Шчыраваў —
Ад грудзей і да каленяў
Цалаваў!

Дух у каменцы — звер зверам, —
Якатаў,
Вырываў з завесаў дзверы,
Дол хістаў.
І агнём каранаваны —
Бегма зух
Нёс ушчэнт зацалаваных
Маладух.

А насустрач — ахалонаць,
Сцерці медзь —
Сам сумёт іх браў на ўлонне,
Як мядзведзь.

Маладзік брывом юначым
Бліскацеў,
Як пабачыў шал гарачы
Гнуткіх цел.

А пакінуў на прыкмеце
Стан адной:
Як русалку ў срэбнай сеці
Снегавой.

Зноў парыльшчыцы нырнулі
Ў цеплыню,
А яна ў падскокі-гулі —
Ажно іскры сыпанулі, —
Як з агню!

Смешкі коцяцца на сцежку, —
Ды не схопіш: не купіў!
Стан бялее, а ў прамежку —
Быццам хтосьці чорнай снежкай
Уляпіў!..

## Пясочны гадзіннік

Гадзіннік пясочны —
Станік жаночы,
Перахоплены, як нітачкай, —

Па-жаночы
Час адлічвае.

За хвілінаю хвілінка —
У пясок,
За пясчынкаю пясчынка —
У гадок.

Праз націнку
Час бруіцца,
Прасыпаецца, —
Як з дзяўчынкі
Маладзіца
Прачынаецца.

А праз пяць хвілін —
Праз пяць! —
Перавернецца
І малінкаю з малін,
Як у сорак пяць —
Не хвілінак,
А гадоў, —
Баба ягадка ізноў!

Зноў дзяўчынка
З маладзіцай —


Фота Э.Акуліна

Зноў! —
Спрачаюцца:
Дзе той мусіць час
Спыніцца,
Дзе ён пачынаецца?!.

Долю высочвае
Стварэнне пясочнае…

## Лыжня

Лыжня ілжывая
З лясной нажывао:
Бяжы, бяжы —
У міражы.
Бяжы па следзе —
У маладосць.
За лесам недзе
Шчасце ёсць.

Вядзе, заве —
Не знае жалю,
Бо не мяне:
Лыжня —
Чужая.

Імчыць
Лыжня —
Як успамін.
Маўчыць
Лыжня —
У сэрца клін.

## З-пад зямной бярозы…

Гэта я… — ці не пазналі, зоры? —
З-пад зямной бярозы гавару, —
Вечнасцю закінуты ў прастору
На паслугі часу-ліхвяру.

Не, яна яшчэ не над магілай —
Вецце нахінае над страхой
Сноў маіх і думак берагіняй,
Патаемкай у журбе ліхой.

Гэта яшчэ толькі іх сяброўка,
Тых бяроз, над смуткам векавым,
І мой голас толькі трэніроўка,
Тэст: ці пагаворыце з жывым?

Ці не прыадчыніце заслону:
Як я з вамі буду побач жыць —
Па нябесных ці зямных законах
Тую службу вечнасці служыць?..

Ці яе — без часу і прасторы —
Можа, і няма, і не было, —
І дарма на роспыты й на зборы
Дзівака зямнога павяло?..

Бо якая ж вечнасць без бярозы,
Без шпака і, зрэшты, без мяне, —
А такая ёсць усё ж пагроза:
Я не я, як песня абміне…

Што і як у вас цяпер? А потым,
Калі я прыйду, — што будзе там?
Ці паўсюль — маўклівыя пустоты?
Ці паўсюль — усесусветны храм?..

Ці прастора часу ў вас не мае,
Ці ў прасторы час згубіў сляды?..
Маўчыцё… Ну што ж, я пачакаю…
Ды й спяшацца мне няма куды…

* * *

Калі на ўбытак месяц пахіляўся,
Штораз скрылёк танюткі ў цень хаваўся.
Так поўні і маёй наканавана
У цень сыходзіць з сонечных экранаў, —
Пакуль не застанецца горкі ветах —
Як развітанне з незваротным светам.

Сярпом тупым ён век мой дажынае,
І горш за ўсё, што я ўсё гэта знаю.
Бо маладзік у месяца настане,
А мой — не ўзнае новага вяртання.
Таму й гляджу самотліва на поўню
І ў светлы маладзік пра ветах помню…

* * *

Маска, я цябе знаю! —
І люблю, і кляну —
Не развеешся снамі,
Не збяжыш у труну.

Як сябе ні выкручвай —
Знак гарыць на ілбе.
Як табе ні балюча —
Знаю ўсё пра цябе.

Чым жывеш і чым грэшная,
Дзе нявінных судзіла,
І хвалою пацешнаю
Каму дагадзіла…

Дзе на продаж схіляеш
Гонар свой ліхвяру… —

Маска, я цябе знаю… —
Сам сабе гавару…

* * *

Калі ўсё тое здарыцца —
О, каб жа ды знацца!.. —
Я б з кожным з вас па чарачцы
Узняў за небыццё —

За ўласнае, за вечнае, —
Не ўнікнеш жа яго,–
Каб не чапляць на плечы вам
Груз адбыцця свайго.

І словы ўсе апошнія
Я, пэўна б, сам сказаў, —
Няйнакш, як зняў бы пошліну,
Што сам жа й навязаў…

Ну, і яшчэ па поўненькай —
За грэшную душу —
Усіх з маім ахоўнікам —
Па поўненькай! — прашу!..

Дальбог, пакуль не пляснула
Жалобнай хвалі медзь,
Як вып'е Юда ўласны мой —
Цікава паглядзець!..

А што не ўспеў патрэбныя
Ён выведкі прадаць —
Я маю трыццаць срэбнікаў,
Каб зажыва аддаць.

* * *

Млечны Шлях, дарога скразная, —
Ні канца не відно, ні пачатку:
І адкуль, і куды ён — не знаю,
Толькі тайную маю здагадку.

Гэта ён падказаць, пэўна, хоча
Мне — смяротнаму чалавеку:
«Не насільвайся рыфмай прарочыць,
Прамаўляй для сябе — не для веку.

Сам з сабою ідзі на споведзь.
Гэта звабна — агучваць зоры,
Ды з табой мы — імгненная повязь,
І няма ў ёй ні заўтра, ні ўчора.

Што зямны твой наіўны наступ! —
Сам пазнаць я не блаславёны
Зор маіх усясветны насып, —
Сам не ведаю іх імёнаў.

Адкрывай сябе даастатку —
Тым бліжэй да майго парога.
Абыякавасць зор — не загадка, —
Гэта дум незямных дарога…»

## О, як бы…

О, як бы верш мне напісаць
Аб вечным шчасці
І па крывіначцы раздаць,
Як на прычасці, —

На ўтыль адразу б рыфмы здаў,
Сціло — тым болей:
Няхай бы іншы спавядаў,
А мне — даволі!..

* * *

Мне кожны дзень амаль як родны брат.
Што ні даю — усё бярэ з ахвотай.
А наўзамен, ніби чуллівы кат,
Ён зычыць мне вяроўку з пазалотай.

Ён пакідае мне на ўсё правы:
Сам разбірайся і лічы правіны,
І сам сябе судзі, пакуль жывы…
Жыву: злачынца з катам — сам-адзіны…

Штоночы тайны чорнае крыло
Над допытамі сны мае гайдае…
Я знаю ўсё: што будзе, што было,
А вось што ёсць — ніяк не разгадаю.

## Будучыня

Гісторыкі сцвярджаюць:
Спазніўся мой народ
Здзяржавіць на скрыжалях
Свой шлях і радавод.

А я гляджу інача:
А што, хіба крывіч
Нам крэўнасць не пазначыў
У храмах на крыві?
Ці не крышыў радзіміч
Прышэльцаў на жарству,
Не шанаваў Радзіму,
Не мацаваў Літву?

Ці дрыгавіч-балотнік
Лёс у дрыгве праспаў?..

Не! — край мой не гаротнік —
Мой край з вякоў паўстаў.

Народ мой старажытны —
І волат, і ратай, —
І з ворагам быў квіты,
І даверам братам.

Ні ў кога, апроч нівы,
Ён хлеба не прасіў…
Ды юную наіўнасць
Заўжды ў душы насіў.

Па славу на скрыжалях
Не шастаў да багоў, —
Таму й параскрадалі
Гісторыю ў яго.

Цяпер — цяпер з братамі
Мужуе пакрысе —
Гісторыю вяртае,
Ды аддаюць не ўсе…

Ну што ж, мы не з драпежных,
Але зважай, сусед,
Што нас да ўласных сцежак
Вяртае запавет.

Яшчэ не вечарэ —
Узвесніца грамы! —
Бо памяць не старэе,
А разам з ёй і мы.

І не ў чарзе па труны
Мы ў вечнасці стаім:
Народ мой самы юны,
І — будучыня з ім!..

АПАВЯДАННЕ

# ЛЯ КРАЮ

Віктар СУПРУНЧУК



Фота з архіва аўтара

Зранку нешта круцілася ў паветры. Яно абрынулася на галаву, на душу. Было адчуванне, нібыта на цела апусціўся камень. І ён спакваля цісне, цісне да зямлі, няма сіл скінуць яго…

Слабое цьмянае сонца выглядвала праз аблокі і расцякалася ўваччу фіялетавай плямай. Гукі вуліцы, горада былі глухія, быццам гаману шматлікіх аўтамабіляў забіраў у сябе магутны фільтр, якім накрылі ўвесь горад, усё наваколле.

…Сцяпан адышоў недалёка ад свайго дома. Цяжка дыхалася. Так з ім яшчэ ніколі не было. Ён прыпыніўся, агледзеўся: на стадыёне, радасна галёкаючы, бегалі з мячыкам дзеці, па тратуары гулялі маладыя маці з калясkамі, пад дрэвам мужчыны з ягонага пад'езда дзялілі бутэльку віна. Усё было як звычайна, толькі ён адчуваў сябе не так, як учора, пазаўчора, тыдзень назад. Узнік цяжар у грудзях, і Сцяпан падумаў: няйнакш сэрца? Хоць, здаецца, ніколі не балела. Валідола з сабой у яго не было: ні разу не меў у ім патрэбы.

У душы нарастаў неспакой, нават страх. І раптам Сцяпан успомніў, як некалі, гадоў дваццаць назад, галоўны інжынер іхняга праекта дзяліўся з імі, маладымі хлопцамі пасля інстытута, сваім жыццёвым вопытам: «Калі, не дай Бог, прыцісне сэрца, трэба глынуць грамаў сто гарэлкі. Паверце: самае надзейнае лякарства».

Крама была недалёка. Сцяпан памалу дацягнуўся да яе і купіў бутэлечку гарэлкі. На святы ён піў толькі чырвонае віно, хоць яно і здавалася кіслым, нясмачным. Адышоўшы трошкі ўбок за куст бэзу (з думкай, што робіць, нібы апошні алкаголік) Сцяпан заплюшчыў вочы і з цяжкасцю выпіў пякучку.

У галаве адразу зашумела, забалела патыліца. Ён ледзь не выпусціў з рукі сумку, пастаяў, такі пачуўшы ад нейкай жанчыны, што ад п'яніц і алкаголікаў паратунку няма. Яму хацелася нешта сказаць у сваё апраўданне, але адняло мову. У галаве мітусіліся думкі, цяжар на плячах, які спярша зменшыўся, цяпер раптам павялічыўся.

Сцяпан, чапляючы нагу за нагу, пайшоў па дарозе, нават не ўяўляючы, куды ідзе. Сонца зусім знікла за бясконцым палатном аблокаў. Вакол быў шэры колер, які зрэдзь рассякалі чырвоныя іскры. Ля дарогі расло высокае, да самага неба, дрэва, вельмі тоўстае. Абысці яго Сцяпан не здолеў…

Ён ачуўся гэтак жа раптоўна, як і страціў прытомнасць. Пад ім — быццам мяккая пасцель, пахне травой. Сцяпан правёў рукой збоку ад сябе. Так, гэта была трава. Ён ляжаў на траве пад дрэвам ля дарогі, па якой ехалі машыны, ішлі людзі.

— Глянь: алкаш ляжыць! — да Сцяпана падышлі два хлопцы гадоў дваццаці-дваццаці пяці.

— Але ж пры гальштуку, і касцюм неблагі. Гэй, мужык! — крыкнуў яму амаль у вуха чарнявы, у дарагіх джынсах і жоўтай скуранай курткі. Сцяпан паспрабаваў таксама крыкнуць, што яму кепска, але не было моцы адкрыць рот. Ён адчуў, як чужая рука палезла ў ягоны пінжак і выцягнула кашалёк, убачыў, як грошы знікаюць у кішэні чарнявага.

Яны агледзелі і сумку, у якой ляжалі бутэрброды, пашпарт і ўчарашнія газеты. На шчасце, пашпарт не забралі, кінулі пад ногі Сцяпану і пайшлі, задаволена смеючыся, што на халяву будзе ім сёння рэстаран.

«Свалата, поскудзь. Яны ж маладыя, як сыны… Мова ў іх інтэлігентная, не бамжы… Гэта такое новае пакаленне. Грошы, грошы… Каб вы паздыхалі ў гэтым рэстаране… Хто вас выхаваў, такіх пачвараў? Якія ў вас… Хто ў вас?.. Грошы?.. Свалата, поскудзь…»

Здалося, проста на яго кацілася дзіцячая каляска, якую штурхала маладая маці, а побач з ёй ішла пажылая. Мабыць, бабуля. Яны на хвіліну прыпыніліся ля Сцяпана.

— Зранку ўжо набраўся, — абурылася пажылая жанчына. — Каб яны ўсе паздыхалі, гэныя алкаголікі! Няма ад іх спасу.

— Навошта ты гэтак, мама? — перапыніла маладая. — А мо, чалавеку блага? Бач: у касцюме, пры гальштуку…

— Яны цяпер усе алкашы: пры гальштуку і без гальштука, — адрэзала бабуля. — Няма на іх Сталіна, няма.

Сцяпан чуе, пра што яны гамоняць, але адказаць не можа. І такая ў яго крыўда на душы — здаецца, заплакаў бы. Ён гэтым цёткам сказаў бы, чаго яны самі вартыя. І пажадаў бы ім гэтак жа калі-небудзь легчы ля дарогі… У старой, у самой, чырвоны, бы бурак, азызлы нос. Няйнакш цішком ад дачкі папівае чарніла ў туалеце альбо ў ванне. Бачыў ён у сваім жыцці такіх праведнікаў. На словах адно, а ў шкарлупінні зусім іншыя…

Ён не мог такое прысніць нават у страшным сне. Каб хтось са знаёмых сказаў, што ён, Сцяпан Іванавіч Далецкі, кандыдат навук, выкладчык інстытута, будзе ляжаць у траве ля дарогі, — не даравау бы таму, рукі б больш не падаў. А які сорам!.. Даведаюцца калегі, жонка, дзеці. Як будзе глядзець ім у вочы? Яго так любіць дачушка Алёнка, а ён? Дванаццацігадовы сын Паўлік лічыць бацьку ледзь не героем, таму што Сцяпан у студэнцкія гады шабашыў на Калыме. Божа ж, мой Божа… Відаць, гэта пакаранне яму за грахі. Каб лёг ён тут, ля дарогі, і ніводны чалавек не прыйшоў на дапамогу. Значыцца, заслужыў. Заўсёды ўяўляў сябе дужым, адважным, самым разумным. Ён нібыта дасягнуў вышынь, узяў Бога за бараду. Кандыдат навук, напісаў некалькі падручнікаў. Ну і што? Ці мала такіх людзей у горадзе? Дый ці любіў ён каго-небудзь, акрамя самога сябе. Некалі было вялікае каханне. Пасля інстытута ён амаль тры гады пражыў з Галінай, Галачкай. Яна ўсё яму лепшае: мяса, новы касцюм, імпартнае паліто. Як жа ж, яе каханы — аспірант, будучыня навукі, пахваліў сам дырэктар інстытута. Галя баялася кашлянуць у ягоны бок: хто яна — майстар цэха, а ён — вучоны, свяціла!

Яна нарадзіла дзіця, і Сцяпан нават не пайшоў забіраць яе з бальніцы. З Галінай кватэры перабраўся на прыватную да бабулькі, у якой была ўнучка — ягоная цяперашняя жонка Марыля. Больш Галіну Сцяпан не бачыў, баяўся, каб раптам не паскардзілася ў парткам… Апошнім часам яна пачала яму сніцца. На руках маленькая дзяўчынка, якая плача і кліча яго: «Тата, тата, дапамажы мне…»

Яму балела сэрца, штурхала кроў з перапынкамі, то хутка-хутка, то зусім марудна. Здаецца, вось-вось спыніцца. І тады — канец. Край дарогі, чужыя людзі… Мо знойдзецца ва ўсім свеце хоць адна спагадлівая душа, якая выкліча «хуткую дапамогу»? А што «хуткая дапамога»? Летась у іхнім інстытуце па выніках года праходзіў справаздачны сход. Доктару навук Яцэвічу зрабілася блага. Як-ніяк семдзесят пяць гадоў. Сцяпан сам выклікаў «хуткую». Ад станцыі «хуткай дапамогі» да інстытута пяць хвілін язды. Яны прыехалі праз пяцьдзясят, калі Яцэвіч ужо схаладнеў…

Шумела дрэва, раз-пораз крэкчучы пад націскам ветру. Сыпануў густы порсткі дождж, які абмыў Сцяпанаў твар, намачыў валасы. Стала лягчэй дыхаць. З вачэй знікаў туман. Сцяпан паварушыўся, падумаў узняць галаву. Аднак было боязна. Каб не страціць прытомнасць. Колькі ж тут яму яшчэ ляжаць?

Сцяпан пачуў, як побач спынілася машына. Цяжкія крокі, гамонка з мацюкамі. Ён павярнуў галаву: да яго ішлі два мажныя, высокія міліцыянты. Патрэсквала рацыя.

Вось і дачакаўся. Што рабіць цяпер? Як падняцца з зямлі, ці хоць адпаўзці ад дарогі і схавацца, як ваўку ў гушчар, у кусце бэзу за чырвоным цагляным домам?

Міліцыянты падышлі, абыякава агледзелі яго.

— Наш кліент, — сказаў сяржант прапаршчыку. — Давай уставай! — ён нагой, небалюча, але адчувальна, ляпнуў у бок Сцяпану. — Што мы яго — насіць будзем? Уставай, зараза! Яшчэ гальштук нацягнуў. Відаць, каб зручней ляжаць было. Гы-гы-гы, — зарагатаў, рэзка хапаючы рукой за плячо. Ад пранізлівага болю ў Сцяпанавых вачах мільгнула маланка. Ён адчуў, як задрыжэлі ногі, скаланулася ўсё цела.

Праз імгненне Сцяпан стаяў, абапершыся спінай аб дрэва, і няўцямна глядзеў на міліцыянтаў. Яны падабралі ягоную сумку, пашпарт.

— Давай, пайшлі ў госці, — махнуў галавой прапаршчык. — У нас будзе табе цяплей і мякчэй.

Яны зноў засмяяліся, здаровыя, задаволеныя жыццём. Відаць, што не жывуць на адну зарплату. Харчуюцца не так, як ён, сухімі бутэрбродамі з таннай кілбасой і гарбатай. Жываты наелі, пысы чырвоныя. Правільна, у калгасе на трактары за капейкі зямлю араў бы, а тут… Гаспадары жыцця… Свалата… Сцяпан уздыхнуў, адчуваючы, як страх яшчэ мацней, здаецца, пранікае ў кожную клетачку, і нечакана для самога сябе загаварыў:

— Я захварэў, мне баліць сэрца. Мне кепска, вельмі кепска…

— Таму напіўся гарэлкі і прылёг ля дарогі, — здзекліва прамовіў сяржант. — Не дуры галавы, пайшлі ў машыну, бо зараз пачастую дземакраткай, — узмахнуў ён дубінкай. — Няма часу з табой валэндацца…

…Нібы ўчора гэта было. Ён з Васілём Карповічам і Генадзем Кузьміцкім сядзяць у кафэ. Атрымалі прэмію за распрацоўку новай тэхналогіі. Узялі каньяку, шашлык, салатаў. Размова, як заўсёды, аб рабоце, хто разумнейшы, больш таленавіты. Маўчыць Васіль. Пасля чацвёртай ці пятай чаркі расказвае, што тыдзень назад вяртаўся дамоў нападдітку і на аўтобусным прыпынку да яго прычапіліся міліцыянты: маўляў, п'яны. Зацягнулі ў аддзяленне. Магло не быць ні прэміі, ні працы, калі б паперу накіравалі ў інстытут. Дапамог знаёмы маёр міліцыі, зямляк з вёскі, які яго вызваліў. Дапамога абышлася Васілю ў тры бутэлькі гарэлкі і палку кілбасы.

— Шаноўныя таварышы міліцыянты, хвілінаачку, — сказаў Сцяпан. —Мяркую, вы ведаеце палкоўніка Акінчыца з гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў? — Ён нечакана ўспомніў, як два гады назад быў на дні нараджэння ў сябра дзяцінства Міколы Разумовіча і там сядзеў з гэтым палкоўнікам побач за сталом. Яны тады добра пагулялі, павесяліліся. На развітанне палкоўнік, ледзь стоячы на нагах, мо дзесяць разоў паўтарыў: «Слова палкоўніка Акінчыца для кожнага міліцыянта ў сталіцы — закон!»

— Ну і што? — прапаршчык адпусціў правую Сцяпанаву руку. — Ведаем, канечне, палкоўніка Акінчыца. Ён нам — не начальнік. У нас свой камандзір. Што нам ваш Акінчыц? Ён хутка пойдзе на пенсію.

— У мяне недзе тут ягоная візітоўка, — Сцяпан палез у кішэню, хоць няйкай візітоўкі там не было. — Зараз я яму патэлефаную…

Прапаршчык адышоў убок, аб нечым пагаварыў па рацыі, потым задумлена паглядзеў на Сцяпана. Нечаму свайму ўсміхнуўся і гукнуў:

— Мікалай, паехалі, тэрміновы выклік!

Яны перазірнуліся і пайшлі да машыны. Сцяпану адразу стала радасна, і страху як не было. І ён у нейкай незразумелай самому эйфарыі, што яго не забралі ў выцвярэзнік, што настолькі магічнымі аказаліся словы «палкоўнік Акінчыц», гукнуў услед міліцыянтам, каб падвезлі да бальніцы ці, край, у паліклініку. Сяржант памахаў кулаком, і яны з'ехалі, пакінуўшы Сцяпана.

…Недзе блізка зараўла сірэна. Усё гучней, гучней. Ужо зусім побач. «Вось і мой паратунак, — падумаў Сцяпан. — Можа, яшчэ паспею на працу… Хоць якая цяпер праца… Застацца б жывым…»

Белыя халаты рухаліся да яго нетаропка. З імі праспешвала, спатыкаючыся бабулька. Яе доўгія сівыя валасы разбэрсваў вецер. Яна махала рукой на Сцяпана і нешта гучна гаварыла. Слоў было не разабраць.

Белыя халаты былі ўжо ля яго. Маладая жанчына, прыгожая, але са стомленым тварам, нахілілася да Сцяпана:

— Фу, фу!.. Ён п'яны, як свіння! Налізаўся зранку. Тут наша дапамога непатрэбна. Паехалі!

— А, можа… — уставіла свае пяць капеек яе напарніца.

— Паехалі! — паўтарыла. — Нармальных людзей трэба ратаваць. Гэты дзядзька яшчэ сто гадоў пражыве.

— Дык ён жа — не п'яны! Ён жа хворы! — закрычала бабулька.

— Людцы, што гэта такое!.. А калі быў бы гэта мой сын…

— Ладна, забіраем, а пасля — у міліцыю, — рашуча прамовіла прыгажуня.

Сцяпан сяк-так дакпыпаў да «хуткай дапамогі», ускараскаўся на сядзенне. У вачах яшчэ плыло, але ён адчуваў ужо сябе значна лепш. «Навошта яму ў бальніцу? Дамоў… Толькі дамоў! Свалата…»

— Падвязіце мяне дамоў, — папрасіў ціха, але яго не чулі.

— Падвязіце мяне дамоў… — закрычаў ён. — Тут побач… Не трэба ў бальніцу. Вось за той дом. Мне ўжо лепш…

Калі Сцяпан, хістаючыся, падымаўся на ганак, ля дома на лавачцы сядзелі некалькі мужчын, вясёлых, расчырванелых. Было відаць, што падзялілі ўжо не адну бутэльку віна.

— Бач ты, малайчына, прафесар! Казалі, не п'е…

— Ага, не п'е. Ён такі ж, як і мы, як і ўсе, толькі пры гальштуку і ў касцюме.

— Бач, ледзь ногі цягне.

— Маладзец, прафесар! У нашай краіне ўсе п'юць. Усе мы роўныя, аднолькавыя. Мы ходзім у адным статку і ў нас адзін пастух… Так і кажы сваім студэнтам…

«Свалата… Вам што да маіх студэнтаў… Яны — людзі, не такія, як вы… Здаецца… Не такія… Што за час?.. Якія людзі?.. Які я?.. Божа ж, мой Божа…»

— Ай, малайчына, малайчына! Не перажывай: заўтра палечымся…

Так, на жаль, ён, як усе… Як усе, як усе… Як усе… Толькі б дайсці да дзвярэй, да дзвярэй кватэры… Ён, як усе… Усе… Дайшоў… Дайшоў…

Назаўтра, раным-рана, баючыся спаткаць каго-небудзь з суседзяў, Сцяпан выскачыў з дому. Здавалася, нехта вось-вось скажа штосьці агіднае, крыўднае. Але ніхто на яго не звяртаў увагі. Ён нікому не быў патрэбен. Усе былі заняты сваімі справамі, сваімі праблемамі.

Па дарозе да аўтобуснага прыпынку ледзь не наступіў на мужчыну, які раскінуўшы рукі і ногі, ляжаў на тратуары. Сцяпан абышоў яго, проста інстынктыўна грэбліва плюнуўшы, і нават рукі выцер аб насоўку. Што яму да гэтага чалавека: п'яны ён ці хворы. Ён, Сцяпан Далецкі, — такі ж, як амаль усе… Божа ж, ты, мой Божа…

ВЕРШЫ

# Е2 — Е4

Зміцер ВІШНЁЎ


Фота з архіва аўтара

* * *

*Прысвячаецца Тадэвушу Рэйтану*

*не пі — будзеш козлікам*
*кожны памятае з дзяцінства*
*не забывайся на спадчыну — будзеш вослікам*
*бясспрэчны лозунг ліцвінаў*

*цвіль на маіх далонях*
*перапаўзае быццам лахнесская дзіва*

*дзідай кіну ў ворага*
*рагаты чорт паскача конем*

*б'ецца сэрца ў грудзях параненым*
*зверам-поні*
*веру ў перамогу вечнага*

*пырскі дажджу кладуцца на твары*
*высушваюцца слёзы стагоддзяў у творах*
*варта ў дарогу*

*крок за крокам будзем рушыць*
*да слаўных перамог*
*грукатам ног і молата*
*шок — для чорных ваўкоў*

*раструшчым шыхты чужынскіх волатаў*
**18 жніўня 2013, Грушаўка**

## [лектарацыі бягуць у Баранавічы]

*холад як плед*
*голад як хлеб*
*перад вачыма дзед*
*на ягоным плячы — змеяед*

*чырвоныя вяроўкі*
*чорная гарбата*
*калючае горла*
*горныя акрабаты*

*пазіраю на моцных канатаходцаў*
*раздумваю пра паэтычныя опцыі*

## [напярэдадні сонечных бураў]

*Галубы*
*да палубы прымацоўваюць трубы*

*трупы*
*магчыма таксама труны*

*таемныя руны*
*ртуць перацякае на раны*

*нары*
*не лепш за жабрацкія норы*

*бяру нож*
*рэжу кавун наўсцяж*

*дождж*
**21 жніўня 2013**

## [слодыч грыбной мовы]

*канцэптуальны грыб*
*галюцынагенны грыб*
*амаль фантастычнае ЛСД*
*слухаю музыку ДДТ*

*давайце танчыць!*
*давайце танчыць!*

*грыб — гумовыя рыбы*
*пластыкавыя рыфы*
*віртуальны гамак*
*на дэсерт — феерычны мак*

*давайце танчыць!*
*давайце танчыць!*

*канцэптуальны грыб*
*гэта — у голаў штык*
*гэта — файны штрых*
*гэта — проста брык*
*гэта — танец-фрык*
*гэта — штонікі-штроксы*
*ў кветачкі флоксы*

*давайце танчыць!*
*давайце танчыць!*

*падаем на дно!*
*на самае самае самае*
*сомам*
*словам*

*у паветры волава сола*
*слодыч грыбной мовы*
**17 жніўня 2013, Грушаўка**

## Ад Карабаса Барабаса

***(для дзяцей, якія перашкаджаюць на пленэры мастакам)***

*свісток — у зубы*
*у рукі — базуку*
*усім разысціся!*
*вас іст дас?*
*мастацву патрэбны ціхі час!*
*чыстае сіняе неба!*
*і пакунак цукерак!*
*той, хто не збег, — той вораг!*
*і тады на стале вараны насарог!*
*зараз сядаю ў танк!*
*я не мастак — я панк!*
*усім разысціся — фак!*
*вядзьмару на раз, два, тры — факт!*
*выцягваю з-пад стала чароўную катрынку!*
*выпіваю злосную малочную скрынку!*
*УСЁ — ІДУ!*

*(друіды цягнуць з вадой бітон)*
*іду гуляць у бадмінтон*
**16 жніўня 2013, Грушаўка**

* * *

*з бліскучым німбам над галавой*
*трушчыш кабінеты чыноўнікаў рукой*
*кідаешся чорнай халвой*
*а калі на небе бахне навальніца феерверкам*
*і распусціцца чырвона-жоўтай кветкай*
*разам з паўночным калючым ветрам*
*выплюнеш джала на два метры*

*надыходзіць разуменне*
*што ты — звычайная хімера*
*у апельсінавых гетрах*
**26.05.2013, Ворша**

## Е2 — Е4

*серпанцінамі раскручваюцца дарогі*
*спружынамі скокаюць дрэвы*
*спіралямі едуць машыны*
*хмары набываюць формы пірацкіх фрэгатаў*
*ты выпрастаў руку серпам — па ёй збягае*
*злая гіена*
*(раздумваеш пра сезон, пра дождж, пра*
*скрадзеную фуру)*
*з усходу ідзе посвіст салаўя-злачынца*
*што выклікае буру*
*(у нататніку запісваеш дыягназ*
*пацыента: «гангрэна»)*
*з захаду куляюцца цацачныя напалеоны і*
*ператвараюцца ў какосавыя піражныя*
*какафонія-какаін*
*сімфонія-кокан*
*сканаў сюррэалістычны фон*
*на кардон наклеілі супрэматычны*
*партрэт фон барона*
*летні ўраган у высакосны год абяцае*
*фіялетавага бульдога*
*у аўтобусе — усе грызуць з сабакі смачныя*
*хот-догі*
*скажам гучна кіроўцу вясёлае:*
*«Буль! Буль! Хочам грога!*
*Гары гарам дарога! З гары е2 — е4 — ахвота!»*
**26 траўня 2013, Забалацце**

***тут некалькі радкоў, якія праплываюць перад тварам паэта і ствараюць какафонію жыцця і сімфонію суму ў кубку для гарбаты***

*часам дрэвы міргаюць нібы дарожныя*
*светлафоры*
*чалавек у форме рухаецца на фронт*
*паміж небам і зямлёй пампуецца стронцый*
*гайдаецца песня над жоўтым полем*

*плюхаецца сонца ў начным цацялку*
*пасыпай яго расцёртымі сухарамі*
*пасыпай яго перцам*
*пасыпай яго грыбной і часнычнай пудрай*
*палівай радаснымі аповедамі пра дзяцінства*
*трушчы над ім успаміны ветра*

*сам насам абудзі верхавіны кучаравых дрэваў*
*рэкі змеямі аплятуць навакольную прастору*
*крыкі птахаў як нешта*
*патаемна-рыцынавае*
*крокі крокі кропкамі пульсуюць на*
*серабрыстых сопках*
*але запаленыя вусны вайскоўца адліваюць*
*змрочным крывавым лакам*
*ён разгрызае горкія цукеркі пад назвай*
*«салёны ласун»*

*пальцы пальцы цягнуцца да клавішаў*
*фартэпіяна*
*пальцы выцягваюцца ў нерэальныя*
*бялюткія кіўбаскі*
*і вось яны ўжо ператвараюцца ў*
*струны-спагеці*
*піяніст засмоктвае гэтую ежу з апетытам*
*і прымушае дадзены краявід набрыняць*
*музыкай*
*што грыміць бубеньчыкамі пад абцасамі*
*з падкоўкамі*

*часам чалавек адпраўляецца на вайну*
**9 сакавіка 2013**

## Марфалогія чалавека

*— Куку, — сказала ружовая галава. — Я прыйшла да вас у госці. Налівайце мне спірту. Давайце пупырысты хрусткі заінелы агурок. Я буду адрыгваць быццам паравоз дымам. Але самае галоўнае, што я буду вас кантраляваць. Спірт — увесь мне! Каб у вас не ўзнікала спакусы напіцца, не шкадуйце — налівайце! Залівайце! Вось у вас стаіць цудоўны алюмініевы кубак — плёскайце туды чарадзейную вадкасць!*
*«Куку», — і прыйшоў кірдык вашай нелегальнай каністры. Кірдык кантрабандзе. Паленага напою тут няма. Тут ёсць ружовая галава. Яе можна падкідваць накшталт футбольнага мяча, займацца гульнёй у валейбол, можна згадаць і боўлінг. Дзякаваць богу, паўсюдна процьма пустых пляшак з-пад піва. Ёсць куды кідаць шар галавы. Але «куку» можа быць значна горшым за патрабаванне алкаголю. «Ружовае куку» нічым не лепшае за «чорнае куку», а калі цябе напаткае «экалагічнае зялёнае куку», можна і загнуцца.*
*Галава зашпіліла нашыя дзверы ў вагоне — нам няма выратавання; мы не выйдзем у Менску — давядзецца ехаць да сонечнай Караганды. Ты падрыхтаваны? Ці трэба зрываць стоп-кран?*
*«Куку» — і хтосьці пстрыкнуў курком пісталета. Чуеш? А язык галавы нагадвае заліўное на талерцы. Ножык даць? Дадаць перцу і солі? Думаеш такія галюцынацыі могуць напаткаць пасля грыбоў ці травы? Гарантую — гэта не так.*

*куку — пальцамі выцягні вочы з галавы — куку — язык самая смачная частка — грызі — куку — ножыкам адпілі левае вуха — куку — правае вуха адкусі — куку — можна ўтыркнуць у нос відэльцам — к-у-к-у — пацалуй галаву ў засмок — запі вадой — амін*

*На даляглядзе кацілася крывавае сонца і выкалупвала з рота жоўтыя зубы.*
**24. 02. 2013**

* * *

*— у цябе атрымалася? —*
*гэтае рытарычнае пытанне*
*выпаўзала чорным бліскучым танкам*
*ранкам ты паліў эфемерную цыгарэту*
*агрэст хрумсцеў на зубах*
*— у цябе атрымалася? —*
*зноўку плыло па прашпектах*
*канспекты абвяшчалі канцэпцыю*
*кепскі настрой забівалі армянскім*
*каньяком*
*снежны ком*
*качаўся нібыта стрэлка компаса*
*космас вакол распускаўся зоркамі*
*корак-вока выцягвалі замёрзлымі пальцамі*
*пляшка чырванела вараным ракам*
*каньяк размаўляў малочным шакаладам*
*— у цябе атрымалася? —*
*гучала пранізліва і падбухторвала*
*да палёту над шпілямі мацярыковых гор*
*Выдыхні! Выдыхні!*
*гучным хрыпам праз піянерскі горн!*
**22. 02. 2013**

* * *

*топіш страх не ў віне*
*топіш страх чужымі рукамі*
*ствараеш ліпавыя краіны*
*скачаш на кані перад войскам*
*гучна абвяшчаеш: «Слухай маю каманду!»*
*звіняць шашкі*
*блішчаць какарды*
*бледныя твары скрыўляе крык*
*гэта — рокат мінулых страхаў*
*горная рака разбівае лодку і ейных*
*смелых пасажыраў*
*страхі закручваюцца ва ўніформу*
*яны нацягваюцца паміж тэлефоннымі*
*слупамі*
*яны падаюць забітымі вайскоўцамі каля*
*тваіх ног*
*на эпалетах застаюцца пырскі крыві*
*— сляды былых слоў...*
**26 жніўня 2012**

* * *

*ці абмяжоўвае турма свабоду?*
*што ёсць свабода?*
*часам — гэта філасофскае паняцце*
*магчыма ў фізічным плане і абмяжоўвае*
*што тычыцца маральнага, духоўнага...*
*тут не так усё проста*
*пасадзі паэта ў клетку*
*пасадзі філосафа ў бочку*
*пасадзі мастака на алкагольную дыету*
*і што атрымаецца?*
*ОХ-ХО-ХО! — будзе гучаць паўсюль рэхам*
*але ж чэрап — гэты ўнікальны прыродны*
*арт-аб'ект —*
*часам мае ўласцівасць захоўваць мазгі...*
*шэрае рэчыва са сваімі кратэрамі і*
*вулканамі...*
*магмай бягуць думкі...*
*тут свабода аднаўляецца ва ўсёй сваёй*
*прыгажосці!*
*у рознакаляровасці фарбаў,*
*у разнастайнасці бруду*
**26.08.2012**

ПЕРАКЛАД



# БЕРЫЛАВАЯ ДЫЯДЭМА

АРТУР КОНАН ДОЙЛ (1859–1930)

**Паважаныя чытачы!**

**Набліжаюцца Калядныя святы, якія шчыра жадаем вам правесці ў радасці і здароўі. А яшчэ — у чытанні. І ў якасці своеасаблівага падарунка прыміце ад класіка жанра гэты «снежны дэтэктыў»…**



— Глядзіце, Холмс, вунь бяжыць нейкі вар'ят, — аднаго ранку сказаў я, стоячы ў эркеры і вызіраючы на вуліцу. — Не падабаецца мне, што родныя выпусцілі яго на вуліцу аднаго.

Мой сябра лянотна падняўся з фатэля і, засунуўшы рукі ў кішэні халата, стаў за маёй спінай, каб зірнуць вонкі. Была ясная і марозная лютаўская раніца, і на зямлі ўсё яшчэ ляжаў, ярка пабліскваючы на зімовым сонцы, глыбокі ўчарашні снег. У сярэдзіне Бэйкер-стрыт экіпажы распаласавалі яго вязкімі карычневымі каляінамі, але з абодвух бакоў дарогі і на заваленых краях ходніка ён усё яшчэ быў такі ж белы, як пасля снегападу. Шэры тратуар вышкраблі і пачысцілі, але ён усё яшчэ заставаўся небяспечна слізкім, а таму людзей на вуліцы было менш, чым звычайна. Ад метро ў наш бок не ішоў ніхто, апроч таго самотнага джэнтльмена, чые эксцэнтрычныя паводзіны і забралі маю ўвагу.

Гэта быў мужчына гадоў пяцідзесяці, высокі, мажны і самавіты, з буйным і выразным тварам і прадстаўнічай паставай. Апрануты ён быў у някідкі, але дарагі сурдут, бліскучы капялюш, ахайныя карычневыя гетры і добра пашытыя жамчужна-шэрыя нагавіцы. Паводзіны яго, аднак, самым бязглуздым чынам кантраставалі з паважнымі рысамі і касцюмам — дзівак з цяжкасцю бег па вуліцы, час ад часу трошкі падскокваючы, як стомлены чалавек, які не прызвычаіўся загружаць ногі надмернай працай. На бягу ён сутаргава размахваў рукамі, хітаў галавой і самым неверагодным чынам грымаснічаў.

— О Божа, што там з ім здарылася? — спытаў я. — Ён шукае нейкі дом.

— Думаю, ён ідзе да нас, — сказаў, пацёршы рукі, Холмс.

— Да нас?

— Безумоўна. Думаю, яму патрэбная мая прафесійная парада. Я пазнаю сімптомы… Ха! Ну што я вам казаў?

У гэты момант джэнтльмен, сапучы і цяжка дыхаючы, падскочыў да нашых дзвярэй і пачаў тузаць званок, напоўніўшы бразгатаннем увесь дом.

Праз некалькі хвілінаў ён ужо быў у нашым пакоі, усё яшчэ сапучы і жэстыкулюючы. У вачах яго застыла такое гора і такі адчай, што нашы ўсмешкі адразу ж уступілі месца выразу трывогі і спачування. Некаторы час ён не мог вымавіць ні слова, а толькі ўсім целам хістаўся і тузаў сябе за валасы як чалавек, які падышоў да мяжы здаровага розуму і ўжо гатовы яе пераступіць. Раптам ён падскочыў да сцяны і пачаў з такой сілай біцца аб яе галавой, што мы паспяшаліся адцягнуць яго на сярэдзіну пакоя. Шэрлак Холмс штурхануў яго ў фатэль, сеў побач, паляпаў па руцэ і загаварыў мяккім і суцяшальным голасам, якім добра ўмеў карыстацца ў такіх сітуацыях.

— Вы прыйшлі да мяне, каб расказаць сваю гісторыю, праўда? — спытаў ён. — Спешка вас вельмі прытаміла. Таму прашу: прыйдзіце трохі ў сябе, і тады я буду рады дапамагчы вам з любой праблемай, якую вы мне даверыце.

Госцю спатрэбілася хвіліна ці дзве, каб супакоіць цяжкое дыханне і перамагчы свае эмоцыі. Потым ён выцер лоб насоўкай, сціснуў вусны і павярнуўся да нас.

— Вы, несумненна, прынялі мяне за вар'ята, — зазначыў ён.

— Я заўважыў, што ў вас сур'ёзныя праблемы, — адказаў Холмс.

— Бог — сведка, сур'ёзнейшых не бывае! Яны такія нечаканыя і жахлівыя, што можна з'ехаць з глузду. Грамадскую пагарду вытрываць яшчэ можна, хаця ніколі раней мая рэпутацыя не была заплямленая. Прыватнае гора можа здарыцца з любым чалавекам, але вытрымаць і першае, і другое, ды яшчэ і ў такой пачварнай форме — гэтага для маёй беднай душы занадта! Да таго ж няшчасце зачапіла не мяне аднаго. Калі ніхто нас у гэтай жахлівай справе не ўратуе, пацерпіць адна з самых высакародных асобаў у каралеўстве!

— Прашу вас, супакойцеся, — сказаў Холмс, — і зрабіце ласку, раскажыце, хто вы такі і што з вамі здарылася.

— Маё імя вы, магчыма, чулі раней, — адказаў наш наведнік. — Мяне завуць Аляксандр Холдэр, і я з банку «Холдэр і Стывенсан» на Трэднідл-стрыт.

Мы і праўда чулі гэтае імя раней: яно належала старэйшаму партнёру другога па велічыні прыватнага банка ў лонданскім Сіці. Што магло давесці аднаго з самых паважных жыхароў Лондана да такога жалю вартага стану? Мы нецярпліва чакалі, пакуль ён збярэцца з сіламі і паведаміць нам сваю гісторыю.

— Я разумею, што час вельмі дарагі, — пачаў ён, — і таму адразу паспяшаўся сюды, як толькі інспектар паліцыі прапанаваў мне папрасіць у вас дапамогі. Я дабраўся да Бэйкер-стрыт падземкай, а адтуль усю дарогу бег, бо ў такім снезе кэбы рухаюцца надта марудна. Вось чаму маё дыханне так збілася — фізічных практыкаванняў я амаль не раблю. Цяпер мне ўжо лепей, а таму зараз я як мага карацей і дакладней выкладу перад вамі ўсе факты.

Вы, безумоўна, добра ведаеце, што паспяховая праца банка залежыць як ад умення выгадна ўкладваць капітал, так і ад пашырэння сувязяў і кліентуры. Адзін з самых рэнтабельных спосабаў распарадзіцца грашыма — выдаваць пазыкі пад надзейнае забеспячэнне. Апошнія некалькі гадоў мы шмат у гэтым кірунку зрабілі, і многія высакародныя сем'і пазычаюць у нас вялікія сумы, даючы ў якасці закладу карціны, каштоўныя кнігі ці фамільны посуд.

Учора раніцай я сядзеў у сваім кабінеце ў банку, і адзін з клеркаў прынёс мне візітоўку. Калі я ўбачыў імя наведніка, то ўздрыгнуў, бо гэта быў не хто іншы, як… Але не, мабыць, нават вам я нічога казаць не буду, адзначу толькі, што імя гэтае вядомае ва ўсім свеце, бо належыць адной з самых высокіх, паважных і годных сем'яў у Англіі. Я быў агаломшаны такім гонарам і, калі візітант увайшоў, паспрабаваў выказаць яму ўсю сваю павагу, але ён з выглядам чалавека, які спяшаецца як мага хутчэй разабрацца з непрыемнай неабходнасцю, адразу ж перайшоў да справы.

— Містэр Холдэр, — сказаў ён, — я чуў, што вы пазычаеце грошы.

— Банк дае пазыкі пад добры заклад, — адказаў я.

— Мне проста неабходна зараз жа атрымаць 50 тысяч фунтаў, — сказаў ён. — Такую пусцяковую суму, і нават у дзесяць разоў большую, я, безумоўна, магу ўзяць у сяброў, але мне хочацца падысці да справы па-дзелавому, прычым разабрацца з ёй самастойна. Вы цудоўна разумееце, што ў маім становішчы браць на сябе нейкія абавязацельствы неразумна.

— Ці магу я пацікавіцца, на які час вам патрэбныя грошы? — спытаў я.

— У наступны панядзелак мне вернуць вялікую пазыку, і я абавязкова аддам вам усю суму з любымі працэнтамі, якія вы ад мяне запатрабуеце. Але мне проста неабходна атрымаць гэтыя грошы зараз жа.

— Я быў бы рады без далейшых пытанняў пазычыць іх вам са сваёй уласнай кішэні, — сказаў я, — але, баюся, яна гэтага можа і не вытрымаць. Калі ж я зраблю вам пазыку ад імя канторы, то дзеля справядлівасці ў дачыненні да майго кампаньёна я мушу настойваць на выкананні ўсіх дзелавых патрабаванняў.

— Другі падыход задавальняе мяне нашмат больш, — сказаў ён, паказваючы мне квадратны футарал з чорнага саф'яна, які перад гэтым паклаў побач. — Вы, безумоўна, чулі пра берылавую дыядэму?

— Яна — адзін з найкаштоўнейшых нацыянальных скарбаў нашае імперыі, — адказаў я, перабіваючы містэра Холдэра.

— Менавіта, — адказаў банкір і працягнуў. — Ён адчыніў футарал, і там на мяккім цяляснага колеру аксаміце ляжала згаданая вамі шыкоўная каштоўнасць.

— Тут трыццаць дзевяць вялізарных берылаў, — сказаў ён. — Кошт залатой аправы разлічыць немагчыма. Цана дыядэмы нават паводле самых сціплых разлікаў удвая перавышае тую суму, якую я хачу пазычыць. Я гатовы пакінуць каштоўнасць у якасці закладу.

Я ўзяў бясцэнны футарал у рукі і, трохі збянтэжаны, перавёў погляд на свайго знакамітага кліента.

— Вы сумняецеся ў яго каштоўнасці? — спытаў ён.

— Ніякім чынам. Я сумняюся…

— …ці варта пакінуць камусьці такую дарагую рэч? На гэты конт можаце не турбавацца. Я б і не думаў пра гэта, калі б не быў абсалютна ўпэўнены, што праз чатыры дні змагу вярнуць яе назад. Гэта чыстая фармальнасць! Вас такі заклад задаволіць?

— Больш чым.

— Але, містэр Холдэр, вы ж разумееце, што я перадаю вам у рукі доказ свайго найглыбейшага даверу, заснаванага на ўсім тым, што я пра вас чуў. Я веру не толькі ў абачлівасць, з якой вы ўстрымаецеся ад балбатні пра нашу ўмову, але перадусім на здольнасць з усёй асцярожнасцю зберагчы дыядэму — не мне вам тлумачыць, што знікненне каштоўнасці выкліча страшэнны публічны скандал. Любую нанесеную ёй шкоду можна прыраўняць да поўнай страты, бо іншых такіх берылаў у свеце няма і замяніць пацярпелы камень будзе немагчыма. Аднак я з усім даверам пакідаю дыядэму вам, каб у панядзелак ранкам уласнаручна забраць яе.

Бачачы, што мой кліент спяшаецца, я нічога больш не сказаў, а толькі паклікаў касіра і загадаў яму выдаць тысячнымі банкнотамі пяцьдзясят тысяч фунтаў. Аднак застаўшыся сам-насам з каштоўным футаралам, я не без нейкай асцярогі задумаўся над узваленай на мяне празмернай адказнасцю. Дыядэма — сапраўдны нацыянальны скарб, і няма сумневаў, што калі з ёй здарыцца нешта дрэннае, выбухне жахлівы скандал. Я ўжо шкадаваў пра сваю згоду. Але было позна штосьці мяняць, таму я замкнуў футарал у сваім прыватным сейфе і вярнуўся да працы.

Калі надышоў вечар, я падумаў, што было б безразважна пакінуць у банку такую дарагую рэч. Банкаўскія сейфы неаднаразова ўзломваліся, чаму мой мусіць зрабіцца выключэннем? Калі такое раптам здарыцца, у якой страшнай сітуацыі я апынуся! Таму я вырашыў, што бліжэйшыя некалькі дзён я заўсёды буду насіць футарал з сабой, каб ён увесь час быў у межах маёй дасягальнасці. Прыняўшы гэтае рашэнне, я выклікаў кэб і разам з дыядэмай адправіўся дадому, на Стрытхэм. Я не мог спакойна ўздыхнуць, пакуль не падняўся да сябе і не замкнуў футарал у бюро, што стаіць у гардэробнай.

А цяпер некалькі словаў пра маіх хатніх. Я хачу, містэр Холмс, каб вы цалкам уяўлялі сітуацыю. Мой конюх і хлопчык-слуга начуюць у сябе, таму пакінем іх убаку. Ужо шмат гадоў у мяне служаць тры пакаёўкі, чыя абсалютная надзейнасць вышэйшая за любыя падазрэнні. Яшчэ адна служанка, Люсі Пар, паступіла да мяне толькі некалькі месяцаў таму, аднак у яе цудоўная рэкамендацыя і яна добра спраўляецца са сваёй працай.

Працяг на стар. 16 (8) ►

ПЕРАКЛАД

# БЕРЫЛАВАЯ ДЫЯДЭМА

◂ Працяг.
Пачатак на стар. 15 (7).



Люсі — прывабная дзяўчына, і ў яе шмат прыхільнікаў, якія часам бадзяюцца вакол майго дома. Гэта адзіны яе недахоп, і я ўпэўнены, што яна з усіх бакоў вельмі добры чалавек.

Гэта што тычыцца слуг. Сям'я ж у мяне зусім маленькая, і яе апісанне не зойме шмат часу. Я ўдавец і маю адзінага сына, якога завуць Артур. Ён мяне расчараваў, містэр Холмс, вельмі расчараваў. Няма ніякіх сумневаў, што ў гэтым вінаваты я сам. Кажуць, я яго сапсаваў. Так яно, відаць, і ёсць. Калі памерла мая дарагая жонка, я зразумеў, што ён — мая адзіная любоў. Калі з яго твару знікала ўсмешка, я не мог вытрымаць гэтага нават імгненне. Я ніколі яму ні ў чым не адмовіў. Можа, калі б я быў больш строгі, для нас абодвух усё склалася б лепш, але ж я так дзеля яго стараўся!

Я, натуральна, хацеў, каб мой сын паспяхова прадоўжыў маю справу, але дзелавой жылкі ў ім не было. Ён вылучаўся свавольным і нястрыманым характарам: шчыра кажучы, вялікую суму грошай я б яму не даверыў. У юнацтве ён увайшоў у арыстакратычны клуб і неўзабаве дзякуючы цудоўным манерам блізка сышоўся з уладальнікамі вялікіх кашалькоў і нятанных звычак. Ён навучыўся зацята граць у карты і марнаваць грошы на скачках і быў вымушаны зноў і зноў звяртацца да мяне па грошы ў кошт будучых кішэнных расходаў, бо мусіў выплаціць доўг гонару. Шмат разоў спрабаваў ён парваць з небяспечнай кампаніяй, але кожны раз пад уплывам свайго сябра сэра Джорджа Барнвэла зноў браўся за старое.

Мяне, дарэчы, зусім не дзівіць, што такі чалавек, як сэр Джордж Барнвэл, мае на Артура моцны ўплыў — сын часта прыводзіў яго дадому, і я сам ледзь знайшоў сілы супрацівіцца абаяльнасці яго манераў. Ён старэйшы за Артура, свецкі чалавек да мозгу касцей, адзін з тых, што ўсюды пабывалі і ўсяго пабачылі, блiскучы суразмоўца і да таго ж знешне надзвычай прыгожы. Зрэшты, асэнсоўваючы сваё ўражанне на свежую галаву, калі чары абаяльнасці сэра Барнвэла трохі слаблі, і прыгадваючы яго цынічныя словы і падгледжаныя мной позіркі, я зрабіў выснову, што давяраць гэтаму чалавеку нельга. Такое ў мяне склалася меркаванне, і яго з усёй сваёй жаночай інтуіцыяй падзяляла мая маленькая Мэры.

Цяпер мне засталося апісаць толькі яе. Мэры — мая пляменніца. Калі пяць гадоў таму мой брат памёр і пакінуў яе адну, я ўзяў яе да сябе і даглядаў як родную дачку. У маім доме яна — як сонечны прамень, мілая, адданая, прыгожая і чароўная ахмістрыня і гаспадыня, такая пяшчотная, і ціхмяная, і клапатлівая, якой мусіць быць жанчына. Яна — мая правая рука. Не ведаю нават, што б я без яе рабіў. Толькі ў адным пытанні яна дзейнічае супраць маіх жаданняў. Ужо двойчы мой безнадзейна закаханы хлопчык рабіў ёй прапанову, і яна двойчы яму адмовіла. Мне здаецца, што яна — адзіны чалавек, які можа вывесці яго на правільную дарогу, і што гэтая жаніцьба магла б усё змяніць, але што тут, на жаль, зробіш — цяпер ужо позна, ах, цяпер ужо занадта позна!

Вось, містэр Холмс, вы і ведаеце людзей, якія жывуць пад маім дахам, а таму я магу працягваць сваю горкую гісторыю.

Калі тым вечарам мы ў гасцёўні пілі пасля вячэры каву, я расказаў Артуру і Мэры пра падзеі дня і пра тое, які скарб захоўваецца цяпер у нашым доме, апусціўшы толькі імя кліента. Я быў упэўнены, што Люсі Пар, якая толькі што прынесла каву, пакінула пакой, але што дзверы былі зачыненыя, прысягнуць не магу. Мэры і Артур вельмі зацікавіліся маім аповедам і захацелі зірнуць на знакамітую каштоўнасць, але я падумаў, што яе лепш не чапаць.

— Куды ты яе паклаў? — пацікавіўся Артур.

— У бюро.

— Спадзяюся, сёння ноччу наш дом не абрабуюць, — сказаў ён.

— Я ж яго замкнуў!

— Ох, ды гэтае бюро адчыніцца любым старым ключом. У дзяцінстве я часта адмыкаў твой тайнік ключом ад буфета ў каморы.

Гэта была яго звычайная манера весці размову, таму неўзабаве я выкінуў яго словы з галавы. Аднак тым вечарам ён праводзіў мяне да пакоя з вельмі змрочным тварам.

— Слухай, тата, а ты можаш пазычыць мне дзвесце фунтаў? — спытаў ён, апусціўшы вочы.

— Не, не магу! — рэзка адказаў я. — У грашовых справах я быў з табой занадта шчодры.

— Ты заўсёды ставіўся да мяне па-добраму, — пагадзіўся ён. — Але мне да зарэзу патрэбныя гэтыя грошы, інакш я больш ніколі не змагу паказацца ў клубе.

— Цудоўная перспектыва! — усклікнуў я.

— Але ты ж не хочаш, каб мяне лічылі несумленным? — працягнуў ён. — Ганьбы я не вытрываю. Так ці інакш я павінны здабыць гэтую суму, і калі ты мне не дапаможаш, я буду вымушаны шукаць іншыя спосабы.

Я моцна разззлаваўся, бо за апошні месяц гэта была ўжо трэцяя просьба.

— Ад мяне ты больш ні фартынга не атрымаеш! — ускрыкнуў я.

Артур пакланіўся і без лішніх словаў пакінуў пакой.

Калі ён сышоў, я адчыніў бюро, каб упэўніцца, што скарб у бяспецы, і зноў яго замкнуў. Потым абышоў увесь дом, правяраючы, ці ўсё ў парадку. Звычайна гэта абавязак Мэры, але ў той вечар я вырашыў узяць яго на сябе. Спусціўшыся ўніз, я ўбачыў і саму Мэры, якая акурат зачыняла ў гасцёўні бакавое акно.

— Тата, хіба ты сёння вечарам дазваляў Люсі сыходзіць? — з устрывожаным выглядам спытала яна.

— Канечне не!

— Яна толькі што ўвайшла ў дом праз чорны ход. Я не сумняюся, што ля бакавой брамы яна з кімсьці сустракалася, а гэта не так ужо бяспечна і мусіць спыніцца.

— Пагавары з ёй заўтра ранкам, ці, калі хочаш, я пагавару сам. Ты ўпэўненая, што ўсё зачыненае?

— Упэўненая.

Я пацалаваў яе і вярнуўся ў спальню, дзе амаль тут жа заснуў.

Містэр Холмс, я спрабую расказаць вам усё, што хоць неяким чынам звязанае са справай, але прашу вас задаваць дадатковыя пытанні, калі нешта раптам падасца не зусім зразумелым.

— Не хвалюйцеся, ваш аповед надзвычай дакладны.

— Цяпер я пераходжу да той часткі, пра якую толькі так і трэба расказваць. Сплю я не вельмі моцна, да таго ж дзённае напружанне зрабіла мой сон яшчэ горшым, чым звычайна. Гадзіны ў дзве ночы я прачнуўся ад нейкіх дзіўных гукаў, якія сціхлі, перш чым я паспеў канчаткова прыйсці ў сябе. Але засталося ўражанне, што дзесьці ў доме вельмі акуратна зачынілі акно. Я ляжаў і напружана ўслухоўваўся ў цішыню. Раптам, на мой жах, у суседнім пакоі выразна пачуліся мяккія крокі. Дрыжучы ад страху, я выслізнуў з ложка і вызірнуў з-за дзвярэй у суседні пакой.

— Артур! — закрычаў я. — Ах ты нягоднік! Ах ты злодзей! Як ты насмеліўся ўзяць дыядэму?

Газавая лямпа стаяла гэтак жа, як я яе пакінуў, і ў цьмяным святле я ўбачыў свайго няшчаснага хлопчыка, апранутага ў адну кашулю і нагавіцы, які трымаў у руках дыядэму. Здавалася, ён з усяе моцы спрабуе яе зламаць альбо сагнуць. На мой крык ён выпусціў каштоўнасць з рук і павярнуўся ў мой бок, бледны, як смерць. Я схапіў дыядэму і агледзеў яе — не хапала аднаго залатога элемента з трыма берыламі.

— Ах ты паганец! — раз'юшана крычаў я. — Ты зламаў яе! Ты навекі зганьбаваў мяне! Дзе гэтыя камяні, якія ты скраў?

— Скраў? — пракрычаў ён у адказ.

— Скраў, злодзей! — рыкаў я, трасучы яго за плечы.

— Гэтага не можа быць, знікнуць нічога не магло, — здзівіўся ён.

— І ўсё ж тры камні зніклі! І ты ведаеш, дзе яны! Няўжо ты не толькі злодзей, але яшчэ і хлус? Думаеш, я не бачыў, як ты спрабуеш адламаць другі кавалак?

— Я ўжо дастаткова ад цябе наслухаўся, — сказаў ён, — і больш ні дня тут не застануся. Пра гэтую справу ты ні слова ад мяне не дачакаешся, калі ўжо вырашыў так мяне абражаць! Заўтра раніцай я пакіну дом і зажыву ўласным жыццём.

— З гэтага дома ты выйдзеш толькі разам з паліцыяй! — закрычаў я, ледзь не звар'яцеўшы ад гора і злосці. — Я дакапаюся ў гэтай справе да самай сутнасці!

— Ад мяне ты нічога не даэнаешся, — сказаў ён з нечуванай для яго жарсцю. — Калі хочаш выклікаць паліцыю — калі ласка, хай сабе шукаюць, колькі ім заманецца.

Я крычаў так, што хутка ўвесь дом быў на нагах. Першай у пакой убегла Мэры. Убачыўшы дыядэму і выраз Артурава твару, яна ўсё зразумела і, ускрыкнуўшы, звалілася без прытомнасці. Я адправіў пакаёўку па паліцыю і адразу ж перадаў ім справу. Калі інспектар і канстэбль увайшлі ў дом, Артур, які стаяў, насупіўшыся і склаўшы на грудзях рукі, пацікавіўся, ці збіраюся я абвінаваціць яго ў крадзяжы. Я адказаў, што справа з прыватных перайшла ў грамадскія, бо вядзецца пра нацыянальную ўласнасць. Я вырашыў, што самы час перадаць яе ў рукі закону.

— Не дай ім хаця б адразу мяне арыштаваць, — папрасіў Артур. — Для нас абодвух будзе лепш, калі я хвілін на пяць змагу пакінуць дом.

— Каб ты збег ці прынамсі схаваў скрадзенае? — спытаў я.

Яшчэ глыбей усвядоміўшы ўвесь жах свайго становішча, я нагадваў сыну, што на карту пастаўлены не толькі мой гонар, але і гонар асобы, нашмат за мяне вышэйшай, і што вось-вось выбухне скандал, які скалане нацыю. Усяго гэтага можна пазбегнуць, калі толькі ён раскажа, дзе схаваныя тры зніклыя камні.

— Паглядзі ты ўрэшце фактам у твар, — маліў яго я. — Цябе злавілі на месцы злачынства, і ніякае прызнанне віну агіднейшай не зробіць. Але ў тваіх сілах яе выкупіць, сказаўшы, дзе знаходзяцца берылы, і заслужыць такім чынам поўнае дараванне.

— Пакінь сваё дараванне тым, каму яно патрэбнае, — сказаў ён са з'едлівай усмешкай і адвярнуўся.

Я зразумеў, што ён занадта абыякавы, каб пачуць мае аргументы. Засталося толькі адно выйсце. Я паклікаў інспектара, каб той арыштаваў майго сына. Паліцыя абшукала не толькі яго самога, але і ўвесь яго пакой, а таксама рэшту дома, дзе магла быць схаваная каштоўнасць, але нічога не знайшла. Паскуднік гэты не сказаў нам ні слова, нягледзячы на ўгаворы і пагрозы. Ранкам яго адправілі ў турму, а я, прайшоўшы праз усе паліцэйскія фармальнасці, паспяшаўся сюды ў надзеі, што вы прыкладзяце ўсе свае здольнасці, каб разблытаць справу. Паліцыя адкрыта прызнае, што на сённяшні дзень яны больш нічога зрабіць не могуць. Я гатовы аплаціць любыя выдаткі. Я ўжо прапанаваў узнагароду ў тысячу фунтаў таму, хто знойдзе дыядэму. Божа, што мне цяпер рабіць? За адну ноч я страціў гонар, нацыянальны скарб і сына! Што мне цяпер рабіць?

Ён схапіўся за галаву і пачаў гайдацца з боку ў бок, мармычучы сабе нешта пад нос, як дзіця, не здольнае выказаць сваё гора словамі.

Некалькі хвілінаў Шэрлак Холмс маўчаў, нахмурыўшы бровы і ўтаропіўшыся ў камін.

— Госці ў вас бываюць часта? — урэшце спытаў ён.

— Ды не, хіба што мой кампаньён з сям'ёй і зрэдку — сябры Артура. Апошнім часам некалькі разоў зазіраў сэр Джордж Барнвэл. Болей, відаць, нікога.

— А вы самі дзе-небудзь бываеце?

— Толькі Артур. Мы з Мэры сядзім дома — нас візіты не цікавяць.

— Дзіўна чуць такое пра юную дзяўчыну.

— Яна чалавек спакойны. Дарэчы, не такая ўжо яна і юная — ёй дваццаць чатыры.

— З таго, што вы сказалі, я раблю выснову, што гісторыя моцна яе ўразіла.

— Проста жахліва! Больш нават, чым мяне.

— Сумневаў наконт віны Артура ў вас няма?

— Якія могуць быць сумневы, калі я ўласнымі вачыма бачыў у яго руках дыядэму?

— Я б гэта пераканаўчым доказам не назваў. Рэшта дыядэмы яшчэ неяк пашкоджаная?

— Так, яна ўся пагнутая.

— А вы не думаеце, што ён спрабаваў яе выпрастаць?

— Божа мой, вы хочаце вярнуць нам з сынам надзею, але баюся, гэта будзе занадта складана. Што ён там увогуле рабіў? Чаго маўчыць, калі яго намеры былі нявінныя?

— Вы, безумоўна, маеце рацыю. Але калі намеры ў яго былі злачынныя, чаму ён не пачаў маніць? Маўчанне хлопца, як на мяне, выключае абодва варыянты. У вашай справе засталося шмат незразуме-

лага. Што паліцыя думае пра гук, які вас абудзіў?

— Яны мяркуюць, што я пачуў, як Артур зачыняе дзверы сваёй спальні.

— Ага, яно і зразумела. Чалавек збіраецца здзейсніць злачынства і з гэтай нагоды ляпае дзвярыма так, каб падняць увесь дом. А што яны тады кажуць пра знікненне камянёў?

— Яны дагэтуль абстукваюць сцены і даследуюць мэблю, спадзеючыся знайсці прапажу.

— Пашукаць за межамі дома не спрабавалі?

— Ну канечне! Яны падышлі да справы вельмі энергічна і ўжо старанна абшукалі сад.

— Што ж, дарагі мой сэр, — сказаў Холмс, — хіба вы не бачыце, што праблема тут нашмат глыбейшая, чым на першы погляд здаецца і вам, і паліцыі? Вы ўпэўнены, што справа зусім простая, я ж сцвярджаю, што яна надзвычай складаная. Зірнем на яе вашымі вачыма: вы думаеце, што Артур падняўся з ложка, моцна рызыкуючы, прабраўся ў ваш пакой, адчыніў бюро, дастаў дыядэму, з вялікай цяжкасцю адламаў ад яе кавалак, выйшаў кудысьці яшчэ, схаваў тры з трыццаці дзевяці камянёў, прычым так, што цяпер іх ніхто не можа знайсці, потым з трыццацю шасцю астатнімі вярнуўся ў пакой, дзе яго з неверагоднай лёгкасцю маглі выкрыць. Ну як, вельмі лагічная тэорыя?

— Але як тады вы гэта патлумачыце? — з жэстам адчаю ўсклікнуў банкір. — Калі яго намеры былі нявінныя, чаму ён нічога не гаворыць?

— Вось з гэтым і трэба разабрацца, — адказаў Холмс. — А таму цяпер, калі вы, містэр Холдэр, не супраць, мы адправімся на Стрытхэм і прысвецім гадзінку бліжэйшаму азнаямленню з дэталямі.

Мой сябар настойваў, каб я яго суправаджаў, і тут нашы жаданні супадалі: пачутая гісторыя абудзіла ўва мне цікаўнасць і спачуванне. Я не мог не прызнаць, што віна Артура падавалася мне такой жа відавочнай, як і яго няшчаснаму бацьку, тым не менш, я заўсёды давяраў меркаванню Холмса, а таму верыў, што, калі прапанаванае тлумачэнне яго не задавальняе, надзею траціць рана. Пакуль мы ехалі на паўднёвую ўскраіну Лондана, ён не сказаў ні слова, а толькі сядзеў, глыбока занураны ў думкі, апусціўшы галаву і насунуўшы на вочы капялюш. Кліент наш, здавалася, трохі акрыяў — перад ім бліснуў слабы прамень надзеі, і містэр Холдэр паспрабаваў нават завязаць са мной досыць бязладную размову пра свае банкаўскія клопаты. Кароткая паездка чыгункай і яшчэ карацейшая прагулка пехам прывялі нас неўзабаве да Фэрбэнка — сціплага жытла вялікага фінансіста.

Фэрбэнк, масіўны квадратны будынак з белага каменю, стаяў ад вялікай дарогі трохі ўбаку. Да цяжкой жалезнай брамы, якая перапыніла наш шлях, вёў пад'езд для экіпажаў з газонам, прысыпаным снегам. Справа мы заўважылі невялікую купу хмызоў, за якой прагладалася аточаная жывой агароджай вузкая сцяжынка да кухонных дзвярэй — відаць, чорны ўваход. Злева пачыналася дарожка, якая вяла да стайні. Сядзібе яна не належала і лічылася грамадскай уласнасцю, хаця ёй амаль ніхто не карыстаўся.

Холмс пакінуў нас каля дзвярэй і марудна прагуляўся вакол дома, прайшоў міма фасада, потым — сцяжынкай да чорнага ўвахода, а затым — самай аддаленай часткай сада да стайневай дарожкі. Адсутнічаў ён так доўга, што мы з містэрам Холдэрам адправіліся чакаць яго ў гасцёўню, бліжэй да каміна. Мы моўчкі сядзелі ля агню, як раптам дзверы адчыніліся і ў пакой увайшла маладая лэдзі. Росту яна была хутчэй сярэдняга, зграбная, з цёмнымі валасамі і вачыма, якія на фоне светлай скуры здаваліся яшчэ цямнейшымі. Не думаю, што калі-небудзь раней я сустракаў такі смяротна бледны жаночы твар. Вусны яе былі зусім бяскроўныя, затое вочы блішчэлі ад слёз. Калі яна бязмоўна ўвайшла ў пакой, мяне ўразіла яе гора, якое падалося яшчэ глыбейшым, чым ранішнія пакуты банкіра, і ўражвала яшчэ больш, бо перамагло, відаць, жанчыну з моцным характарам і бязмернай вытрымкай. Не зважаючы на мяне, яна адразу ж скіравалася да свайго дзядзькі і з мілай жаночай клапатлівасцю правяла рукой па яго валасах.

— Тата, вы ж папрасілі, каб Артура вызвалілі? — спытала яна.

— Не, мая дзяўчынка, не, у гэтай справе трэба дакапацца да самай сутнасці.

— Але я ўпэўненая, што ён ні ў чым не вінаваты. Ты ж ведаеш, жанчыны гэта адчуваюць. Я веру, што нічога кепскага ён не зрабіў, і потым ты сам пашкадуеш, што так жорстка з ім абышоўся.

— Калі ён невінаваты, чаму ж тады маўчыць?

— Хто ведае?.. Можа, яго раззлавалі твае падазрэнні.

— Як жа мне ад іх пазбавіцца, калі я на ўласныя вочы бачыў яго з дыядэмай у руках?

— Ох, ну ён мог дастаць яе, каб проста паглядзець. Павер мне на слова, ён ні ў чым не вінаваты! Нічога больш не кажы — і хай справа закрыецца! Як гэта жахліва, што наш дарагі Артур у турме!

— Я ніколі не дазволю закрыць гэтую справу, пакуль каштоўнасць не знойдзецца — чуеш, Мэры, ніколі! Любоў да Артура засціць табе вочы, і ты забываеш, чым мне ўсё гэта пагражае. Нічога замоўчваць я не збіраюся і нават запрасіў джэнтльмена з Лондана, каб яны таксама ўзяліся за дэталёвае расследаванне.

— Якога джэнтльмена? Гэтага? — спытала яна, паварочваючыся да мяне.

— Не, яго сябра. Але той папрасіў пакінуць яго самога і цяпер аглядае сцяжынку, што вядзе да стайні.

— Сцяжынку, што вядзе да стайні? — яна падняла свае цёмныя бровы. — Што ён спадзяецца там знайсці? А, вось, відаць, і ён! Я веру, сэр, што вы паспяхова давядзяце справядлівасць маіх слоў, бо я не сумняюся ў невінаватасці майго стрыечнага брата Артура.

— Я цалкам з вамі згодны і ўпэўнены, што змагу сваю правату даказаць, — пагадзіўся Холмс, вяртаючыся да дыванка ля дзвярэй, каб абтрэсці з абутку снег. — Мяркую, я маю гонар гаварыць з міс Мэры Холдэр. Магу я задаць вам адно-два пытанні?

— Прашу вас, сэр, задаваць колькі заўгодна, калі гэта дапаможа вам разабрацца з нашай жудаснай гісторыяй.

— Мінулай ноччу вы самі што-небудзь чулі?

— Нічога да таго моманту, пакуль дзядзька не закрычаў. Я пачула яго голас і спусцілася ў дзядзькаў пакой.

— Вечарам вы зачынялі ўсе вокны і дзверы. Яны былі надзейна замкнутыя?

— Канечне.

— З раніцы таксама ўсё было зачынена?

— Так.

— У адной з вашых пакаёвак ёсць прыхільнік? Калі я не памыляюся, мінулым вечарам вы казалі дзядзьку, што яна выходзіла з ім сустрэцца.

— Так, прычым менавіта яна падавала нам учора каву і магла падслухаць дзядзькаў аповед пра дыядэму.

— Зразумела. Думаеце, яна магла расказаць пра гэта свайму сябру, і яны разам задумалі крадзеж?

— Але які сэнс ва ўсіх гэтых вашых версіях, — нецярпліва ўсклікнуў банкір, — калі я не раз казаў вам, што сам бачыў Артура з дыядэмай у руках?

— Трошкі пачакайце, містэр Холдэр. Да гэтага мы яшчэ вернемся. Цяпер пра тую дзяўчыну, міс Холдэр: я правільна разумею, што вы бачылі, як яна праз кухню вяртаецца дадому?

— Усё правільна. Я пайшла праверыць, ці замкнёныя тыя дзверы на ноч, і ўбачыла, як яна праслізнула ў дом. Мужчыну ў паўзмроку таксама заўважыла.

— Вы яго ведаеце?

— Безумоўна! Гэта быў гандляр агароднінай, які прыносіць нам зеляніну. Яго завуць Фрэнсіс Проспэр.

— І стаяў ён злева ад дзвярэй, то бок нашмат далей ад сцяжынкі, чым трэба для таго, каб увайсці ў дом? — удакладніў Холмс.

— Так.

— І ў яго была драўляная нага?

У чорных выразных вачах юнай лэдзі прамільгнула нешта, падобнае на страх.

— Ды вы сапраўдны чарадзей! — усклікнула яна. — Як вы даведаліся?

Яна ўсміхнулася, але на худым энергічным твары Холмса ўсмешкі ў адказ не з'явілася.

— Цяпер было б някепска падняцца наверх, — сказаў ён. — Магчыма, давядзецца яшчэ раз абысці вакол дома. Але пакуль мы яшчэ тут, я, мабыць, зірну на вокны.

Ён імкліва пералятаў ад акна да акна, прыпыніўшыся толькі каля аднаго ў гасцёўні, вялікага, якое выходзіла на стайневую дарожку. Холмс адчыніў яго і вельмі ўважліва агледзеў падаконне з дапамогай вельмі моцнай лупы.

— А цяпер наверх, — урэшце скамандаваў ён.

Гардэробная банкіра выявілася сціпла мэбляваным пакойчыкам з шэрым дыванам, вялікім бюро і доўгім люстэркам. Холмс адразу падышоў да бюро і старанна агледзеў замок.

— Якім ключом яго адчынілі? — спытаў мой сябар.

— Тым самым, пра які ўспомніў мой сын — ад буфета ў каморы.

— Дзе ключ цяпер?

— Вось ён — ляжыць на туалетным століку.

Шэрлак Холмс узяў ключ і адамкнуў бюро.

— Замок бясшумны, — сказаў ён. — Не дзіўна, што злодзей вас не абудзіў. У гэтым футарале, як я разумею, ляжыць дыядэма. Зараз мы на яе зірнем.

Ён адчыніў футарал, дастаў адтуль дыядэму і паклаў яе на стол. Гэта быў шыкоўны ўзор ювелірнага мастацтва — камянёў, прыгажэйшых за гэтыя трыццаць шэсць, я яшчэ ніколі не бачыў. Адзін з зубцоў дыядэмы, дзе мусілі быць астатнія тры берылы, быў адламаны.

— Ну, містэр Холдэр, — сказаў Холмс, — гэты зубец нагадвае той, які ў вас самым ганебным чынам скралі. Магу я вас папрасіць таксама яго адламаць?

— Божа барані! — з жахам адхіснуўся банкір.

— Тады я сам, — нечакана прамовіў Холмс і паспрабаваў адламаць зубец, але беспаспяхова. — Трохі, здаецца, паддаўся, аднак, баюся, што нягледзячы на ўсю маю сілу, часу б спатрэбілася нямала. Звычайны чалавек тут бы рады не даў. Але як вы думаеце, містэр Холдэр, што, калі б я яго ўсё ж такі адламаў? Безумоўна, вы пачулі б гук, падобны да пісталетнага стрэлу. Скажыце, няўжо такое магло адбыцца ў некалькіх ярдах ад вашага ложка, а вы нічога і не пачулі?

— Не ведаю, што і сказаць. Для мяне ўсё гэта — цёмны лес.

— Можа, мы здолеем трохі яго асвятліць. Што вы, міс Холдер, пра гэта думаеце?

— Мушу прызнацца, што я раздзяляю дзядзькаву разгубленасць.

— Калі вы ўбачылі сына, былі на ім чаравікі ці хатнія туфлі?

— Не, толькі нагавіцы і кашуля.

— Дзякуй. У расследаванні нам відавочна спадарожнічае неверагодная ўдача, і калі мы не даб'емся поспеху, то толькі праз нас саміх. Містэр Холдэр, з вашага дазволу я працягну пошукі вонкі.

Выконваючы загад Холмса, мы засталіся дома, бо лішнія, як ён сказаў, сляды толькі ўскладняць задачу. Гадзіну ці каля таго ён шчыраваў у садзе і ўрэшце вярнуўся, увесь у снезе і з яшчэ больш загадкавым выразам твару, чым звычайна.

— Думаю, містэр Холдэр, я ўжо ўбачыў тут усё, што мог, — сказаў ён. — Каб працягнуць расследаванне, я мушу цяпер адправіцца дадому.

— Але містэр Холмс, дзе ж гэтыя камяні?

— Пакуль сказаць не магу.

Банкір зноў заламаў рукі.

— Я больш ніколі іх не ўбачу! — крычаў ён. — А што з маім сынам? Ёсць хоць нейкая надзея?

— Маё меркаванне пра яго не змянілася.

— Божа мой, дык што ж урэшце мінулай ноччу адбылося?

— Калі вы зможаце заўтра ранкам паміж дзевяццю і дзесяццю зазірнуць да мяне на Бэйкер-стрыт, я буду рады трошкі вам гэтую справу праясніць. Як я разумею, вы даяце мне карт-бланш пры ўмове, што я вярну камяні, і не ставіце ніякіх абмежаванняў у сродках?

— Я гатовы аддаць усё, што маю, толькі б атрымаць гэтыя берылы назад.

— Цудоўна. А я тым часам падумаю над праблемай. Да пабачэння! Магчыма, да вечара мне давядзецца яшчэ раз сюды забегчы.

Я разумеў, што ў думках майго кампаньёна ўжо выспела нейкая ідэя, але не меў нават цьмянага ўяўлення, да якіх высноваў ён дайшоў. На зваротным шляху я некалькі разоў паспрабаваў завязаць з ім размову, але ён кожны раз мякка пераходзіў на іншую тэму, пакуль я ўрэшце не адчаяўся і не кінуў спробы. Калі мы вярнуліся дадому, не было яшчэ трох гадзінаў. Холмс паспяшаўся ў свой пакой і праз некалькі хвілінаў спусціўся да мяне, апрануты, як звычайны валацуга. У зношаным і зашмальцаваным паліто з паднятым каўняром і чырвоным шалікам і ў старых чаравіках ён выглядаў як тыповы прадстаўнік гэтага класа.

— Думаю, гэта тое, што трэба, — прамовіў ён, разглядаючы сябе ў люстэрку над камінам. — Шкада толькі, што вы, Ўотсан, не можаце да мяне далучыцца. Хутка я высветлю, правільны я ўзяў след ці проста ганюся за фата-марганай. Праз некалькі гадзінаў спадзяюся вярнуцца.

Ён дастаў з буфета кавалак ялавічыны, адрэзаў ад яго скрылік, паклаў паміж дзвюма лустамі хлеба і, засунуўшы гэтую няхітрую ежу ў кішэню, выправіўся на пошукі.

Я толькі дапіў гарбату, калі ён вярнуўся, у цудоўным, відаць, настроі, памахваючы нейкім старым штыблетам, які тут жа кінуў у кут і таксама наліў сабе гарбаты.

— Я тут проста праходзіў міма, — патлумачыў ён. — Зараз адпраўлюся далей.

— Куды?

— О, ажно на іншы канец Вэст-Энда. Вярнуся, мабыць, не зусім хутка. Калі буду позна, не чакайце мяне і кладзіцеся спаць.

— А як поспехі?

— Ну, нічога так, пажаліцца не магу. За гэты час я паспеў яшчэ раз пабываць на Стрытхэме, але ў дом не заходзіў. Праблемка вельмі цікавая, і я ні за што не хачу яе ўпусціць. Аднак няма часу пляткарыць, трэба гэтую ганебную апранаху скінуць і вярнуць урэшце свой рэспектабельны выгляд.

Паводзіны майго сябра сведчылі, што нагодаў сабой ганарыцца ў яго больш, чым можна было б меркаваць з яго словаў. Вочы Холмса блішчэлі, а на жаўтаватых шчоках з'явіўся нават нейкі намёк на румянец. Ён паспяшаўся наверх, і праз некалькі хвілінаў я пачуў, як ляснулі ўваходныя дзверы: значыць, ён зноў выправіўся на сваё паспяховае дагэтуль паляванне.

Я чакаў яго да апоўначы, але Холмса не было і духу, а таму я адправіўся ў свой пакой. Адсутнічаць некалькі дзён і начэй, узяўшы гарачы след чарговага злачынцы, было для яго справай звычайнай, а таму позняя адсутнасць мяне зусім не здзівіла. Не ведаю, а якой гадзіне ён вярнуўся, аднак калі раніцай я спусціўся на сняданак, ён ужо сядзеў за сталом з кубкам кавы ў адной руцэ і газетай у другой, свежы і падцягнуты, як заўсёды.

— Вы прабачыце мне тое, што я пачаў без вас, Ўотсан, — сказаў ён, — калі ўспомніце, што сёння нашаму кліенту прызначаны досыць ранні час.

— Ужо дзясятая, — заўважыў я. — О, здаецца, я чую званок! Не здзіўлюся, калі гэта будзе ён.

Гэта і праўда быў наш знаёмец-фінансіст. Мяне ўразіла змена, якая адбылася з ім за ноч: твар яго, дагэтуль буйны і шырокі, цяпер выцягнуўся і змарнеў, а валасы зрабіліся на цэлы тон бялейшымі. Сённяшняя яго стома і апатыя падаліся мне яшчэ жахлівейшымі, чым учарашняе шаленства. Я прапанаваў госцю фатэль, і ён цяжка ў яго паваліўся.

Працяг на стар. 18 (10) ►

ПЕРАКЛАД

# БЕРЫЛАВАЯ ДЫЯДЭМА

◂ Працяг.
Пачатак на стар. 15 (7).



— За якія грахі так сурова карае мяне неба? — прастагнаў ён. — Толькі два дні таму я быў шчаслівым і багатым чалавекам без аніводнага ў свеце клопату. Цяпер жа мяне чакаюць доўгія самотныя і поўныя ганьбы гады. Бяда адна не прыходзіць. Учора Мэры мяне пакінула.

— Пакінула вас?

— Так. У сваім ложку яна сёння не начавала, пакой пусты, а на стале ў гасцёўні — цыдулка. Учора вечарам я ў роспачы, але зусім не ў гневе сказаў, што калі б яна выйшла за майго хлопчыка замуж, цяпер з ім усё было б добра. Мабыць, з майго боку гэта было безразважна, бо менавіта тыя словы яна згадала ў пасланні:

«Дарагі дзядзька! Мне здаецца, што я прынесла ў твой дом шмат турбот. Калі б я дзейнічала інакш, учарашняе няшчасце абышло б нас бокам. З такімі думкамі я ніколі больш не змагу быць пад тваім дахам шчаслівай. Думаю, мне трэба назаўсёды цябе пакінуць. Пра маю будучыню не хвалюйся, бо яна цалкам забяспечаная. Не спрабуй мяне адшукаць, бо праца гэтая будзе марнай і саслужыць мне кепскую службу.

З любоўю да самай смерці, Твая Мэры».

— Містэр Холмс, што яна хацела гэтым сказаць? Можа, задумала самазабойства?

— Не-не, нічога такога. Відаць, яна знайшла найлепшае выйсце з сітуацыі. Містэр Холдэр, я магу прысягнуць, што хутка вашыя пакуты скончацца.

— Ах, якія цудоўныя словы! Вы пра нешта дазналіся, містэр Холмс, вы да нечага дакапаліся! Скажыце, дзе цяпер камяні?

— Як вы думаеце, тысяча фунтаў за камень — кошт не надта непад'ёмны?

— Я гатовы заплаціць нават дзесяць!

— У гэтым няма неабходнасці. Трох тысяч цалкам дастаткова. Мяркую, спатрэбіцца таксама невялікая ўзнагарода. Чэкавая кніжка пры вас? Вось пяро. Лепш за ўсё выпішыце на чатыры тысячы.

Агаломшаны банкір выпісаў патрэбны чэк. Холмс падышоў да стала, дастаў невялічкі залаты трохкутнік з трыма берыламі і кінуў на стол.

Наш кліент ускрыкнуў ад радасці і схапіў каштоўнасць.

— Вы вярнулі іх! — ледзь не задыхаўся ён. — Я ўратаваны! Уратаваны!

Радасці ён аддаваўся гэтак жа горача, як учора аддаваўся адчаю. Знойдзеныя камяні ён пяшчотна прыціскаў да грудзей.

— Містэр Холдэр, вы павінныя вярнуць яшчэ адзін доўг, — сурова сказаў Шэрлак Холмс.

— Доўг? — банкір схапіўся за пяро. — Назавіце суму, і я з радасцю яе аплачу!

— Мне вы больш нічога не павінны, але вам трэба глыбока выбачыцца перад вашым высакародным сынам, які ў гэтай справе трымаўся так годна, што на месцы яго бацькі я не мог бы ім не ганарыцца.

— Дык іх узяў не Артур?

— Яшчэ ўчора я казаў вам, што не ён, і сёння гатовы паўтарыць.

— І вы мелі рацыю! Тады паспяшаемся да яго, каб паведаміць, што праўда раскрылася.

— Ён ужо ведае. Я паразмаўляў з ім, калі ўсё высветліў, і зразумеўшы, што ён нічога мне не скажа, сам усё яму расказаў. Ён пацвердзіў мае высновы і дадаў некалькі дробязяў, да якіх я яшчэ не зусім дакапаўся. Думаю, сённяшняя навіна развяжа яму язык.

— Малю вас, адкрыйце ўрэшце гэтую неверагодную таямніцу!

— Безумоўна, я гэта зраблю, больш за тое — раскажу, як я дабраўся да праўды. Але спачатку дазвольце сказаць нешта, што мне будзе цяжка сказаць, а вам — пачуць: ваша пляменніца Мэры згаварылася з сэрам Джорджам Барнвэлам, і збеглі яны разам.

— Мая Мэры? Гэтага не можа быць!

— На жаль, гэта не толькі можа быць, але і ёсць. Ні вы, ні ваш сын не ведалі пра сапраўдную сутнасць чалавека, якога ўпусцілі ў сваё сямейнае кола. Гэта адзін з самых небяспечных у Англіі людзей: страшэнны гулец і абсалютна безнадзейны нягоднік, чалавек без сумлення і без сэрца. Ваша пляменніца нічога пра такіх людзей не ведае. Калі ён нашэптваў ёй свае клятвы — як сотням іншых жанчын да яе, — яна цешылася думкай, што здолела заваяваць яго каханне. Адзін чорт ведае, чаго ён ёй нагаварыў, аднак урэшце яна зрабілася яго паслухмянай цацкай і ледзь не кожны вечар бегала да яго на спатканні.

— Я не магу, не, я не хачу ў гэта паверыць! — твар банкіра пашарэў.

— А я раскажу вам, што мінулай ночу адбылося ў вашым доме. Калі ваша пляменніца вырашыла, што вы адправіліся да сябе, яна праслізнула ўніз і праз акенца, што выходзіць на стайню, перагаварыла са сваім каханым. На снезе пад акном выразна бачныя яго сляды. Мэры расказала Барнвэлу пра дыядэму. Навіна распаліла яго заганную прагу да золата, і ён прымусіў яе падпарадкавацца гэтаму жаданню. Не сумняюся, што яна вас любіць, але бываюць жанчыны, у сэрцы якіх любоў да мужчыны выціскае ўсе астатнія прыхільнасці, і думаю, што Мэры — адна з іх. Ледзь паспела яна выслухаць яго план, як раптам убачыла, што вы спускаецеся ўніз, тут жа хуценька зачыніла акно і расказала вам пра аднаногага прыхільніка кагосьці з пакаёвак, што зрэшты было чыстай праўдай.

Артур жа адразу пасля вашай размовы адправіўся ў ложак, але з прычыны клубных даўгоў спаў вельмі дрэнна. У сярэдзіне ночы ён пачуў, як хтосьці мякка прайшоў міма яго пакоя, а таму падняўся і, выглянуўшы вонкі, са здзіўленнем убачыў сваю стрыечную сястру, якая цішком крочыла па калідоры і раптам завярнула ў гардэробную. Збянтэжаны такой нечаканасцю, Артур нацягнуў нешта з адзення і стаіўся ў цемры, каб паглядзець, чым усё скончыцца. Неўзабаве Мэры выйшла з пакоя, і ў святле калідорнай лямпы ваш сын убачыў, што яна нясе каштоўную дыядэму. Яна пачала спускацца ўніз, і Артур, дрыжучы ад страху, праслізнуў за гардзіну ля вашых дзвярэй, адкуль мог добра бачыць, што адбываецца ў гасцёўні. Ён убачыў, як Мэры крадком адчыніла акно, перадала дыядэму камусьці, схаванаму ў змроку, а потым зачыніла яго і паспяшалася ў свой пакой, прабегшы зусім блізка ля месца, дзе хаваўся Артур.

У справу была ўцягнутая Мэры, а таму ваш сын не мог рашыцца на хоць нейкі крок, бо тады б яго каханай пагражала страшэннае выкрыццё. Але як толькі яна знікла, ён зразумеў, якой знішчальнай бядой зробіцца для вас гэты крадзеж і як важна як мага хутчэй з усім разабрацца. З гэтай думкай ён, апрануты, як і быў, басаном кінуўся ўніз, адчыніў акно, выскачыў у снег і сцяжынкай пабег да цёмнай фігуры, выхапленай з ночы месяцавым святлом. Сэр Джордж Барнвэл спрабаваў уцячы, але Артур яго злавіў, і паміж імі завязалася бойка: ваш хлопец спрабаваў вырваць дыядэму з рук свайго суперніка, той жа трымаў яе, як мог. У гэтым замяшанні Артур ударыў сэра Джорджа і трапіў таму ў вока. Раптам штосьці трэснула, хлопец адчуў, што дыядэма ў яго руках, тут жа пабег у дом, замкнуў акно, падняўся ў ваш пакой і толькі тады заўважыў, што ў бойцы каштоўнасць пацярпела. Калі вы ўвайшлі ў пакой, Артур акурат спрабаваў яе выпрастаць.

— Няўжо гэта магчыма? — выдыхнуў банкір.

— Абражаючы сына ў той момант, калі ён верыў, што заслугоўвае самай цёплай вашай удзячнасці, вы вельмі моцна яго распалілі. Расказаць усю праўду, не здрадзіўшы той, што была яго заступніцтва не вартая, ён не мог. А таму ён па-рыцарску захаваў таямніцу.

— Дык вось чаму яна ўскрыкнула і страціла прытомнасць, убачыўшы дыядэму! — выгукнуў містэр Холдэр. — О Божа мой! Якім сляпым дурнем я быў! А ён жа прасіў мяне дазволу выйсці з дому хаця б на пяць хвілін! Дарагі мой хлопчык хацеў пашукаць на месцы бою прапажу! Як жорстка я яго недаацаніў!

— Калі я прыехаў да вас, — працягваў Холмс, — то адразу ж вельмі старанна агледзеўся, каб знайсці на снезе сляды, якія маглі б мне дапамагчы. Я помніў, што ападкаў з мінулага вечару не было, а таму моцны мароз мусіў захаваць на снезе шмат цікавага. Я прайшоўся сцяжынкай да чорнага ўваходу, але ўсе адбіткі на ёй былі затаптаныя і нічога мне не далі. Аднак непадалёк ад кухонных дзвярэй я ўсё ж змог нешта расчытаць: там жанчына размаўляла з мужчынам, і круглыя сляды ўказвалі, што ў яго драўляная нага. Магу нават сказаць, што іх размову нехта перарваў, бо жанчына хутка заскочыла ў дом — пра гэта сведчыць адбітак наска, нашмат глыбейшы, чым след ад абцаса. Драўляная нага яшчэ трохі пачакала і таксама сышла прэч. У той момант я падумаў, што гэта мусілі быць пакаёўка са сваім прыяцелем, пра якіх вы расказвалі, і пазней мая думка пацвердзілася. Я абышоў увесь сад і не знайшоў нічога, апроч выпадковых адбіткаў, якія, відаць, належалі паліцыі, аднак калі я дабраўся да стайневай дарожкі, перада мной адкрылася доўгая і складаная гісторыя, напісаная на снезе.

На дарожцы былі дзве лініі слядоў мужчыны ў ботах і яшчэ дзве, пакінутыя, як я задавальненнем адзначыў, босымі нагамі. Успомніўшы вашы словы, я адразу ж упэўніўся, што другая пара адбіткаў належыць вашаму сыну. Мужчына ў ботах спакойна прайшоўся туды і назад, уладальнік жа босых ног паспешліва бег, а ўлічваючы, што сляды другога ідуць па адбітках першага, сын ваш, несумненна, кагосьці пераследаваў. Я пайшоў уздоўж гэтых ліній і прасачыў іх да самага акна гасцёўні, пад якім боты ў чаканні вытапталі ледзь не ўвесь снег. Тады я прайшоў у адваротным кірунку і ярдаў праз сто ці каля таго ўбачыў, што боты павярнуліся. У гэтым месцы снег быў вытаптаны так, нібыта там адбылася бойка. Урэшце я знайшоў на снезе некалькі кропляў крыві, якія пацвердзілі, што я не памыліўся. Потым боты кінуліся прэч, і чарговая плямка крыві паведаміла мне, што іх уласніка ранілі. Ён выбег на вялікую дарогу, снег на якой быў сцышчаны, а таму тут мая нітка абарвалася.

Увайшоўшы ў дом, я, калі памятаеце, з дапамогай лупы агледзеў падаконне і раму ў гасцёўні і адразу ж заўважыў, што праз акно хтосьці вылазіў. Заўважыў я таксама і абрысы адбітка, які застаўся там ад мокрай нагі. Тады ў мяне пачала вымалёўвацца ўява пра тое, што магло адбыцца. Нейкі мужчына чакаў за акном, пакуль нехта з дому перадасць яму каштоўнасць, ваш сын усё гэта падгледзеў і кінуўся за злодзеем у пагоню, пабіўся з ім, і калі кожны цягнуў дыядэму на сябе, разам яны нанеслі ўпрыгожанню такую шкоду, якую паасобку ніхто б нанесці не мог. Артур са здабычай вярнуўся ў дом, але ў руках яго суперніка застаўся адламаны фрагмент. Да гэтага моманту ўсё было ясна. Цяпер перада мной паўстала пытанне, кім быў рабаўнік і хто вынес яму дыядэму?

Я даўно трымаюся прынцыпу, паводле якога выключаю ўсё немагчымае, і тады застаецца толькі праўда, хай сабе і неверагодная. Я ведаў, што вы каштоўнасць вынесці не маглі, а таму заставаліся Мэры і пакаёўка. Калі б гэта была пакаёўка, навошта вашаму сыну падстаўляцца пад абвінавачванне? Ніякіх разумных прычынаў гэтаму няма. А сваю стрыечную сястру ён кахае, што бліскуча тлумачыць, чаму ён захоўваў таямніцу — таямніца гэтая была для Мэры ганебнай. Калі я ўспомніў, як вы сустрэлі яе ля акна і як яна страціла прытомнасць, убачыўшы дыядэму на месцы, мае падазрэнні ператварыліся ва ўпэўненасць.

Кім тады мог быць яе суўдзельнік? Відавочна, гэта яе каханак, бо што яшчэ, як не каханне, здольнае пераважыць тую любоў і ўдзячнасць, якую яна адчувала да вас? Я ведаю, што вы рэдка выязджаеце і што кола вашых сяброў вельмі абмежаванае. Але сярод іх быў і сэр Джордж Барнвэл. Я пра яго кепскую славу сярод жанчын чуў і раней. Менавіта ён мусіў стаяць у ботах пад акном і пасля забраць каштоўнасць. Ён мог цешыць сябе надзеяй, што нават калі Артур яго ўбачыць, то будзе маўчаць, каб не скампраметаваць сям'ю.

Ну, а цяпер ваш уласны здаровы сэнс падкажа, што я рабіў далей. Пад выглядам бадзягі я зазірнуў у дом сэра Джорджа, там пазнаёміўся з яго лакеем, даведаўся, што мінулай ночу гаспадар параніў галаву і ўрэшце за шэсць шылінгаў здабыў пару яго старых чаравікаў. Разам з імі я скіраваўся на Стрытхэм і высветліў, што яны ідэальна супадаюць са слядамі.

— Учора вечарам я бачыў на сцяжынцы кепска апранутага валацугу, — сказаў містэр Холдэр.

— Усё правільна, гэта быў я. Я зразумеў, што злодзей у маіх руках, а таму вярнуўся дадому і пераапрануўся. Цяпер я мусіў заняцца вельмі далікатнай справай, бо ведаў, што суду і скандалу трэба пазбегнуць, а такі спрытны нягоднік абавязкова скарыстаецца тым, што рукі ў нас звязаныя. Я ўвайшоў у яго дом — сэр Джордж быў у сябе. Спачатку ён, безумоўна, усё адмаўляў. Калі я падрабязна яму ўсё апісаў, ён пачаў мне пагражаць і схапіў са сцяны цяжкую дубінку. Аднак я быў падрыхтаваны і таму перш, чым ён паспеў ударыць, прыставіў да яго скроні пісталет. Ён адразу ж зрабіўся лагаднейшы, і я сказаў, што мы гатовыя выкупіць камяні за 1000 фунтаў кожны. Тут на яго твары з'явіліся першыя прыкметы маркоты.

— Чорт вас падзяры! — вылаяўся ён. — Я ўжо аддаў усе тры за шэсцьсот фунтаў!

Паабяцаўшы крымінальную справу супраць яго не пачынаць, я выпытаў у сэра Джорджа адрас скупшчыка, адправіўся да яго і пасля доўгіх спрэчак вярнуў камяні па 1000 фунтаў за штуку. Потым зазірнуў да вашага сына, паведаміў яму, што ўсё ўладжана, і ў выніку каля двух гадзінаў начы дабраўся да свайго ложка пасля цяжкога працоўнага дня.

— Дня, які ўратаваў Англію ад вялікага публічнага скандалу! — падымаючыся, сказаў банкір. — Я не магу знайсці словаў для падзякі, сэр, але вы ўпэўніцеся, што няўдзячным мяне не назавеш. Вашы здольнасці перавышаюць усё, што я пра іх чуў. А цяпер я мушу бегчы да майго дарагога хлопчыка і выбачыцца перад ім за свае падазрэнні. Што да маёй беднай Мэры, то яна ўразіла мяне да глыбіні душы. Баюся, нават вы не зможаце цяпер яе знайсці.

— Думаю, мы можам не сумнявацца, — адказаў Холмс, — што яна цяпер там, дзе і сэр Джордж Барнвэл. Няма сумневаў і ў тым, што, якімі б ні былі яе грахі, хутка яе чакае больш чым дастатковае пакаранне.

Пераклад з англійскай Ганны Янкута

КАЗКА

# КАРАЛЕЎСКАЕ ПАЛЯВАННЕ

**Зміцер ДЗЯДЗЕНКА**


Фота Ю.Дарашкевіч

— Ваша Каралеўская Мосць! — запыханы канцлер уварваўся ў спачывальню, збіўшы па дарозе слугу, які не паспеў дастаткова шырока адчыніць дзверы. Парык у канцлера збіўся набакір, праз пудру на твары праступілі чырвоныя плямы.

«Не так, — з уздыхам падумаў слуга, неўпрыкмет пацiраючы пабіты бок і размінаючы адтаптаную нагу, — не так павінен выглядаць дзяржаўны муж, які прыходзіць на прыём да караля. Драбнеюць сённяшнія саноўнікі...»

Ён засоп і стаў падумваць, як бы наступіць цяпер на нагу канцлеру. Пажадана, канечне, зрабіць гэта так, каб выглядала зусім нявінна, незнарок. А то помста такіх дробных зласлівых людзей, надзеленых да таго ж уладаю, бывае неапраўдана жорсткай...

Канцлер жа нават не заўважыў збітага ім слугу. Ён схіліўся ў паклоне перад каралеўскім ложкам, ад чаго скасабочаны парык з'ехаў яшчэ болей:

— Ваша Каралеўская Мосць! У нас надзвычайнае здарэнне!

— Вайна? — каралеўскі твар запраменіўся надзеяй

— Не, Ваша Мосць.

— Не вайна? — караля перасмыкнула. Цяпер ягоны твар паказваў адно толькі неўразуменне. — А чаго ж ты тады так крычыш? Якое яшчэ надзвычайнае здарэнне?

Канцлер наблізіўся да караля і сказаў даверлівым паўшэптам, выразна вымаўляючы кожнае слова:

— Цень, Ваша Мосць! Незвычайны цень над каралеўскім садам! Ён накрыў толькі каралеўскі сад, увесь замак і горад залітыя бліскучым сонцам.

Канцлер яшчэ раз пакланіўся й адышоў на крок далей.

— Цень... Хмм... І што ён робіць над маім садам?

— Накрывае яго, Ваша Каралеўская Мосць. Вось ужо некалькі гадзінаў, — канцлеру нарэшце ўдалося справіцца з сваім хваляваннем.

Яго Каралеўская Мосць выказаў жаданне пазнаёміцца з такой забаўнай прыроднай з'явай і на свае вочы ўбачыць дзівосны цень, які так беспардонна абыходзіцца з каралеўскім садам.

Дзеля такой незвычайнай нагоды апрануўся кароль надзвычай хутка — слугі справіліся за нейкія паўгадзіны. Праўда, крыху затрымаў каралеўскі куафёр: адзін локан усё не хацеў класціся паводле ягонае задумы. «Нават фрызура Вашае Каралеўскае Мосці выказвае сваю непахісную валадарскую волю», — лісліва зазначыў куафёр і ціхама папляваў на руку, якой прыгладжваў непаслухмяны локан.

Падчас цырымоніі апранання слуга з адтаптанай нагой здолеў-такі папомсціцца канцлеру. Перадаючы каралеўскія пантофлі, ён змудрыўся правесці падэшвай па канцлерскай вопратцы. Цёмная паласа на беласнежным жабо цяпер цешыла душу слугі. Асаблівай радасці дадавала тое, што канцлер не заўважыў вінаваўцу здарэння...

У садзе кароль пераканаўся, што сапраўды на ім ляжыць цень. Цень, якога не было на замку.

Цень накрываў і ўлюбёныя каралеўскія яблыні: салодкую медунічку і кіслую антонаўку, каштэлю і штрыфель. Цёмнае покрыва легла на каралеўскія грушы: на дзюшэс і сапяжанку, на цукроўкі і бэры. Замаркоціліся пад ценем ерусалімскія слівы й слівы-вянгеркі. Нават кустоўе ў каралеўскім садзе стаяла пад ценем: не пазбеглі яго ні парэчкі, ні маліны... Кароль уважліва агледзеў дрэвы і кусты — заўважнай шкоды цень ім пакуль што не ўчыніў, але ж ці мала што можа здарыцца!

— Ну, канцлер, і як вы гэта патлумачыце?

— Ваша Мосць, мы ўжо задавалі пытанне пра паходжанне гэтага ценю самым абазнаным навукоўцам нашага каралеўства — ніхто не можа даць пэўнага адказу. Кажуць — анамалія...

У гэты момант кароль пабачыў садоўніка, які стаў збоку:

— А ты што скажаш? Можа, ты ведаеш, адкуль узялася гэтая бяда на сад, даручаны твайму догляду?

Садоўніку дагэтуль не ўдавалася сказаць ніводнага слова: канцлер быў упэўнены, што неадукаваны стары не можа даць рады там, дзе спасавалі найлепшыя навуковыя розумы каралеўства. Цяпер у яго нарэшце з'явілася магчымасць выказацца.

Садоўнік павёў караля на ўскраек саду, да зарасніку глогу. Гэта было хіба адзінае месца, дзе злавесны цень не проста вісеў над садам, а рухаўся. Ён трапятаўся, нібы баяўся пакалоцца аб галінкі глогу. Менавіта на гэты рух і паказаў каралю стары садоўнік. А потым моўчкі пятнуў пальцам у неба. Твар садоўніка ззяў радасцю — ягоны трыумф!

Над садам у небе вісеў цмок. Ягоныя тапазавыя вочы з вертыкальнымі зрэнкамі з зацікаўленнем назіралі за мітуснёй людзей унізе. Кармазынавыя крылы лёгка неслі цмока ў паветры, ён толькі зрэдку ўзмахваў імі, каб трымацца зверху. Гэтае ўзмахванне і бачылі знізу кароль і садоўнік, калі назіралі рух ценю.

— Гмм... А чым нам гэта пагражае, канцлер? — кароль задумаўся.



— Я думаю, Ваша Мосць, нам варта знішчыць гэтага нахабу.

Цмок выцягнуў шыю, прыслухоўваючыся да гаворкі ўнізе. Словы канцлера яму, відавочна, не спадабаліся: ён абурана чмыхнуў, пусціўшы лёгкі струменьчык дыму.

Канцлер махнуў рукой. Паслухмяныя ягонаму знаку ў сад выбеглі каралеўскія гвардзейцы на чале з капітанам. Караля зацікавілі іх чорныя кірасы.

— Чаму такі незвычайны колер? Навошта вы іх так пафарбавалі?

— Гэта не фарба, Ваша Каралеўская Мосць, — адрапартаваў капітан. — Гэта тэфлонавы слой.

— Навошта? — у голасе караля гучала жывая зацікаўленасць такім новаўвядзеннем.

— Каб гвардзейцы ў сонечныя дні не прыгара... не спякліся, — выправіўся капітан. — Тэфлонавы слой, як вядома, аберагае ад апёкаў.

Па тварах гвардзейцаў, не зважаючы на тэфлонавыя кірасы, усё адно каціўся пот. Пераход у цмокаў цень яны прынялі як збавенне. Таму з вялікай неахвотай узнялі аркебузы, наставілі іх у неба...

— А можа, ён рэдкі від? — выказаў меркаванне садоўнік.

— Сапраўды, канцлер, магчыма, перад намі рэдкі від жывёлы. Мы яго зараз застрэлім, а суседнія каралеўствы нас потым засмяюць. Скажуць, не разабраліся і знішчылі апошняга цмока, — кароль вагаўся, прымерваючыся да міжнародных наступстваў такога палявання. — Ой, вы мяне прымусілі-ткі задумацца: у мяне ж так з'явяцца зморшчыны на лобе!

— А, можа быць, мы яго проста прагонім? — з канцлера проста біў фантан ідэяў. Кароль хітнуў галавой, літасціва пагаджаючыся з такім рашэннем.

Цмок апусціўся ніжэй над садам, выцягнуў шыю да каштэлі і злізнуў яблык. Пасля гэтага пакатаў яго на языку ды стаў павольна жаваць.

— Ты што? Гэта ж зеляпуха! Жывот балець будзе! — садоўніку не хапала словаў, каб суняць дурнаватую жывёлу.

Верагодна, цмоку таксама яблык падаўся занадта кіслым і няспелым. Ён сплюнуў недагрызак, пацэліўшы па канцлеру. Нядаўна папраўлены парык адразу ж зноў з'ехаў набок. Саноўнік пагразіў нахабе кулаком:

— Зараз ты ў мяне атрымаеш!

Не зважаючы на суперніка, цмок пакінуў у спакоі яблыні й стаў прымервацца да сліваў.

На канцлерскі знак гвардзейцы адставілі аркебузы і ўзялі ў рукі рагаткі. Аднак усе намаганні стралкоў былі марнымі: зарады папросту не даляталі да цмока. Тады было вырашана скарыстацца надзвычайнай мерай: у сад выцягнулі велічэзную паўтараметровую рагатку. Яе ўмацавалі пад нахілам, каб было зручней страляць уверх. Каралеўскае паляванне на цмока нарэшце пачалося!

Першы стрэл не нанёс цмоку ніякай шкоды, хаця й трапіў некуды ў жывот. На дыямантавай скуры не засталося нават следу.

— Ваша Мосць! Мы патрапілі! Толькі дзякуючы вашаму генію й непасрэднаму кіраўніцтву нашай вайсковай аперацыяй мы здолелі падстрэліць агрэсара. Цмок ужо смяротна паранены! — канцлер не мог схаваць радасці. — Яшчэ крыху — і перамога будзе за намі!..

— Што ў вас тут адбываецца? — прагучаў дзявочы голас аднекуль зверху. З высокага вакна выглядала прынцэса. Светла-рудыя валасы хваляй ліліся па плячах, не закрытых лёгкай шыфонавай сукенкай.

Дзяўчына ўважліва агледзела караля, канцлера, гвардзейцаў з рагаткай. І тут яна заўважыла цмока:

— Ой, які прыгожы!

Мяркуючы па задаволенай усмешцы, цмок быў цалкам згодны з такой ацэнкай. Ён павярнуўся ў палёце, бліснуўшы рубінавым бокам, каб паказаць, што ён прыгожы з усіх бакоў. Прынцэса з захапленнем сачыла за палётам дзівоснага звера.

І тут яна зноў паглядзела на рагатку.

— Дык вы збіраецеся ў яго страляць з гэтага? — у дзявочым голасе гучала абурэнне. — Гэтак нельга! Я забараняю! Я патрабую не рабіць так!

Кароль, які прадчуваў такі паварот сітуацыі, паспеў прадбачліва сыйсці, пакуль цмок кружляў, падстаўляючы бакі сонечным промням. У садзе засталіся толькі канцлер і гвардзейцы.

«Вось яна, цяжкая доля саноўніка! — падумаў канцлер. — Не прагоніш цмока — заслуе кароль. Прагоніш — трапіш у няміласць да прынцэсы... Але кароль важней: прынцэса мяне канцлерам не прызначыць. А кароль можа і прызначыць, і зняць...»

Ён адчайна махнуў гвардзейцам заціснутай у руцэ карункавай батыставай хусткай: працягвайце страляць па гэтым страшыдле!

Чарговы снарад з гіганцкай рагаткі пацэліў у цмока, якраз калі той падміргваў прынцэсе. Звер закрыў вочы і, склаўшы крылы, стаў валіцца ў сад — проста на канцлера і гвардзейцаў. З спалоханымі крыкамі тыя кінуліся ўцякаць і таму не бачылі, як за пару метраў ад зямлі цмок распрастаў крылы. Ён зноў узляцеў у неба і радасна запыхцеў.

Канцлер гэтага не бачыў: ён спяшаўся да караля. Гэта была яго, канцлерава, перамога. І паведаміць пра гэтую перамогу ён павінен быў сам, ніхто не мусіў перашкодзіць яму ў гэты момант трыумфу.

— Ваша Каралеўская Мосць! — закрычаў ён, забягаючы ў залу. — Вораг нізрынуты! Мы перамаглі! Гэта была слаўная бітва, пра якую напішуць песні й складуць легенды! Увесь гонар гэтай перамогі належыць вам!

Кароль скептычна паглядзеў на канцлера. Скрывіўся і паказаў на вакно:

— А гэта ты бачыў, *пе-ра-мож-ца?*

У блакіце неба на кармазынавым цмоку ляцела прынцэса. Шчаслівы дзявочы смех было чуваць нават у замку.

Не прагоніш цмока — заслуе кароль. Прагоніш — трапіш у няміласць да прынцэсы... Але кароль важней: прынцэса мяне канцлерам не прызначыць. А кароль можа і прызначыць, і зняць...

▸ ТАТАВЫ НАТАТКІ

# ПАЦАЛУНАК У НЕБА

Аднойчы мы гулялі ў мінскім парку-музеі валуноў з дзецьмі. Малодшая дачка папрасілася на рукі, бо стамілася. Я, вядома ж, падпарадкаваўся. Лежачы ў мяне на руках, яна глядзела ў неба, і мне вельмі захацелася яе пацалаваць. Але, калі паспрабаваў гэта зрабіць, дачка спрытна ўхілілася, сказаўшы: «Тата, ты калючы!» То бок спачатку ідзі пагаліся, а пасля ўжо з пацалункамі лезь. Яна працягвала ляжаць, гледзячы ў неба, і пасміхацца: «Толькі неба ты, тата, пацалаваў». Маўляў, у такім стане ўсё, што над ёй, было для яе небам…

Цягам некалькіх гадоў я занатоўваю розныя перліны, фразачкі, пацешныя слоўцы сваіх дзяцей. Калісьці ў ЖЖ, дзе шмат чаго падобнага змяшчалася пад тэгам «Гадуны» (такое слова прыдумалася для дзетак, калі яны яшчэ толькі-толькі пачыналі казаць свае першыя гукі), занатавалася наступнае: «Бацькі-песімісты бачаць у сабе абслуговы персанал. Бацькі-аптымісты вераць, што «дзесьці калісьці наперадзе» ўсё ВЕРнецца. Бывае, што цягам дня даводзіцца пабыць і адным, і другім». Вось жа, вяртаецца, і значна раней, чым уяўлялася тады, калі здавалася, што не скончацца ніколі вірусы і памперсы. І дзякуй Богу!

Такім чынам, галоўныя дзейныя асобы: Яна (на цяперашні час 8 гадоў), Данік (6 гадоў), Насця (4 гады), матуля і татуля.

**Анатоль Івашчанка**

## 2009 г.

**«Ціцёк»**

Ідзе рэклама пра «Аліварыю». Яна паказвае рукой на тэлевізар і кажа: «Тацін ціцёк» (Татаў сачок).

Калі Яне было 4 гады, яе непакоілі нервовыя цікі.

Яна (не жадаючы засынаць): «Ты ведаеш, мне ўжо новае вочка паставілі. Маргучае — каторае мыргае — другому хлопчыку аддалі...»

Яна: «Я так люблю кавун! Так люблю! Я яго ніколі не спрабавала».

Яна хоча дастаць канат з комплексу. Кажа: «Я абяцала пакатацца на канаце» «Каму ты абяцала?» Некалькі секундаў роздуму: «Я, я... сабе абяцала»

**Смак ката**

Адкрываю слоічак з дзіцячым харчаваннем. «Глядзі, якая смаката!» — кажу. Яна: «О, пюрэ са смакам коціка? Люблю!»

Яна (3 гады) на ўнітазе. Толькі нядаўна перасела з гаршка. «Ой, мне трэба памагчы». Я падаю ёй руку, яна грацыёзна саскоквае на падлогу й кажа: «Дзякуй табе, мой друг-памочнік!»

Варыянт. Будуем з Янай канструктар. Яна: «Тата, што ты робіш?» «Памагаю табе будаваць» «Дзякуй табе, мой друг!»

Прыгадваем вершык пра Таню. Я (з паўзамі): Наша Таня громко... плачет. Уронила в речку... мячик. Тише, Танечка, не плачь... А далей як? Яна (з секундным замяшаннем): Прыгай в речку — достань мяч.

**2 пытанні і 1 адказ**

Сусед па кватэрным блоку бацькоў (гэткі тыповы прадстаўнік новае хвалі менскае ліміты, пажарнік, звычайна крыху нападпітку, з якім мы даўно не сустракаліся, а ў яго ўжо павырасталі сыны-дубкі, якіх я памятаю шчэ жалудамі), убачыўшы, што я вылажу з машыны (каб адшпіліць Яну і Даніка), з павагай у голасе і ўхвальным кіўком у бок аўто: «Што, тваё?..» Я, упэўнены, што гаворка пра дзетак: «Маё. А чыё ж»... Заходзім у пад'езд, ля ліфта ён зноў пытаецца (ужо з меншай павагай), указваючы на дзетак: «Што, твае?» Я (зразумеўшы, дарэчы, хвіліная раней тое квіпрокво): «Мае. А чые ж»...

**Паўтары**

Яна задуменна сядзіць за сталом. Проста сядзіць, нічога не робіць. Штосьці абдумвае. Я прашу: «Яна! Хадзем чысціць зубы» Нуль рэакцыі. Паўтараю просьбу. Нуль рэакцыі. Я пачынаю злаваць: «Добра. Цяпер, калі Яна будзе пра штосьці прасіць, я таксама буду маўчаць у адказ». Яна спалохана: «Тата, добра-добра. Паўтары, пра што ты спытаў?..»

Варыянт: «Яна, колькі разоў цябе прасіць?..» Яна загінае пальцы: «Чатыры». Я без інтанацыі: «Яна, хадзем чысціць зубы» — 4 разы. Пасля чацвёртага разу Яна спакойна ўстае й ідзе выконваць просьбу...

**Мужык**

Яна засынаючы (спалоханым голасам): «Мама, Мама! Дзе мужык?..» Мама ў жаху, думаючы, што дачцэ ізноў штосьці прымроілася ў цемры: «Які мужык?» «Ну, тата, наш мужык»...

**Фікнэс і топлес**

Яна пасля садка: «Тата, запішыце мяне на фікнэс! Праўда, туды дзевачак не бяруць, але вы запішыце»...

Яна на гуртку народных спеваў развучвае новую песню, якую гучна спявае дома: «Раз, два, тры чатыры, мяне грамаце вучылі, не чытаць, не пісаць, толькі топлесам скакаць» І ве-ельмі не адразу разумеем, чаму насамрэч вучылі гераіню — поплесам скакаць.

Яна, калі маці кажа, каб даела кашу: «Не магу. У мяне засталася толькі кругленькая дзірачка ў зівоціку — для цукеркі-гарошка»...

**Д.Н. рыбы**

Сёння зранку дзеці (Яне два з паловай, Даніку толькі годзік споўніўся) святкавалі дзень народзінаў гумовай рыбы. Засервіравалі паляну: дасталі пластмасавыя талерачкі, лыжачкі, «торт» са свечкамі, зрабілі фаерверк... А пасля Яна кажа: «Данік! А давай яе з'ядзім!..»

Жонка выгнала малых з кухні, каб не замінялі гатаваць. Яна — да Даніка: «І што ж нам цяпер есці? Алоўкі, машыны, шафу? Пайшлі з'ядзім шафу»...

## Восень 2010

Яна: «Ой, каштанчык! Я буду з ім спаць. Гэта каштан-волат. Я яго люблю». Я: «Любіш каштан?» Яна (не задумваючыся, цалкам сур'ёзна): «Так, гэта вельмі складанае пачуццё»...

Я: «Добрай ночы, рабяткі»
«Мы не крэветкі!»

Данік ляжыць у дзіцячым пакоі на маце й крычыць-паўтарае: «Тата! Тата! Ну, тата-а!» Я (з кухні гучна): «Што, Дані-ік?» Данік разгублена: «Нінаю» (не знаю).

Данік (2 гады, трымаецца за вока): «Яна, ты мне ў вока трапіла!» Яна: «Нічога страшнага». Данік (разгублена): «Калі хочаш, я табе гэта дарую».

**Падарунак**

Я ад'язджаў у Менск з Барысава на тры ўніверсітэцкія пары. Вярнуўся позна, высмактаны тэхнарамі і дарогай. Вядома ж, ніякіх падарункаў не прывёз, бо не было як штосьці набыць. Данік сустракае ў дзвярах традыцыйным: «Тата! Ты што прывёз?» А ў мяне ў руках — толькі пакецік з мылам і ручніком. Данік зазірае ў пакет і бачыць там чырвоную мыльніцу. «Тата прывёз нам мыла! Ура! Тата, ты маладзец, ты сапраўдны друг»... Увесь вечар мне дзячыў за такі цудоўны падарунак…

Яна: «Мама, Данік на мяне наляцеў. Як шалёная лягушка (паказвае, як). Давай яго пакінем у Бабы Наты?»

Яна некалькі дзён у Бабы Наты (хварэе). Данік, кладучыся спаць увечары, трагічным голасам нараспеў: «Мне сумна без мамы і таты. Я зноў адзін у цемнаце».

## 2011 г.

Данік (на гаршку, куды ён пагадзіўся сесці за цукерку з умовай станоўчага выніку): «Я канесна не хацеў сібе такіх маму і тату». Я: «А якіх жа ты хацеў?» «Такіф, сьтоб не піледлагалі мне какаць». Праз нейкі час паўтарыў гэтую ж тэзу.

Яна, забягаючы на кухню (за ёй Данік): «Дайце мне цукерку, не то я ад вас не адстану!»

Данік: «Яна, хадзем гуляць у дочкі-мацеры! Я буду мацерам». Яна: «Не, я буду мацерам. Таму што ў мяне чароўны посах».

Мы: «Яна, вас жа ў садзіку вучаць чытаць і пісаць?» Яна: «Не. Нас у садзіку толькі прымушаюць іграць».

У садку ў Данькавай групе «мясцовыя» дзяўчаты размаўляюць з Янай. Яна: «Я узе ў групе для бальшуноў…» Потым знаёмяцца. Адна дзяўчынка. «Мяне завуць Яна». Яна: «І мяне Яна. Толькі любімая»

**Чужынец**

Я пагаліўся. Яна: «А што — у цябе чолка вырасце вось так (паказвае), да? А ў мамы вось так (паказвае)?» «Чаму ты так вырашыла?» «Таму што мужчына павінен заўсёды ўсё бачыць. Каб ведаць, дзе вораг. Ну, каб абараніць нас, сваіх жанчын». Далей ідзе пантаміма з дапамогай кулачкоў: «Вот нападае на нас чужынец, а ты яму — на! Палучы!..»

Едзем з Данікам да лагапеда. Данік глядзіцца ў люстэрка задняга віду: «Чаму я бачу машыны, каторыя едуць ззаду?» Я: «А ты хочаш бачыць сябе?» Д.: «Не, я з сабой не дружу» «Чаму? Ты што — сабе не падабаешся» «Так» «Чаму гэта?» «Таму што я… кудравы» Я пачынаю запэўніваць яго, што кучаравасць — гэта вельмі добра, шмат хто марыць быць кучаравым. «Добра. А на каго ты хочаш быць падобным?» Маўчыць. «Напрыклад, на Арыстарха — не хочаш?» «Арыстарх таксама часам бывае кудравым» «Ну а на каго ты хочаш быць падобным?» Данік (цалкам сур'ёзна і не раздумваючы): «На Яну»…

Данік, гледзячы ў вакно ў садку восеньскім надвячоркам: «Мокрая ноч».

Я: «Данік, калі ж ты ўжо пойдзеш у садзік?!» (Данік тыдзень сімулюе). Д.: «Тата! Ну адкуль жа я ведаю, у колькі выздараўлю?!»

Я: «Яна, адзявайся скарэй, на службу спознімся» Яна: «На якую?» «На царкоўную» «Што, у цырк?» «Не, у царкву» «А, царкоўная падобна на цырковую»

## 2012 г.

Данік — на лесвіцы, просіць Яну падкласці яму мат. І далей: «Калі я ўпаду, я зусім буду шкілетам».

Данік: «Мне 5, Яне 6. Што, Яна першая паляціць на воблачка, і я буду жыць адзін? Без сястры?!..»

Яна (6 год): «Мне здаецца, што ўсе мы жывем у кнізе, якую хтосьці чытае…»



Яна, Данік і Насця

Фота Аліны Века

Данік: «Тата, а ты помніш сваё дзяцінства?» «Ну, так» «А ў цябе твар змяніўся?..»

Яна: «Я так сумую па моры»
Насця: «А я па дачы»
Данік: «А я па нашым будучым доме»…

Данік: «Мама, ты зараз глядзіш на мяне, быццам не любіш альбо быццам ад мяне дрэнна пахне».

**«Дзіцячыя» пытанні**

«Якая лічба апошняя?»
«Што ядуць у Раі?»
«А ў Раі спяць?»
«Хто стварыў Боженьку?»
«А ў Боженькі ёсць крыжык?»
«А што вышэй — сонца ці Бог?» (на гэта Яна не задумваючыся адказвае: ты што, канешне Бог вышэй).

**«Наш дом»**

Забіралі з Данікам жонку з Бараўлянаў (яна там у лякарні на стажыроўцы). Праязджаем міма цясцёвага дому. А там — будоўля, катлаваны, краны... Данік кажа: «Эх, шкада, што наш дзед Саша урачом працуе, а не на пад'ёмным кране». Я: «Чаму? Хочаш на кран залезці?» Данік (яшчэ скрушней уздыхнуўшы): «Не. Ён бы тады нам наш дом пабудаваў».

**Лекі**

Прабабуля Таіса раскладае на ложку пакецікі з лекамі. Падыходзіць Яна (7 год). Бабуля: «Вось гэныя ад нырак, гэныя ад печані, гэныя ад галавы»...

Яна: «Што, ліквідуюць усё гэта?»

**Пудзіла**

Едзем з дачкой па трасе, праязджаем міма фігуры кардоннага дэпэсніка на фоне яго кардоннай машыны. Яна: «Тата, гэта што — пудзіла міліцыянера?» «У прынцыпе, так»…

ЛЕКТОРЫЙ

# ДА ГІСТОРЫІ МІФА



Пачынальнікам беларускай кнігавыдавецкай справы быў В. Іваноўскі. Аднак Зм. Жылуновіч, кіруючыся «мэтазгоднасцю», у сваім артыкуле сцвярджаў, што ў працы Круга народнай прасветы «галоўны ўдзел прыняў праф. Б. І. Эпімах-Шыпіла» і такім чынам стаў піянерам беларускага руху ХХ ст.

Вацлаў Іваноўскі

Анатоль СІДАРЭВІЧ

**У нашай гісторыка-літаратурнай навуцы (як і ў гісторыях іншых літаратур) ёсць міфалагемы і міфы, якія бытуюць не ў вуснай традыцыі (анекдоты, пераказы чутага і да т. п.), а зафіксаваны ў друкаваных тэкстах.**

Мне даводзілася пісаць пра міфалагему «кажушок ад Янкі Купалы». Перш адзін аўтар расказаў, што Купала перадаў той кажушок у турму зняволенаму Антону Луцкевічу. Праз колькі часу другі аўтар (пэўна, не чытаўшы першага) напісаў, што Купала ў той самы час (хапун заходнебеларускіх дзеячаў) перадаў у турму яшчэ адзін кажушок — на гэты раз Аляксандру Уласаву.

Дзякуй Богу, байкі пра «кажушкі ад Купалы» ўдалося спыніць. Але няма ніякай гарантыі, што ніхто не ўзновіць, напрыклад, міф аб брашуры, якую да 50-годдзя Песняра нібыта выпусціла падпольная Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Міф гэты я сустрэў у двух выданнях: у энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» і ў Поўным зборы твораў паэта. А выдумка гэтая абвяргаецца лёгка: не магла падпольная друкарня выпусціць брашуру з фотаздымкам, бо тады тэхніка вырабу клішэ была даволі складаная, і нават не ўсе легальныя друкарні мелі належнае абсталяванне. Электрагравіравальны ж апарат быў вынайдзены акурат у 1932 годзе. Для падпольнай друкарні гэта была даволі груваcткая прылада, якую правезці цераз нямецка-польскую мяжу у абход памежнай службы і мытні было практычна немагчыма. Да таго ж машыну належала падключыць да электрасеткі. Ды яшчэ патрабаваўся падрыхтаваны спецыяліст.

Няма сумневаў, што брашуру да 50-годдзя Янкі Купалы аддрукавалі ў Менску і перакінулі яе наклад у Заходнюю Беларусь. І было тое выданне своеасаблівым адказам на выдадзеную ў Вільні лекцыю Антона Луцкевіча «Янка Купала як прарок Адраджэння».

Яшчэ адзін міф датычыць асобы Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Ён і Купалу ў Піцер запрасіў, і прытуліў яго на сваёй кватэры, і ўладкаваў на вучобу, і нават узяў яго на поўнае ўтрыманне, як сцвярджаў удзельнік Усебеларускага з'езда Язэп Сушынскі. З Эпімахавай ініцыятывы, кажа міф, была створана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», а сам Эпімах-Шыпіла стаў яе фактычным кіраўніком.

Можна і трэба зразумець, чаму такое ці амаль такое друкавалася, напрыклад, у выдадзеным у 1986 годзе энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» (с. 238, 676), але практычна тое ж сцвярджаецца і ў ХХІ стагоддзі. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова пагартаць Беларускую Энцыклапедыю (т. 6, с. 496; т. 18, с.143–144). А ў той час да сярэдзіны 1990-х мы мелі ўкладзены Генадзем Кісялёвым зборнік дакументаў і матэрыялаў «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981) і ўгрунтаваныя на архіўных матэрыялах даследаванні Юрыя Туронка, з якіх вынікае, што Купалу ў Пецярбруг запрасіў Вацлаў Іваноўскі, што першыя паўгода паэт быў прапісаны на кватэры выдавецкай суполкі «Загляне сонца...», што ініцыятарам стварэння суполкі і яе кіраўніком быў пачынальнік беларускай кнігавыдавецкай справы ХХ ст. В. Іваноўскі (7 снежня споўнілася 70 гадоў з дня ягонага забойства), што Б. Эпімах-Шыпіла ў складаны для суполкі час быў адышоў ад яе спраў і прапанаваў ёй пашукаць іншую кватэру для юрыдычнага адрасу...

Міф пра Эпімаха Шыпілу мае сваіх «бацькоў». І ў гэтым артыкуле я паспрабую паказаць, як гэты міф ствараўся.

Першы тэкст пра Эпімаха-Шыпілу апублікаваў, наколькі мне вядома, у адным-адзіным нумары часопіса «Варта» (1918) нехта Ант. Саросек. Можна было б думаць, што за гэтым псеўданімам хаваўся прамотар выдання Язэп Варонка, які ў дарэвалюцыйны час уваходзіў у беларускае кола ў Піцеры, але 9 кастрычніка г. г. у газеце «Наша слова» з'явіўся артыкул Яраслава Грынкевіча «1700-годдзе Міланскага эдыкту і Беларусь», з якога вынікае, што ў 1913 годзе ў Мастоўскай рыма-каталіцкай парафіі служыў ксёндз Й.-В. Саросек. Узяўшы пад увагу гэты факт і тое, што прозвішча Сарасек (менавіта гэтак вымаўляюць яго на Гродзеншчыне; Саросек — вымаўленне польскае) даволі распаўсюджанае, можна дапусціць, што Ант. Саросек — сапраўднае імя і прозвішча чалавека, які ведаў Эпімаха-Шыпілу і, не выключана, быў яго вучнем.

Тэкст Ант. Саросека неадназначны. <...> Ёсць у тым тэксце і няпэўнае. Так, Ант. Саросек пісаў, што Эпімах-Шыпіла — «летапісец і вартаўнік беларускага руху». Гэтыя словы трэба ўспрымаць хутчэй як мастацкі прыём, бо, наколькі вядома, Эпімах Шыпіла не вёў летапісу беларускага руху і не быў яго актыўным удзельнікам (калі гаворка пра палітычны складнік гэтага руху). Цяжка сказаць, у чым канкрэтна выражалася роля Эпімаха-Шыпілы як вартаўніка беларускага руху, бо вядома, што ён не ўплываў на лёсавызначальныя рашэнні і Вялікай Беларускай Рады, і Усебеларускага з'езда, і Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... Наўрад ці можна згадзіцца і з цвярджаннем, што ад моманту заснавання суполкі «рука і вока» Эпімаха-Шыпілы «было ва ўсіх культурных беларускіх гуртках Пецярбурга і Вільні».

Нарэшце, у тэксце Ант. Саросека ўтрымлівалася непраўдзівая інфармацыя. Аўтар абвясціў Б. Эпімаха-Шыпілу «старшынёй вышэй памянёнай выдавецкай суполкі», а таксама старшынёй «Таварыства ізучэння культурна-прамысловага стану Беларусі» (пад апошнім, пэўна, меўся на ўвазе Беларускі літаратурна-навуковы гуртук студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта).

Цяжка сказаць, чым кіраваўся Ант. Саросек, падаючы такую непраўдзівую інфармацыю. Затое можна цалкам патлумачыць прычыны непраўдзівых сведчанняў, якія ўтрымліваюцца ў артыкуле З. Ж. (Зміцера Жылуновіча) «Праф. Б. І. Эпімах-Шыпіла як піянер беларускага руху» («Савецкая Беларусь», 1924, 25 снежня). На гэтыя прычыны ўказвае ўзяты ў дужкі падзагаловак артыкула: «Да выдання пачэснай пенсіі СНК Бел. Рэспублікі». Дзеячы БССР, якія ведалі Эмімаха-Шыпілу ў дарэвалюцыйны час і якіх ён прывеціў, зрабілі ўсё належнае, каб сталаму дзеячу была прызначана пенсія. Мабыць, Зм. Жылуновіч лічыў, што дзеля гэтага можна паграшыць супраць ісціны і прыпісаць Эпімаху-Шыпілу і тое добрае, чаго ён не рабіў.

Усім, хто вывучаў гісторыю беларускай літаратуры пачатку ХХ ст., вядома, што выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» выдавала таксама альманах «Маладая Беларусь». Вядома таксама, што да выдання альманаха непасрэднае дачыненне меў Я. Купала. Не менш вядома, што ў другім сшытку гэтага альманаха (1912) была змешчана першая аўтабіяграфія Цішкі Гартнага і нізка яго вершаў. На аснове гэтай падборкі ў 1913 годзе суполка выдала зборнік «Pie ni». Аднак пралетарскі паэт не мог пахваліцца ў БССР, што суполкаю, якая выпусціла яго першую кніжку, кіраваў сын памешчыка і цывільнага генерала, у дарэвалюцыйны час дацэнт Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбургу, а ў той час, як пісаўся артыкул для «Савецкай Беларусі», — прафесар «панскага» Політэхнічнага інстытута ў Варшаве Вацлаў Іваноўскі. З палітычнага гледзішча больш выгадна было «паставіць» на чале суполкі палітычна нейтральнага і нават наёмнага работніка, ледзь не «пралетара разумовай працы» Эпімаха-Шыпілу (што гэты «пралетар» меў фальварачак і выкладаў у Духоўнай акадэміі, мэтазгодна было маўчаць).

Трэба мець на ўвазе, што ў грамадстве, афіцыйнай ідэалогіяй якога быў марксізм-ленінізм, панаваў вульгарна-сацыялагічны падыход да грамадскіх з'яў. У прыватнасці, свядомасць асобнага чалавека, яго светпогляд ледзь не аўтаматычна выводзіліся з яго сацыяльнага паходжання і стану, з «быцця». Праўда, у гэтай філасофіі было нямала фарысейства: вульгарна-сацыялагічны падыход стасаваўся да каго хочаш, але не да Карла Маркса з Фрыдрыхам Энгельсам і не да бальшавіцкіх бонзаў, бо ў такім разе і марксізм, і ленінізм, і бальшавізм можна было аб'явіць буржуазна-памешчыцкімі плынямі. З тае прычыны, што старшыня выдавецкай суполкі В. Іваноўскі не быў бальшавіком-ленінцам, а ўваходзіў у склад Цэнтральнага Камітэта Беларускай Сацыялістычнай Грамады, называць яго сапраўдным кіраўніком суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» не выпадала.

Вядома, што прырода не трывае пустаты. Таму, паводле логікі, камусьці належала заняць месца В. Іваноўскага. Як і Ант. Саросек, Зм. Жылуновіч у сваім артыкуле старшынёю суполкі, а ў дадатак яшчэ і дырэктарам выдавецтва абвясціў Б. Эпімаха-Шыпілу.

Як мы памятаем, Ант. Саросек пісаў, што імя Эпімаха-Шыпілы стала вядома беларускай інтэлігенцыі ад часу заснавання суполкі. Удакладнім: пад беларускай інтэлігенцыяй аўтар разумеў сацыялістычную інтэлігенцыю, якая ў 1902 годзе заснавала Круг беларускай народнай прасветы і культуры, у наступным годзе — Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, а ў 1906-м — выдавецкую суполку і газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва», інтэлігенцыю, якая ў 1903-м распачала беларускую кнігавыдавецкую справу.

Вядома, што пачынальнікам беларускай кнігавыдавецкай справы быў В. Іваноўскі. Аднак Зм. Жылуновіч, кіруючыся «мэтазгоднасцю», у сваім артыкуле сцвярджаў, што ў працы Круга народнай прасветы «галоўны ўдзел прыняў праф. Б. І. Эпімах-Шыпіла» і такім чынам стаў піянерам беларускага руху ХХ ст. Мала таго, усе вольныя сродкі, якія заставаліся ў яго («астатак»), Эпімах-Шыпіла, як запэўніваў сваіх чытачоў Жылуновіч, аддаваў гэтаму таварыству. А пра пазнейшы час ён пісаў так: «Уся беларуская калонія [ў Піцеры] жыве з дапамогі Б. І. Эпімаха-Шыпілы».

Артыкул Зм. Жылуновіча, як і хадайніцтвы за Эпімаха-Шыпілу іншых асоб, на нейкі час прынёс карысць і беларускай навуцы, і асабіста былому памочніку бібліятэкара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. З 1925 года ён працаваў у Інстытуце беларускай культуры ў Менску.

Сярод прац, якія рэдагаваў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, былі і «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927) Мікалая Каспяровіча. Гэты даследчык у сваёй працы «Матар'ялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва» («Маладняк», 1927, сш. 6) замацаваў тое, што пра Б. Эпімаха-Шыпілу напісаў Зм. Жылуновіч.

Як вядома, у ліпені 1930-га маскоўскія сатрапы арыштавалі Б. Эпімаха-Шыпілу ў «справе» «Саюза вызвалення Беларусі», а ў верасні таго ж года забаранілі яму жыць у Менску. Бездапаможны, даведзены да жалюгоднага стану, ён у 1934 годзе памёр у Ленінградзе.

Імя рэдактара першых двух зборнікаў Янкі Купалы вярнулася з нябыту ў значнай меры дзякуючы Рыгору Семашкевічу, аўтару кніжкі «Браніслаў Эпімах-Шыпіла» (1968) ды іншых прац з гісторыі беларускага грамадска-літаратурнага руху ў Пецярбургу пачатку мінулага стагоддзя. Але разам з тым вярнуўся і міф, створаны Ант. Саросекам ды Зм. Жылуновічам.

З тае прычыны, што на імя Вацлава Іваноўскага было накладзена табу (да ранейшых яго «грахоў» дадалося яшчэ абвінавачванне ў супрацоўніцтве з нацысцкімі акупантамі), Р. Семашкевічу нічога іншага не заставалася, як паўтарыць напісанае да вайны. Праўда, малады вучоны жыў у іншых абставінах, у іншы час. Ведаючы аб рэальнай ролі Б. Эпімаха-Шыпілы ў гісторыі беларускага руху, Р. Семашкевіч не паставіў яго на чале Круга беларускай народнай прасветы і культуры і не абвясціў яго старшынёю і дырэктарам выдавецкай суполкі. Гісторык назваў яго неафіцыйным кіраўніком гэтае ўстановы. Такім чынам, даследчык пайшоў за ксяндзом Адамам Станкевічам, які ў брашуры «Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла...» (1935) напісаў, што яго настаўнік быў душою суполкі.

Ад часу выхаду ў свет прац Р. Семашкевіча прайшло нямала гадоў. У 2006-м у свет выйшаў ёмісты том Ю. Туронка «Мадэрная гісторыя Беларусі», у якім змешчаны ягоная праца «Дзейнасць беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу» і манаграфія «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі». Аднак у літаратуры ўсё яшчэ чутны згукі міфа, створанага Ант. Саросекам, Зм. Жылуновічам, М. Каспяровічам і А. Станкевічам. Семашкевічавы словы пра тое, што Б. Эпімах-Шыпіла быў неафіцыйным кіраўніком суполкі, некаторыя разумеюць так, што памочнік бібліятэкара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта быў яе фактычным кіраўніком. І тыражуюць гэтую выснову ў новых публікацыях. Гэтак жа тыражуецца міф і пра тое, што Б. Эпімах-Шыпіла запрасіў у 1909 годзе да сябе ў Пецярбург Янку Купалу і ўзяў яго на поўнае забеспячэнне. (Праўда, Зм. Жылуновіч, у адрозненне ад Я. Сушынскага, «удакладніў», што Б. Эпімах-Шыпіла вучыў і «сутрымоўваў» Я. Купалу не ўвесь час яго побыту ў Пецярбургу, а «каля двух гадоў».)

Міфы жывучыя і пераадольваць іх цяжка. Але пераадольваць іх трэба, проста неабходна.

ЗНАХОДКІ

# МІНСКІ СЛЕД МАРЦІНЭСА ПАСКУАЛІ

## ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКІЯ МАСОНСКІЯ АРХІВЫ І АТРЫБУТЫКА Ў БЕЛАРУСІ

*Анатоль СЦЕБУРАКА,*
*кандыдат гістарычных навук*

**Масонскія арганізацыі ў XVIII — XIX стагоддзях адыгрывалі значную ролю ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Еўропы і Новага Свету. Ахутаныя таямніцай і міфамі, масонскія ложы часцей за ўсё выконвалі функцыі дваранскіх клубаў, месцаў, дзе абмяркоўваліся і выспявалі палітычныя ідэі.**


Пячатка «Французскай ложы Аквітаніі»


Патэнт МдП «Les quatres Portes du Temple étant ouvertes par le Pouvoire du G. A.», 1763.






Марцінэс дэ Паскуалі (1727? – 1774)

У Беларусі франкмасоны мелі шэраг аб'яднанняў, падтрымлівалі актыўныя кантакты з паплечнікамі з Польшчы, Расіі, краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. (Падрабязней з мясцовымі вольнымі мулярамі можна пазнаёміцца ў кнізе прафесара В. В. Шведа «Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII — першая чвэрць XIX ст.)».)

Вялікі ўплыў на станаўленне сусветнанага масонства ў той час мелі ложы Англіі і Францыі.

У Беларусі захоўваецца калекцыя масонскіх рукапісаў, якія дазваляюць зазірнуць у таямніцы масонскага жыцця Францыі XVIII — першай трэці XX стагоддзяў. Адметна, што сярод дакументаў сустракаюцца сапраўдныя рэліквіі, значэнне якіх для еўрапейскай гісторыі масонства цяжка пераацаніць. Пакуль яны мала вядомыя зацікаўленым колам. Дадзены артыкул мусіць прыўзняць заслону і акрэсліць змест і характар «беларускага» комплексу заходнееўрапейскіх масонскіх рукапісаў.

Пытанне аб акалічнасцях з'яўлення масонскіх архіваў у Беларусі застаецца адкрытым. У час акупацыі Еўропы Гітлерам архівы франкмасонаў падлягалі канфіскацыі. Яны вывозіліся ў Нямеччыну, адкуль у 1945 г. трапілі ў СССР. У апошнія дзесяцігоддзі ў Расіі актывізаваліся працэсы рэстытуцыі, у выніку чаго ў Францыю была вернутая значная частка масонскіх архіваў. Аднак «беларускія» рукапісы вольных муляроў засталіся не закранутымі гэтымі працэсамі. Прыйшоў час зрабіць крок наперад і, прынамсі, абвясціць былым гаспадарам архіваў аб тым, што іх дакументы не загінулі і знаходзяцца ў нашай краіне.

Найбуйнейшы комплекс масонскіх дакументаў знаходзіцца ў навукова-даследчым аддзеле кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (НББ). Пэўная колькасць рукапісаў ёсць і ў аддзеле рэдкай кнігі акадэмічнай бібліятэкі (ЦНБ НАН), а асобныя выданні з масонскімі экслібрысамі сустракаюцца нават у Прэзідэнцкай бібліятэцы РБ.

Памер калекцыі НББ дастаткова значны: 30 асобных рукапісаў і каля 600 архіўных дакументаў, аб'яднаных у справы па храналагічнай прыкмеце. Вывучэнне рукапісаў дазволіла вызначыць іх прыналежнасць да канкрэтных ложаў і месца паходжання (у каталозе такой інфармацыі няма). Абсалютная большасць дакументаў адносіцца да архіваў трох французскіх масонскіх лож з Бардо.

Больш за ўсё дакументаў звязана з адной са старэйшых лож Францыі — «Ангельская № 204» (Loge de Saint-Jean de Jérusalem sous le titre distinctif de Anglaise 204 à l'Orient de Bordeaux). Яна была заснавана яшчэ ў 1732 г. ангельцам Марцінам Келі і працягвае дзейнічаць да сённяшняга дня. У нашым распараджэнні ёсць некалькі кніг, якія ўтрымліваюць пратаколы пасяджэнняў ложы. Пры чым захавалася першая (!) кніга за 1732-1755 гг. У гэтым фаліянце, аздобленым вокладкай з белага пергамена, змешчаны статут ложы, спісы ўдзельнікаў, змест абмеркаванняў і сустрэч масонаў. Да 1743 г. запісы вяліся на ангельскай, а пасля на французскай мове. Сярод архіўных матэрыялаў ложы пераважаюць дакументы за 1811–1813, 1817–1822, 1823–1826 гг. Гэта перш за ўсё карэспандэнцыя, спісы ўдзельнікаў масонскіх лож Францыі (пераважна Аквітаніі), фінансавыя дакументы, выпіскі са статутаў, скаргі, абвесткі.

**У час акупацыі Еўропы Гітлерам архівы франкмасонаў падлягалі канфіскацыі. Яны вывозіліся ў Нямеччыну, адкуль у 1945 г. трапілі ў СССР**

## Біяграфічная даведка

**«Французская ложа Аквітаніі»** (Loge Francaise d'Aquitaine à l'Orient de Bordeaux). Адна з масонскіх арганізацый Бардо, заснаваная яшчэ ў сярэдзіне XVIII ст. У НББ ёсць шэраг асобных фаліянтаў з запісамі пратаколаў пасяджэнняў ложы за 1770-1786, 1786-1796, 1793-1798, 1849-1857 гады. Самы цікавы перыяд яе існавання абумоўлены дзейнасцю славутага Марцінаса дэ Паскуалі. Гэта легендарная асоба ў 1761 г. была прынята ў гэту ложу, а пазней заснавала ў горадзе храм Коэнаў.

Да архіва гэтай ложы належыць унікальны пергамен, звязаны з асобай Паскуалі. Па меркаванні мадам Мішэль Нахон, прэзідэнта «Цэнтра Марцінэза дэ Паскуалі», гэта копія «масонскага патэнта», які быў складзены Марцінэсам разам з афіцэрамі яго храма ва ўрачыстых абставінах 3 лютага 1763 г. Размова ў ім ідзе аб духоўнай уладзе, якую мае Паскуалі. Арыгінал на ангельскай мове быў накіраваны ў Вялікую Ложу ў Парыжы ў якасці доказу яго правоў, а копія на французскай мове засталася ў Бардо. Гэты дакумент быў вядомы раней і ў 1880 г. часткова апублікаваны, але з 1940-ых гг. лічыўся згубленым. Цяпер мы ведаем беларускае месца знаходжання гэтага дакумента і маем магчымасць вярнуць яго з нябыту!

**Марцінэс дэ Паскуалі** (1727? — 1774) — вядомы тэург і тэасоф, які стаў адным з заснавальнікаў асобнага накірунку ў масонстве. У дактрыне Марцінэса спалучаліся элементы містычнай габрэйскай кабалістыкі і еўрапейскага містыцызму. Менавіта ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў марцінізму.

У 1760-ыя гады Марцінэс дзейнічае ў Францыі, дзе засноўвае ўласны Ордэн рыцараў-масонаў Абраных Коэнаў Сусвету. Яго вучні-паплечнікі Сэн-Мартэн і Вілермоз развілі дактрыну і далі пачатак асобным плыням, якія існуюць і сёння.

Паходжанне Марцінэса да гэтага часу да канца не высветлена, што прымушае працягваць даследаванне біяграфіі. Сёння аспрэчваецца яго габрэйскае паходжанне, выказваюцца і розныя версіі наконт радзімы: Гішпанія, Партугалія ці Францыя.

Адпаведна, любыя новыя матэрыялы, звязаныя з асобай Паскуалі, маюць вялікае значэнне. Вывучэннем яго біяграфіі актыўна займаюцца і сёння — як адэпты яго вучэння, так і не ангажаваныя ў масонства гісторыкі. Так, у 2011 годзе ў Бардо выйшла аб'ёмная манаграфія французскай даследчыцы Мішэль Нахон «Марцінэс дэ Паскуалі, загадкавы франкмасон тэург XVIII ст.».

**Марцінізм** — адна з праяваў містычнага эзатэрычнага хрысціянства. Дактрына абапіраецца на ўяўленне аб магчымасці вяртання чалавека да Бога праз Рэінтэграцыю. Яна прадугледжвала шлях унутранага самаўдасканалення, тэургічныя дзеянні і зносіны з ангелічнымі існасцямі.

**«Абраная Шатландская ложа» (Loge française Elue Ecossaise à l'Orient de Bordeaux).** Дзейнічала ў Бардо з 1740-ых гг. Да яе архіва належаць сотні разнастайных дакументаў, якія ахопліваюць перыяд за 1807–1814, 1822 гг.

Акрамя пералічаных масонскіх лож, чые дакументы складаюць абсалютную большасць «беларускай калекцыі», сустракаюцца і асобныя рукапісы іншага паходжання. Гэта рукапісная масонская слоўнікі, зборнікі тэалагічнага зместу, патэнты. Стан масонскіх рукапісаў надзвычай добры, фактычна няма ніякіх пашкоджанняў. У некаторых папках нават захаваліся ўнутраныя вопісы, зробленыя яшчэ французскімі архівістамі. На большасці дакументаў захаваліся пячаткі з чырвонага сургучу, арыгінальныя подпісы.

Перспектыўным для вывучэння падаецца масонскі рукапіс бельгійскага паходжання 1767 г. («L'Ordre de la Parfaite Union Verviers»). У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, у калекцыі фалерыстыкі, захоўваецца больш за сто масонскіх знакаў рытуальнага прызначэння. Шмат з якіх паходзяць з гораду Вэрв'е. У музеі прадстаўлены нямецкія, бельгійскія, французскія масонскія знакі і элементы рытуальнай вопраткі. У прыватнасці, масонскі фартух, які, верагодна, паходзіць з ложы «Ангельская №204». Высветлілася, што да 1970 г. гэтыя рэчы знаходзіліся ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, а пасля па вопісе (які захаваўся) былі перададзены ў музей.

Адпаведна, мы можам сцвярджаць, што ў НББ, ЦНБ НАН і Гістарычным музеі знайшлі прытулак «трафейныя» масонскія архівы і атрыбутыка. Безумоўна, далейшы лёс гэтых каштоўнасцяў мае вялікае значэнне для Беларусі і зацікаўленых краін Еўропы. У прыватнасці, «Цэнтр Марцінэса дэ Паскуалі» у Бардо выказаў зацікаўленасць у вывучэнні беларускіх масонскіх рукапісаў. У штогадовым бюлетэні Цэнтра мусіць у бліжэйшы час выйсці матэрыял аб беларускім масонскім архіве.

Далёка не ўсё зразумела з механізмам падзелу масонскіх архіваў паміж музеямі і бібліятэкамі ў БССР. Верагодна, у пэўных архівах існуюць адпаведныя справы, якія могуць праліць святло на дэталі перамяшчэння французскіх трафеяў…

Неафіцыйна супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі распавялі аб тым, што ў 1960-ыя гады частка масонскіх рукапісаў і атрыбутыкі, якая захоўвалася ў аўтэнтычных куфрах, была забрана асобамі ў штацкім і быццам бы далей была накіравана ў Рыгу. Гэты след пакуль праверыць не атрымалася.

Мяркую, што першая задача, якая павінна быць рэалізавана ў найбліжэйшы час, гэта ўсебаковае вывучэнне і апісанне калекцый і ўвядзенне іх у навуковы абарот. Амаль праз 70 гадоў пасля заканчэння вайны мы павінны вярнуць з нябыту «страчаныя» масонскія скарбы.

▸ **АГЛЯД**

# «БРАМА НЕЎМІРУЧАСЦІ»

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

**Напэўна, людзі, блізкія да літаратурнага атачэння, заўважылі выдавецкае ажыўленне на прасторах, аддаленых ад сталіцы. Маю на ўвазе выхады ў свет літаратурных альманахаў на Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне і Магілёўшчыне…**

Усё гэта гаворыць не пра агонію і заняпад, а пра так і нязможанае ліхімі ўладнымі сіламі нацыянальнае літаратурнае жыццё і выжыванне беларушчыны ўвогуле. Для тых, хто на сваёй скуры вычувае гэтае нацыянальнае *эмігранцкае* наканаванне ва ўласнай краіне, нязменным застаецца даўні адраджэнцкі дэвіз: або мова будзе жыць, або памрэ разам з намі… На жаль, толькі так.

Таму, у звязку з моўнай і культурна-адукацыйнай сітуацыяй у краіне, прынамсі ў літарацкай справе, можна прагматычна кіравацца любымі метадамі адстойвання сваёй самасці, у тым ліку і паблажліва-зазыўнымі (не важны талент, а важная прысутнасць) з нарошчваннем кола беларускамоўных (свядомых, калі хочаце) грамадзян і, найперш, сярод маладых, але ёсць тут і адваротны бок праблемы. Скажам, а як жа быць з адпаведным мастацкім узроўнем літаратуры, каб і надалей прываджваць да яе (а значыць, і да роднай мовы) новых «элітных» тубыльцаў (і не толькі)? Ускосна пра гэтае «высокае неба ідэала» (вітанне Анатолю Вярцінскаму!) напамінае нам паэт з Жабінкі А. Ганчук у «Жырандолі»:

*Як мухі, пазлятаемся да хлеба*
*І хвалім, ганьбім гэты час.*
*Няма калі ў зажуранае неба*
*Зірнуць, якое моліцца за нас.*

Альманах **«Жырандоля»** выходзіць пяты год запар. Ужо, можна сказаць, вырас з пялюшак. Яго цяперашні стан я пазначыў бы як пашырэнне і нарошчванне літаратурных і калегіяльных мускулаў… Ажно 90 аўтараў вынеслі на чытацкія вочы свае тэксты!




Альманах укладзены пераважна ў адпаведных рубрыках (хоць, скажам, адна з публікацый А. Філатава выбіваецца з рубрыкі «Крытыка і Краязнаўства»), але ўнутраны хаас і незбалансаванасць зместу выдання час ад часу раздражняюць. Відавочна, што тэксты проста збіраліся «да кучы», а пасля ўжо «сартыраваліся» адпаведна густам і задумкам рэдактара(ў). Але відавочна, што рэдактарскі мастацкі густ нярэдка выбіваецца і дае збоі, відаць, змушаныя, бо, па ўсім, на складальнікаў ціснула звышзадача: не пакрыўдзіць сталых літаратараў і адкрыць дыханне як мага шырэйшаму колу маладых і пачаткоўцаў… А самы важны чыннік літаратурнага працэсу — *чытач* — застаецца як бы па-за ўвагай або фігурай другараднай. Шкада, бо такім чынам можна неабходную справу звесці да асабістых патрэбаў ці да чыста калялітаратурных стасункаў… Праўда, да гэтага яшчэ далёка і, спадзяюся, так і не дойдзе. Зразумела, што нацыянальна-выдавецкай дзейнасць у нас — справа няпростая: знайсці матэрыяльныя сродкі, сабраць і адабраць літаратурныя тэксты, адрэдагаваць і адкарэкціраваць іх альбо знайсці бескарыснага карэктара, вычытаць гранкі і г.д. І гэта ўсё за мажлівае «дзякуй», а то, як у нашым выпадку, яшчэ і нарвацца на незаслужаную, няхай і далікатна-сяброўскую, крытыку… Ці шмат знойдзецца ў літарацкіх шэрагах дзеля такой справы аматараў-бяссрэбранікаў?.. Была Ніна Мацяш. Хто наступны ахвярнік?

Альманах пачынаецца з рубрыкі «Памяць». Ідэя добрая, але чамусьці па зачын (наўмысна ці не?) абрана публікацыя пра пісьменніка А. Авечкіна разам з яго тэкстам «Кукла» (на рускай мове)… І толькі пасля ідуць матэрыялы і творы выбітных берасцейцаў: У. Калесніка, М. Купрэева, Н. Мацяш, В. Сахарчука, І. Лагвіновіча… Ніякія спасылкі на алфавітны парадак сітуацыю ў гэтым выпадку не выратоўваюць. Бо, у рэшце рэшт, выданне ж само па сабе беларускае. Але нельга, відаць, рабіць і так, як гэта зроблена ў дэбютным альманаху «Брама». Колькі часу таму прачытаў у Фэйсбуку захапленне С. Запрудскага тым, што ў магілёўскім няма аніводнага выдрукаванага рускамоўнага тэксту. І яно насамрэч так, бо тыя, што меліся ў рэдкалегіі, былі перакладзены на беларускую мову. Паўстае пытанне: добра гэта ці кепска? Я думаю, тут ёсць нязграбная закамуфляванасць моўнай сітуацыі, бо натуральны працэс штучным замяніць можна толькі ў аўральным парадку і на кароткі тэрмін...

Але вернемся пад святло «Жырандолі», працягнуўшы гаворку пра ўзгаданую вышэй рубрыку «Памяць», публікацыі якой, па шчырасці кажучы, найчасцей скрашваюць менавіта творы саміх «герояў» рубрыкі — вершы М. Купрэева ды І. Лагвіновіча... Што праўда, «зацемкі» А. Філатава да постаці (і 90-гадовага юбілею) У. Калесніка таксама задаволілі мае чытацкія спадзяванні (гэта вельмі шчымлівыя, яркія і запамінальныя абразкі да вобраза літаратурнага настаўніка). Тэкст заіскрыўся ўсімі гранямі жыццёвых і лёсавых дзей і выпрабаванняў Уладзіміра Андрэевіча...




Адны з лепшых чыста літаратурна-мастацкіх публікацый альманаха — гэта вершаваныя падборкі А. Дэбіша, А. Ігнацюк, А. Белага і М. Тэлычко (менавіта так, на ўкраінскі лад, хоць самі змешчаныя вершы аўтара рускамоўныя)… У рубрыцы «для дзетак-малалетак» цікавая паэтычная публікацыя В. Дэбіша пад назовам «Показкі дзеда Быльца». Варты ўвагі зварот да моўнай палескай спадчыны (сабраныя яго бацькам загадкі на паляшуцкай мове) В. Губарэвіча. Ну хоць бы такую, блізкую да нашай тэмы: *«Зымня біла, насіньння чорнэ, пятёро горуть, двое дывляцьця, одынь кырує»* (бумага, чырніло, пальцы, гочы, голова).

Шмат у берасцейскім выданні адметных і здольных аўтараў, якія падаюць пэўныя літаратурныя надзеі, у рубрыцы «Маладыя галасы». Сярод іх як беларускамоўныя, так і рускамоўныя. Запомніліся стылёвай неардынарнасцю некаторыя радкі Дзм. Рыбака:

*…Плохие времена для слов*
*настали вдруг, но мы-то с ними!*

У гэтым плане магілёўская «Брама» для шырокага кола маладых аўтараў пакуль яшчэ толькі прыадчынена. Як піша берасцеец А. Рызо:

*Я не Руссо. В тысячелетье*
*третьем,*
*хлебнув свободы, вновь сижу*
*на поводке.*

У рубрыцы «Крытыка. Краязнаўства» прыцягваюць увагу рэцэнзіі К. Папко (на кнігу У. Калесніка «Доўг памяці»), М. Сянкевіча (на зборнік А. Каско «Нічога больш») і З. Мельнікавай (на пасмяротны зборнік М. Мішчанчука «Струна надзеі»).

Адметнай навізной і падштурхоўваннем да палемікі і пашырэння размовы пра спадчыну і нацыянальную памяць вызначаецца артыкул М. Папекі «Зубр на пячатках Брэста». Ёсць у альманаху і гумар, у тым ліку і дасціпныя пародыі…

Агулам, чытаючы «Жырандолю», адчуваеш узгадваны папярэднікамі немалы творчы патэнцыял літаратурнай Берасцейшчыны.

**Пасля прачытання альманахаў умацавалася перакананне, што сутнасная справа актыўнага натуральнага працэсу сучаснай беларускай літаратуры хоць і далёкая ад ідэала, усё ж не гібее, не стаіць на месцы, а мае як відавочныя, так і ўнутраныя зрухі…**

Мне падалося, што збядніла мастацкі каларыт «Жырандолі» адсутнасць твораў такіх выбітных берасцейскіх творцаў, як А. Паплаўскага, М. Шчура, В. Гапеева, Я. Дашынай, У. Глазава… Не думаю, што прычына ў ненапісаных тэкстах і пустых шуфлядах гэтых літаратараў… Здрабнее змястоўную важкасць альманаха і прабел з публікацыяй сур'ёзнай чытэльнай прозы. І гэта, бадай, самае балючае і малаасветленае месца «Жырандолі»…

Дэбютны выпуск **«Брамы»** ў сяброў магілёўскай філіі СБП атрымаўся «салідным», як любіць «казыраць» адзін шэф-рэдактар сваёй газетай. У адрозненне ад берасцейскага альманаха, тут выдрукаваны творы ўсяго толькі трыццаці літаратараў. Я назваў бы гэткае становішча «Брамы» арганізацыйным станаўленнем і творча-таварыскім збліжэннем яе чальцоў…

Альманах па сваім укладанні і структурнай выбудове блізкі да мастацка-літаратурнага часопіса. У параўнанні з «Жырандоляй», якую, здавалася б, можна было выцягваць проста на адным вопыце, тэксты для «Брамы» замаўляліся і падбіраліся згодна з папярэдняй задумкай. Калі ў «Жырандолі» не стае сапраўднай прозы, то якраз у «Браме» яна (у хаўрусе з публіцыстыкай) выратоўвае сітуацыю. Леглі на душу апаведы С. Украінкі, можа, залішне натуральныя, блізкія да грубай і сярмяжнай жыццёвай праўды, у адрозненне ад праўды мастацкай, і ўсё ж… чытэльныя і прымальныя. Уразіў аповед «Пара, пара!» В. Казакова (пра мужнасць гараджан Магілёва ў адстойванні сваёй самастойнасці ў змаганні з маскоўскімі стральцамі). Твор знаёмы мне па ранейшай публікацыі, але варты шырокай увагі і ўдумнага прачытання. На адным дыханні *зайшлі*, калі не ў сэрца, то недзе поруч, казытліва-гумарныя аповеды Т. Барысік. У іх, дарэчы, не надта глыбока прыхаваныя і зусім сур'ёзныя падтэксты. Цікавыя матэрыялы пра мясцовага мастака Базыля Камарова, як і адмысловыя вершы і лірычна-філасофскія запісы самога мастака. Арыгінальны аповед А. Санаценкі «Жорсткасць лёсу».

З паэзіі мне пакладзіся на душу пераклады М. Булавацкім вершаў У. Высоцкага. Нязмушаныя, з захаваннем у беларускай транскрыпцыі адчування трагіка-лірычнай лёсавай ноты ўсім вядомага барда другой паловы XX стагоддзя. Дабротна і з густам перастворany вершы вядомых польскіх паэтаў В. Еўмяньковым…

Ёсць што пачытаць і ў раздзеле «Спадчына. Успаміны. Дакументы», да прыкладу, артыкулы С. Чыгрына пра В. Ермаловіча і А. Пысіна, успаміны Н. Сандамірскага пра С. Грахоўскага, настальгічная храналогія С. Булавацкага «Пра гісторыю адной вёскі». Вельмі добра з унутраным веданнем прадмета напісаны артыкул даўно любімага мной аўтара В. Аўраменкі «Пра жыдоў, беларусаў ды іншыя тутэйшасці, або Чаму я не антысеміт». Як на маё разуменне, гэты тэкст варты публікацыі і ў больш масавым рэспубліканскім выданні. Пытанні, узнятыя аўтарам, яшчэ ўсё вельмі праблемныя і актуальныя, яны разгорнутыя ў спакойна-даверлівай танальнасці, выкладзеныя з досведам, са стылёвай аўтарскай арыгінальнасцю.

Адметны і раздзел «Літаразнаўства»; асабліва ўразіла эсэістычная развага Т. Аўсяннікавай вакол заўчаснага трагічнага сыходу з жыцця паэтэсы Яўгеніі Янішчыц…

У раздзеле «Сатыра і гумар» даволі ўдалыя вершы С. Украінкі і пародыі М. Яцкова.

Трэба аддзначыць, што ў «Браме» выдрукаваны «адборныя» тэксты пераважна вядомых аўтараў магілёўшчыны незалежна ад іх цяперашняга месца пражывання, тады як у берасцейцаў публікуюцца ўсе тамашнія-тутэйшыя і набліжаныя да іх *прымежнікі.*

Словам, ёсць што пачытаць, пра што пагаварыць-паразважаць і нават паспрачацца… А гэта ўжо знак пэўнай удачы адносна вартасці мастацкага напаўнення альманаха. Трапляюцца, праўда, і шараговыя публікацыі, але няма выпадковых, а тым больш бяздарных.

Калі на аснове гэтага майго агляду рабіць нейкую выснову, то хіба толькі станоўча-стрыманую. Так, ёсць асобныя ўдачы, напрацоўкі, намаганні… Пасля прачытання альманахаў умацавалася перакананне, што сутнасная справа актыўнага натуральнага працэсу сучаснай беларускай літаратуры хоць і далёкая ад ідэала, усё ж не гібее, не стаіць на месцы, а мае як відавочныя, так і ўнутраныя зрухі… Найперш інерцыйна-традыцыйныя, але сям-там з праглядней перспектывай наватворчых канцэпцый. Усё гэта — цяжка, напружана, ахвярна, здаўна з'ядналае адной нязменнай беларускай ідэяй: быць і застацца… Пры падобных тужлівых развагах згадваюцца ўражлівыя радкі з верша маладога магілёўскага паэта А. Карпенкі:

*Не, лепей стаць прывідам, ценем,*
*ахвярай нябыту,*
*Няхай ужо вечныя здзекі, пакуты,*
*пагарда і жах,*
*Каб толькі не ўбачыць цябе*
*разараваннай, раздзетай, разбітай,*
*Каб толькі над Краем і Мовай*
*ніколі не ставіць крыжа.*
*……………………………………*
*Няўжо ўсё святое — падман*
*і чыёсьці вар'яцтва?*
*І нехта прыдумаў і славу,*
*і рэкі крыві?*
*…Мы будзем з табою да смерці,*
*да Боскага царства,*
*І жыцці табе аддамо —*
*але толькі жывi!*

ЛІТСАЮЗ

# ЕЎТУШЭНКА І РЭФАРМАВАННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

**Паэт Яўгеній Еўтушэнка запатрабаваў рэфармаваць Саюз пісьменнікаў Расіі. Па яго словах, гэта арганізацыя павінна быць адзінай, з агульным кіраўніцтвам у Маскве і агульным Літфондам; яна павінна выконваць «адзіны этычны кодэкс» «з правам выключаць любых яе членаў, якія дапускаюць нацыяналістычныя ці палітычныя абразы сваіх калегаў».**



Фота: «РИА Новости»

Артыкул з прапановамі Я. Еўтушэнкі быў апублікаваны ў нумары «Литературной газеты» за 27 лістапада. Па меркаванні вядомага паэта, пасля распаду Саюза пісьменнікаў СССР на варагуючыя арганізацыі (маюцца на ўвазе Саюз пісьменнікаў Расіі і Саюз расійскіх пісьменнікаў), «колькасны ўзровень членаў саюзаў пісьменнікаў павялічыўся, а якасны ўпаў», дзякуючы чаму ў кіраўніцтве саюзаў засялі «безнадзейныя пасрэднасці». Канкрэтна Я. Еўтушэнка называе кіраўніка Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў (правапераемнік СП СССР) і Літфонда Івана Пераверзіна: «Хай мне хто-небудзь растлумачыць, што гэта за пісьменнік — Іван Пераверзін, за якія літаратурныя заслугі ён стаў кіраўніком адной з пісьменніцкіх арганізацый і дзе яго творы, прызнаныя нашым народам? Саюз пісьменнікаў — арганізацыя першым чынам творчая, а ён сябе вёў так, як быццам гэта арганізацыя адно камерцыйная, і за ўсё сваё знаходжанне не арганізаваў ні буйнай значнай канферэнцыі, ні міжнароднага сімпозіума, ніякага літаратурнага вечара вялікага маштабу, годнага расійскіх традыцый, які прыцягнуў увагу чытачоў і прэсы. Ён займаўся выключна прыбіраннем да рук рэштак уласнасці Саюза пісьменнікаў і Літфонда, распараджаючыся ёю па сваім меркаванні і пачуваючыся поўным гаспадаром».

Нагадаем, што некалькі гадоў таму пры ўдзеле згаданага Івана Пераверзіна, а таксама старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца і вышэйшых беларускіх ідэалагічных чыноўнікаў у Мінску быў заснаваны Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі…

На думку Я. Еўтушэнкі, цяпер «закінутае» тое, што першапачаткова было асновай Саюза пісьменнікаў: «правядзенне прафесійных абмеркаванняў новых вершаў, апавяданняў, раманаў у пісьменніцкім крузе, чыткі маладых, яшчэ нікому не вядомых пісьменнікаў». Па меркаванні паэта, прафесійныя літаратары павінны праводзіць «пісьменніцкія канферэнцыі і сімпозіумы па разнастайных праблемах — ад творчых да палітычных» з удзелам замежных калегаў, а таксама прэзідэнта і членаў урада.

Як лічыць Я. Еўтушэнка, неабходна аднавіць пісьменніцкія выступы па краіне — гэта не толькі «ўзняло б узровень густу, які цяпер жахліва знізіўся», але і дазволіла б «і пісьменнікам зарабляць, і чытачам мець зносіны з пісьменнікамі». Таксама ён прапанаваў ураду ўвесці бюджэтную пасаду пісьменніка пры дзяржаўным універсітэце, якая дазволіла б літаратарам жыць на прафесарскую зарплату і спакойна працаваць над вялікімі творамі, а заадно і выкладаць.

Па меркаванні паэта, для новага Саюза ў Расіі ёсць «духоўны генафонд сапраўдных таленавітых прафесіяналаў», «але гэта, на жаль, не суцэльнае энергетычнае ядро, а разрозненыя творчыя асобы, якія разышліся з-за палітычных рознагалоссяў у групы і групкі і якія часам займаюцца ўзаемаабразамі ці ўзаемаігнараваннем, а часам і ўзнагароджваюць адзін аднаго нейкімі сумніўнымі прэміямі».

Саюз пісьменнікаў СССР быў створаны ў 1934 годзе, а ў 1991-м распаўся разам з СССР на асобныя арганізацыі ў кожнай з дзяржаў. У Расіі іх з'явілася адразу дзве: «патрыятычны» Саюз пісьменнікаў Расіі і «дэмакратычны» Саюз расійскіх пісьменнікаў.

Тым часам журы нацыянальнай літаратурнай прэміі «Вялікая кніга» ўручыла Яўгенію Еўтушэнку адмысловую ўзнагароду «За гонар і годнасць». Паэт, які на той час знаходзіўся ў ЗША, у сваім звароце прызнаўся, што глыбока кранутым такой высокай адзнакай сваёй працы, якая вялася на працягу апошніх 65 гадоў.

Уручаючы ўзнагароду, Міхась Сеславінскі, кіраўнік «Роспечаці», выказаў падзяку пісьменніку за яго прозу і вершы, а таксама за шматгранную літаратурную дзейнасць, у прыватнасці, дыялогі з Саламонам Волкавым — дыскусіі сапраўды вялікіх людзей пра маральнасць і высокія матэрыі. У зваротным слове Яўгеній Еўтушэнка заявіў: «Наша нацыянальная ідэя даўно існуе і непарушная — яна выяўлена ў рускай літаратуры. Чалавек, які пазбаўлены любові да ўласнай нацыянальнай паэзіі, не з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам сваёй краіны».

УЗНАГАРОДЫ

# АДЗНАКА ЛІНЫ КАСТЭНКА

**Вядомая ўкраінская пісьменніца Ліна Кастэнка, якой сёлета споўнілася 83 гады, стала лаўрэатам міжнароднай адзнакі імя Амяляна Каўча «за ўнёсак у развіццё дыялогу культур і народаў, міжрэлігійнага і міжнацыянальнага паразумення, дабрадзейнасці, за асабісты жыццёвы прыклад ахвярнасці і гуманізму».**



Цырымонія ўручэння ўзнагароды адбылася ў Рыме.

Адзнаку Блажэннага Свяшчэннамучаніка Амяляна Каўча аднайменны камітэт заснаваў у 2010 годзе. Ганаровым кіраўніком камітэта з'яўляецца кардынал Любамір Гузар. Праца камітэта здзяйсняецца пад патранатам Галавы Украінскай грэка-каталіцкай царквы.

Грэка-каталіцкі святар, блажэнны Амялян Коўч падчас нямецкай акупацыі Заходняй Украіны, імкнучыся ўратаваць габрэяў ад знішчэння, хрысціў іх і выдаваў адпаведныя метрыкі, не зважаючы на забарону гэтага акупацыйнай уладаю. Звярнуўся з лістом да Гітлера, у якім асудзіў нацысцкія масавыя чалавечыя забойствы. За тое вясной 1943 года быў арыштаваны і знішчаны ў канцлагеры «Майданэк».

# РУСКІ БУКЕР

**Лаўрэатам прэміі «Рускі Букер» у 2013 годзе стаў Андрэй Волас за раман «Возвращение в Панджруд».**



Акрамя таго, А. Волас атрымаў і прэмію «Студэнцкі Букер». Яе лаўрэата абіралі навучэнцы расійскіх ВНУ — пераможцы конкурсу на найлепшае эсэ, напісанае пра адзін з раманаў, якія ўвайшлі ў лонг-ліст Букераўскай прэміі.

Журы на чале з пісьменнікам Андрэем Дзмітрыевым, леташнім лаўрэатам, выбірала пераможцу з шасці фіналістаў. У шорт-лісце прэміі былі таксама Яўген Вадалазкін, Дзяніс Гуцко, Андрэй Іваноў, Маргарыта Хемлін і Уладзімір Шапко.

Лаўрэат прэміі атрымае грашовае ўзнагароджанне ў памеры 1,5 млн расійскіх рублёў. Усім фіналістам будзе прысуджана па 150 тысяч рублёў.

Літаратурная прэмія «Рускі Букер» упершыню прысуджалася ў 1992 годзе. У 2011-м праз цяжкасці са спонсарам аргкамітэт прэміі вырашыў уручаць «Рускага Букера дзесяцігоддзя» — прэміяй пасмяротна быў уганараваны Аляксандр Чудакоў за раман «Ложится мгла на старые ступени… ».



# ПРЭМІЯ ІМЯ ГЕДРОЙЦА

**Прэмію імя Ежы Гедройца атрымаў украінскі гісторык Яраслаў Грыцак за кнігу «Пророк у своїй вітчизні: Іван Франко і його спільнота».**

Як адзначыў сакратар Капітулы Прэміі імя Гедройца прафесар Івона Гофман, публікацыя Грыцака прысвечана ключавой для ўкраінскага народа постаці — Івана Франко: «Гэтая кніга прысвечана постаці, малавядомай у Польшчы. Гэта палітык, гісторык, грамадскі дзеяч. Важна, што аўтар малюе Франка на фоне вялікіх палітычна-гістарычных падзей, на фоне памежжа культур. Гэтая кніга — пра нараджэнне ўкраінскага народа».

Прэміяй імя Ежы Гедройца штогод ганаруюцца ўкраінскія творцы за даследаванні спадчыны парыжскай «Культуры» ці за творчы працяг ідэй Е. Гедройца. (Аднайменная прэмія заснаваная тры гады таму і ў Беларусі.)

Ежы Гедройц (1906–2000) нарадзіўся ў Мінску, польскі публіцыст, грамадскі дзеяч, заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса «Kultura», які выдаваўся ў Парыжы, а таксама выдавецтва «Instytut Literacki». Гедройц быў актыўным прыхільнікам польска-ўкраінскага супрацоўніцтва. З яго ініцыятывы ў «Kultury» выйшла анталогія ўкраінскай літаратуры 1917–1933 гадоў «Розстріляне відродження».

## ПАЛІЦА

### ГЕРКУЛЕСАВЫ БУРЛЕСКІ

**Пятро Васючэнка. Дванаццаць подзвігаў Геракла. Раман-бурлеск. — Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2013.**




Зірнуўшы на вокладку кнігі, абазнаны чытач мусіць здзівіцца чарговай іпастасі аўтара, якога ўжо ведае як удумлівага літаратуразнаўцу, драматурга, празаіка з бездакорным стылем, паэта-гумарыста, эсэіста-культуролага…

Але здзіўленне хутка мінецца, калі згадае ён васючэнкавы казачныя аповесці «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі».

Не памыліцца ён, калі выкажа меркаванне, што гэта аніякім разам не акадэмічны пераказ старажытнагрэцкіх міфаў і легенд. Праўдзівую будзе і здагадка, што ў дванаццаці навэлах прачытае ён пра подзвігі асілка, які змагаецца з нямейскім львом, лярнейскай гідрай, крыцкім быком і іншымі монстрамі, ліхадзеямі, разбойнікамі дый неадменна перамагае іх. Не схібіць кнігалюб, калі дапусціць, што чакае яго расповед у фірмовай васючэнкавай манеры: займальна, з іроніяй і гумарам. Будзе мець рацыю аматар прыгожага пісьменства, калі палічыць, што аўтар узяў пад увагу вопыт нацыянальнай класікі — як мінімум, парадыйных паэм «Тарас на Парнасе» Канстанціна Вераніцына і «Энеіда навыварат» Вікенція Равінскага, што абеларусілі асучаснілі антычныя сюжэты.

«Я ўявіў сабе тагачасную Грэцыю, — прызнаецца ў прадмове аўтар, — у сваёй свядомасці накрэсліў яе карту з яе гарамі і доламі, з вінаграднікамі, козамі і пастухамі, і яна падалася мне падобнай на маю радзіму — Палачыну, або Крыўю, таксама старажытны і запаветны край, адкуль вытокі мудрасці і кніжнасці Беларусі».

Старажытны герой паводле Васючэнкі робіць і часткова выпраўляе свае памылкі, расце інтэлектуальна і маральна, а таму твор можна назваць і раманам дыдактычным.

Але чытач не павінен палохацца гэтага азначэння — той, хто любіць неверагодныя прыгоды, авантуры, метамарфозы і двубоі, у дастатку знойдзе іх у кнізе.

Беларуская літаратура заўсёды ўмела з пэўнай доляй іроніі дый гумару распавядаць пра мінулае, пра значныя і знакавыя рэчы. Тое самае робіць аўтар новай версіі Гераклавых прыгодаў, адрасаванай падлеткам.

Тактоўна і густоўна спрыяе яму ілюстратарка Галіна Хінка-Янушкевіч, чые лапідарныя малюнкі прымушаюць згадаць выявы на амфарах і на франтонах старажытнагрэцкіх храмаў.

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by